ББК 81.2Бел-4
М 33

Укладальнікі:
М. В. Абабурка, Л. І. Аляксеенка, М. П. Бузук, С. Я. Кечык,
С. В. Клімуць, М. П. Луферава, У. А. Лядоўскі, В. І. Рагаўцоў

Рэдактары:
А. А. Крывіцкі, І. Я. Яшкін,
кандыдаты філалагічных навук

Рэцэнзенты:
А. М. Віркоўская, Г. А. Цыхун,
кандыдаты філалагічных навук

**Матэрыялы** да абласнога слоўніка Магілёўшчыны / [Укл. М. В. Абабурка, Л. І. Аляксеенка, М. П. Бузук і інш.; Рэд. А. А. Крывіцкі, І. Я. Яшкін].— Мн.: Навука і тэхніка, 1981.— 128 с.
М 33

45 к.

У слоўнік уключана дыялектная лексіка, сабраная за апошнія два дзесяцігоддзі ў розных раёнах Магілёўскай вобласці. Усе рэестравыя словы суправаджаюцца граматыка-стылістычнымі паметамі; шырока прыводзіцца ілюстрацыйны матэрыял.

Разлічан на лінгвістаў, выкладчыкаў і студэнтаў філалагічных факультэтаў ВНУ.

М $\frac{70105-117}{М316-81}$ 265—81 4602020000

ББК 81.2Бел-4
4Бел

*Памяці*
*Пятра Якаўлевіча Юргелевіча*

# ПРАДМОВА

Здабыткі сучаснай беларускай дыялекталогіі, асабліва дыялектнай лексікаграфіі, значныя. Аднак стварэнне поўнага дыялектнага слоўніка, або слоўніка народных гаворак Беларусі, з'яўляецца пакуль што справай будучыні. Безумоўна, своечасовая падрыхтоўка і выданне беларускіх абласных слоўнікаў, сярод якіх пэўнае месца адводзіцца абласному слоўніку Магілёўшчыны, значна паскорыць гэту агульнадзяржаўную справу. Таму кафедра беларускай мовы Магілёўскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова стараецца як мага хутчэй завяршыць збор і апрацоўку сучаснай дыялектнай лексікі Магілёўскай вобласці.

Гісторыя публікацыі лексічных матэрыялаў Магілёўшчыны пачынаецца адразу пасля далучэння яе да Расійскай імперыі ў выніку падзелу Рэчы Паспалітай (1772, 1793, 1795 гг.). Ужо ў 1786 г. з'яўляецца этнаграфічная праца Андрэя Меера «Апісанне Крычаўскага графства»[1], у якой робяцца некаторыя назіранні над штучнай мовай рамеснікаў г. Крычава і падаюцца назвы збожжавых культур, дрэў, звяроў, рыб, птушак, паўзуноў, насякомых, раслін, грыбоў у мясцовых гаворках Крычаўскага, Краснапольскага, Чэрыкаўскага, Хоцімскага, Касцюковіцкага раёнаў Магілёўскай вобласці (паводле сучаснага палітыка-адміністрацыйнага падзелу БССР). Больш інтэнсіўна публікаваліся лексічныя матэрыялы ў XIX ст., калі распачалі сваю дзейнасць І. І. Грыгаровіч, І. І. Насовіч, Е. Р. Раманаў, П. В. Шэйн і іншыя этнографы і мовазнаўцы, якія, даследуючы жыццё і побыт жыхароў Магілёўскай губерні, запісалі і растлумачылі агромністую колькасць не толькі агуль-

[1] Могилевская старина, 1901, вып. 2, с. 86—137.

нанародных, але і вузкамясцовых слоў і выразаў Магілёўшчыны. Параўнанне ўказаных матэрыялаў з сучаснымі дыялектнымі запісамі (слоўнікамі) дае багатую глебу для характарыстыкі ўстойлівасці і зменлівасці народна-дыялектнага слова.

Збор матэрыялаў для абласнога слоўніка Магілёўшчыны распачаў П. Я. Юргелевіч, задумай якога было стварэнне поўнага дыялектнага слоўніка Магілёўскай вобласці, куды б увайшла ўся лексіка Магілёўшчыны. Пасля выхаду ў свет «Краёвага слоўніка Усходняй Магілёўшчыны» І. К. Бялькевіча (1970) было вырашана рыхтаваць найперш дыферэнцыяльны слоўнік Магілёўшчыны. Паколькі фіксацыя дыялектнай лексікі праводзіцца выкладчыкамі і студэнтамі беларускага аддзялення філалагічнага факультэта (галоўным чынам у час дыялекталагічных экспедыцый, а таксама пры напісанні курсавых і дыпломных), апрацоўка сабранага матэрыялу ажыццяўляецца пастунова, г. зн. па меры яго назапашвання. Так склаўся план падрыхтоўкі да выдання сабранага матэрыялу асобнымі выпускамі.

Падрыхтаваны да выдання першы выпуск «Матэрыялаў да абласнога слоўніка Магілёўшчыны» ўключае ў сябе словы і выразы, сабраныя ва ўсіх раёнах Магілёўскай вобласці за апошнія два дзесяцігоддзі. Прынцыпы ўкладання «Матэрыялаў да абласнога слоўніка Магілёўшчыны» ў асноўным тыя, што ўжо выпрацаваны ў сучаснай беларускай дыялектнай лексікаграфіі.

Усе рэестравыя словы і выразы «Матэрыялаў» суправаджаюцца граматыка-стылістычнымі паметамі, якія характарызуюць тую ці іншую лексему з боку адносін яе да пэўнай часціны мовы, а таксама лексічнай і сінтаксічнай спалучальнасці яе з іншымі словамі жывога маўлення.

Пашпартызацыя прыкладаў-ілюстрацый падаецца па апошняму адміністрацыйна-тэрытарыяльнаму падзелу Магілёўскай вобласці.

Раздзел «Прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы» ўключаны традыцыйна, г. зн. як і ў іншых дыялектных слоўніках. Пашпартызацыя змешчаных выслоўяў не даецца з прычыны шырокай распаўсюджанасці іх на ўсёй тэрыторыі Магілёўскай вобласці.

*М. В. АБАБУРКА*

# УМОЎНЫЯ СКАРАЧЭННІ

## ГРАМАТЫКА-СТЫЛІСТЫЧНЫЯ ПАМЕТЫ

абразл. — абразлівае
аг. — агульны род
адз. — адзіночны лік
асудж. — асуджальнае
выкл. — выклічнік
гарэзл. — гарэзлівае
груб. — грубае
гукаперайм. — гукапераймальнае слова
дзіц. — дзіцячае
ж. — жаночы род
займ. — займеннік
зб. — зборны
зак. — закончанае трыванне
злуч. — злучнік
зневаж. — зневажальнае
іран. — іранічнае
ласк. — ласкавае
лаянк. — лаянкавае
м. — мужчынскі род
мн. — множны лік
н. — ніякі род
неадабр. — неадабральнае
незак. — незакончанае трыванне
пагардл. — пагардлівае
перан. — пераноснае
прым. — прыметнік
прын. — прыназоўнік
прысл. — прыслоўе
спалуч. — спалучэнне (лексікалізаванае)
часц. — часціца
уст. — устарэлае

## РАЁНЫ МАГІЛЁЎСКАЙ ВОБЛАСЦІ

| | |
|---|---|
| Асіп. | — Асіповіцкі |
| Бабр. | — Бабруйскі |
| Бых. | — Быхаўскі |
| Бял. | — Бялыніцкі |
| Глуск. | — Глускі |
| Гор. | — Горацкі |
| Касц. | — Касцюковіцкі |
| Кір. | — Кіраўскі |
| Клім. | — Клімавіцкі |
| Красн. | — Краснапольскі |
| Кругл. | — Круглянскі |
| Крыч. | — Крычаўскі |
| Маг. | — Магілёўскі |
| Мсц. | — Мсціслаўскі |
| Слаўг. | — Слаўгарадскі |
| Хоц. | — Хоцімскі |
| Чав. | — Чавускі |
| Чэрык. | — Чэрыкаўскі |
| Шкл. | — Шклоўскі |

## А

АББІВА'ЦЬ *незак.* Абмалочваць (уручную). *Сяньні аббіва'юць ячмень.* Шаламы Слаўг.

АББІ'ЦЬ *зак.* Абмалаціць (уручную). *Калі-то я сёліта аббі'ў жыта?* Галоўчын Бял.

АБГАВОРЫЯ *ж.* Абгавор. *Цяперіцька будзіць ужо абгаворія на ўсю дзярэўню посьлі такой сварькі.* Рымінка Чав.

АБГАЛАШЫ'ЦЬ *зак.* Абтрэсці. *Ат суседавых дзяцей адбою німа, увесь сад абгылашылі.* Цітаўка Клім.

АБГАРА'ЖЫВАЦЬ *незак.* Абгароджваць. *Скора ўжэ пысіўная, нада гарот абгыряжувыць, старыя прясла нікуды нягодна.* Кавалёўка Клім.

АБГРАБСЦІ'СЯ *зак.* Задаволіцца ў самай высокай меры. *Абгрябліся ў етым гаду малінью.* Журбін Касц.

АБДЗЕ'ЛАЦЬ *зак.* Абкідаць край (абвязаць, абшыць, зарубіць). *Абдзелый мне платочык крючком.* Рымінка Чав.

АБДЗЁР *м.* Ачышчаны ад кастрыцы і кудзелі лён. *Пакінуў ён у мяне мяшок абдзёру і сам як утапіўся — трэцій дзень ня едзіць.* Заполле Шкл.

АБДРЫ'ПАНЫЙ *прым.* Зношаны, вельмі стары. *У суматосі абдрыпаный пінжак адзела.* Боркі Кір.

АБКАЛЯСАВА'ЦЬ *зак.* Аб'ездзіць, абхадзіць. *Апкылісывай увесь горыт, анічога ні знайшоў.* Заццерка Кругл.

АБКРЫВА'ЧКА *ж.* Вялікая хустка, якой абкрываюць плечы. *Вазьмі апкрывачку, ато зьмерзьняш.* Цяцерын Кругл.

АБЛІ'К *м.* Воблік, аблічча. *Піріпужалі сыбакі нашыга Ваньку — жывога абліку на нём нетуці.* Асмолавічы Мсц.

АБМАХНУ'ЦЦА *зак.* Памыліцца. *Абмахнулысь, ні на*

*тую сьцешку пышла.* Рэкта Гор. *Ай, абмахнулыся, ня тое зрабіла.* Чырвоная Паляна Чав.

АБМЫ'ЛКІ *мн.* Мыльная вада, што застаецца пасля мыцця. *Во вынісу абмылкі на двор.* Вусце Чэрык.

АБНЯХА'ІЦЬ *зак.* Абняславіць. *Яго абніхаілі зусім.* Каўшова Мсц.

А БО *выкл.* А божа! *А бо, дык ці ета ш я зьдзелыла?* Шаламы Слаўг.

АБОЙКІ *мн.* Зношаныя ад выкарыстання прылады. *Пупаліся ні калёсы, а абойкі нейкія.* Дубна Слаўг.

АБОРАК *м.* Нізкае месца сярод ворнай зямлі, зарослае травой або хмызняком. *Пойдзім касіць аборык?* Каўшова Мсц.

АБОСЫЙ *прым.* Босы. *Мой хлопіц абосый пабегыў пы хаці, то сяньні вужо кашляіць.* Звянчатка Клім.

АБПА'РАК *м.* Венік, якім другі раз карыстаюцца ў лазні. *Новага веніка німа, бяры аппарак.* Цяцерын Кругл.

АБПРЭГЧЫСЯ *зак.* Абапіцца ці аб'есціся. *Можна раз-два вадой аппрэхчысь, прышоўшы з лугу.* Боркі Кір.

АБЦА'Ц *м.* Абцас. *Купіла п чаравікі, ды высокія апцацы.* Дзікае Глуск.

АБШЧАПІ'ЦЬ *зак.* Абхапіць рукамі. *Унукі мяне так моцна апшчапілі, чуць не завалілі.* Рэкта Гор.

АБШЧЫКАТУ'РЫЦЬ *зак.* Атынкаваць. *Сёліта нада абізацільна апшчыкатуріць хату, а то зімой апяць будзіць халодна, хуць ваўкоў гыняй.* Кавалёўка Клім.

АБШЫ'РНАСЦЬ *ж.* Абшар, прастора. *Бальшая апшырнасць лесу цягнецца за вёскай.* Сялец Быx.

АБЭРЖА *ж. зневаж.* Вялікая, не даведзеная да ладу пабудова. *Хіба ж гэта хата, у гэтай абэржы толькі вецер гуляе.* Тажылавічы Бабр.

АБЯЧЭЙКА, АБНЯЧЭЙКА *ж.* 1. Край чаго-н. круглага. 2. Лубяная частка сіта, рэшата. 3. Павека. *Ні ведаю, чаго-та баляць маі абячэйкі.* Чачэвічы Быx. *Закрый абнячэйкі, а то вочы засуріш.* Вялікі Бор Касц.

АВЕ'ЧЧЫЙ *прым.* Авечы. *У нас авеччым салам затаўкаюць бульбу, капусту.* Бярозкі Хоц.

АГАДА'ЦЬ *зак.* Раздабыць, набыць, расстарацца. *Трэба грошай агадаць і купіць боты.* Ветрынка Быx. *Агадалі мне модную кашулю.* Александрыя Шкл.

АГЛАБЕ'Ц *м.* Кузаў калёс. *Налажыў сена аж да самага верху аглабца і пагнаў каня, а сторaж тут як*

*тут.* Новая Добасна Кір. *Мой жа чалавек перакуліўся з возам і чуць увесь аглабец ні зламаў.* Хвойніца Кір.

АГЛАШЭННЫЙ *прым.* Апантаны. *Сабака наш бегаець, як аглашэнный.* Шаламы Слаўг.

АГНЁНАК *м.* Ягня. *Наш серынькій агнёнык некуды зьбех.* Заполле Шкл.

АГРЭБЧЫК *м.* Гліняная пасудзіна для захоўвання малака, смятаны. *Прінясі с погріба агрепчык сы сьмітаныю.* Немерка Гор.

АДАЎЖЫ'ЦЬ *зак.* Пазычыць. *Схадзі-ка, дарагей, к свацьці хлеба адаўжыць.* Кавалёўка Клім.

АДБІ'ЦІК, БІ'ЦІК *м.* Гарлач з адбітай верхняй часткай. *Кіслыя мылако стаіць там у адбіціку, бярі да й еш.* Рымінка Чав. *Ні хадзі ты пы хаці худуном, а луччы ідзі зыбярі біцік у бабы.* Вялікі Бор Касц.

АДДЗЮ'ЖЫЦЬ *зак.* Моцна пабіць. *Я цібя січас адзьдзюжу, есьлі ня зьдзелыіш, што сказына.* Чавусы.

АД'Е'ТУЛЯ *прысл.* Адгэтуль. *А ты пачынай брацць ат'етуля і да тэй дарогі.* Рэкта Гор.

АДЗЁЖА *ж.* Адзенне. *Цяпер ужо ніхто ня носіць саматканай адзёжы.* Цяцерын Кругл.

АДЗЁРКІ *мн.* Ачоскі. *Зьбяры і скруці етыя адзёркі.* Заполле Шкл.

АДЗЯ'БНУЦЬ *зак.* 1. Вымерзнуць. *Сёліта ўжэ жыта адзябла ў нізіне.* 2. *груб.* Памерці. *Іна пыбалела дый адзябла.* Каўшова Мсц.

АДЗЯЯ'ЛА *н.* Коўдра. *Летым я ныкрываюсь ні адзіялым, а простыньню, таго што жарка ў хаці.* Бярозкі Хоц. *У мяне пяць адзіялаў ужо.* Цяцерын Кругл.

АДКОЛ *м.* Свавольнік. *Чый гэта такі аткол? Нада ш разьбіць акно.* Скураты Кругл.

АДКРЫВА'ЧКА *ж.* Прыстасаванне адкрываць бутэлькі. *Дзе-та дзелыся наша аткрывачка? Ні магу ніяк банку аткрыць.* Тажылавічы Бабр.

АДЛАМАСА'ЦЬ *зак.* Моцна пабіць. *Ну, й адламасала ш яна яго.* Сялец Гор.

АДНАЛІ'ЧНІК *м.* 1. Аднаасобнік. *У нас да вайны на краю дзяреўні адналічнікі жылі.* Каўшова Мсц. 2. *перан.* Нелюдзімы чалавек. *Ты ш ні адналічнік які-нібуць, што баісься к людзям паказувацца.* Заполле Шкл.

АДПА'СЦІЦЬ *зак.* Адпасвіць. *Ты сёньні гані скаціну, а ў другі дзень я за цябе змагу атпасьціць.* Нічыпаравічы Шкл.

АДПЕ′РЫЦЬ *зак.* Пабіць. *Сёньня добра атперыў ката, больш ціпер ніколі ні будзе красьці куранятаў.* Дзікае Глуск.

АДПЛІКНУ′ЦЬ, АДШПЛІКНУ′ЦЬ *зак.* Адшпіліць. *Атплікні мне верхні гузік, бо ў мяне палец баліць.* Заазер'е Бял. *Баліць рука, так я ні магу атшплікнуць і гузік.* Сідаравічы Маг.

АДРУБІ′ЦЦА *зак.* Адарвацца, адпароцца. *У плацьці ўся подбілка атрубілась.* Боркі Кір.

АДТЫ′РЫЦЬ *зак.* 1. Аднесці (бутэлькі ў магазін). 2. Адлупцаваць. *Скарэй уцікай аттуль, а то прыдуць хлопцы і так аттыруць, што і ні ўстаніш посьлі.* Боркі Кір.

АДХА′ЯЦЦА *зак.* Ажыць, прыйсці ў прытомнасць. *Зразу атхаілася, як напілася вады.* Рымінка Чав.

АДЦАПНОЕ *прым.* Адчэпнае. *Дык ета ты мне патсунуў аццапнога, а сам змыўся?* Вялікі Бор Касц.

АДЦОХНУЦЬ *зак.* Адсохнуць. *Ні ў выднаго ў яго рука ні аццохла, хто чужоя бярэць.* Каменка Гор.

АДЧЫХВОСЦІЦЬ *зак.* Адлупцаваць. *Бацька бывала ўжо так атчухвосціць, што дні трі дайжа баісься ў яго бок глянуць.* Журбін Касц.

АЗА′ДДЗЕ *н.* Пазаддзе. *Наперадзі харошая зерня ідзець, а посьлі й азадзьдзя сыпіцца.* Вусце Чэрык.

АЗІ′МКА *ж.* Пшаніца, пасеяная восенню. *А я сёліта азімку ня сеіў.* Галоўчын Бял. *Зімой ні было сьнегу, думалі, што ўжэ й азімка вымерзьніць.* Вусце Чэрык.

АЗЯЛІ′ЦЬ *зак.* Адурманіць. *Азяліў ты маю галаву. Як жа цяперя быць біс цябе?* Паташы Гор.

АЗЯРЭЦ *м.* Азярод. *Дайней гарох ці віку сушылі ў ёўні, січас пакладуць на азярэц і сохнець.* Цвёрдаў Бых.

АКАЗІ′ЦЦА *зак.* Прывесці прыплод (пра казу). *Каза аказілыся, кызіняты харошынькія.* Вялікі Бор Касц.

АКАЛОТКІ мн. Снапы, абмалочаныя ўручную. *Вазьмі акалоткі, выкінь з гумна.* Вусце Чэрык.

АКАПАНІ′ЧВАЦЬ *незак.* Акучваць (звычайна ўручную). *Я ўжо другій рас акыпанічывыла етый кусок.* Заполле Шкл.

АКА′РАК *м.* Карак. *Як трэсну табе пы акарку, будзяш ведыць.* Заполле Шкл. *У яго акарак, ні райнуючы, як у кабана.* Цяцерын Кругл.

АКЛЯЯ′ЦЬ *зак.* Акрыяць. *Думалі, што ўжо канцы*

*аддасць, а іна, глядзі-ка, к вясьне акліяла.* Журбін Касц.

АЛІ′ *злучн.* Але. *Хацела купіць парасёнка, алі пыглядзела, што малы, і ні ўзяла.* Заазер'е Бял.

А′ЛІ-ТКА *часц.* Усё ж такі. *Алі-тка дабіўся свайго.* Заазер'е Бял.

АЛЛЯНУ′ХА *ж.* Страва з капусты. *Будзем варыць альлянуху, нету ўремя.* Звянчатка Клім.

АЛЬХОВІЦА *ж.* Альховы лес. *Сяньні пойдзям у альховіцу па кветкі.* Ворліна Кліч.

АНГЕ′РКА *ж.* Світка. *У яго была такая прыгожая ангерка.* Старая Добасна Кір.

АНДА′ТКІ *мн.* Прыдаткі, дадатковы невялікі кавалак зямлі. *Мы пойдзям кыпаць бульбу снычала ны андаткі.* Вялікі Бор Касц.

АНДРА′К *м.* Андарак. *Які ш красівый андрак у балонкі!* Сухары Маг.

АНДРЫ′НА *ж.* Адрына. *Ужо ш і так поўная андрына сена, а йшчэ косіць.* Рэкта Гор.

АННО *ліч.* Адно. *Яны ні ў анно месца паехалі.* Заазер'е Бял.

АНЦЯРЭСНЫЙ *прым.* Цікавы. *Брат расказаў мне анціресную каску, я й сяньні яе помню.* Сухары Маг.

АНЯВОЖ *часц.* Няўжо ж, а няўжо ж. *Ды хырыша йна й сыма — анявож?* Кавалёўка Клім.

АПАЛАНІ′ЦЬ *зак.* Ахапіць. *Адкуль гора апыланіла мяне?* Каўшова Мсц.

АПАРОСНАЯ *прым.* Цяжарная (сука, кошка). *Раз'елася наша кошка, такая глаткая ходзіць, як апаросная.* Цвёрдаў Бых.

АПЕ′НКІ *мн.* Апенькі. *Адну восінь столькі было апеньк. Дужа харошанькія грыпкі.* Зацяцерка Кругл.

АПІВОШТА *аг.* П'яніца. *Геты апівошта спакою ні дае, кожны дзень цягаецца п'яны, хай бы лячыўся, дурань.* Тажылавічы Бабр.

АПЛЁТВАЦЬ *незак.* Прагна есці. *Во аплётвае, дык аплётвае. Толька ежу падавай.* Скураты Кругл.

АПОКА *аг.* Гультай. *Уся дзярэйня ведаець, што Іван апока.* Лазовіца Клім.

АПРЫ′Ч 1. *прысл.* Паасобку. *Мы ехалі ў горат апріч: ён антобусам, я поіздам.* Крычаў. *Будзем капаць курдоплю апріч, скарэй закончым ўсё.* Рэкта Гор.

2. *прыназ.* Акрамя, апрача. *Апріч мылыка, ні хачу нічога есьць.* Рымінка Чав.

АПСОМ, АПЦЭ′САМ *прысл.* Знянацку, нечакана. *Сабака кінуўся ны мяне апсом.* Каўшова Мсц.

АРАЛЛЯ′ *ж.* Ралля. *На аральлі ня сеяць, трэба яе яшчэ паскарадзіць!* Цяцерын Кругл.

АСМІ′ХВАННЕ *н.* Асмейванне. *Твайго асьміхваньня баяцца я ня буду.* Ветрынка Бых.

А′СТАКАЛ *м.* Някемлівы хлопец, мужчына. *Што твой дурнэй-дурнэй, ды ні бярі голымі рукамі, а мой дык саўсім астыкыл нейкій.* Радзівонаўка Гор.

АСТАЛАПЕ′ЦЬ *зак.* Аслупянець. *Тут я астылапела й гляджу на яго: сьмяецца ці праўду кажыць етый чалавек.* Заполле Шкл. *Кап ты астылапеў, там стоячы!* Вялікі Бор Касц.

АСТАЎБЯНЕ′ЦЬ *зак.* Аслупянець. *Сы страху астыўбянела і ні магу слова скызаць.* Журбін Касц.

АСЦЕПЯНІ′ЦЦА *зак.* 1. Супакоіцца. *Асьціпяніся, ня лесь к чорту на рогі.* Заполле Шкл. 2. Атрымаць вучоную ступень. *Мой зяць як асьціпяніўся, так і памаладзеў бытта.* Сухары Маг.

АСЦЮ′ЛЬКІ *мн.* Асцё з каласоў аўса, ячменю. *Як набярэцца гэтых асьцюлек на адзёжу, дык бяда, нільзя ат іх атабрацца.* Цяцерын Кругл. *Нада луччы выбіць во етыя асьцюлькі.* Заполле Шкл.

АСЫКА′ЦЦА *незак.* Агрызацца. *Ні аднаго слова ня ўмоўча, усё асыкаецца.* Заазер’е Бял.

АТЛЫ′ГА *ж.* Адліга. *У атлыгу дзеці са школы прыходзюць такійі мокрыйі.* Вусце Чэрык.

АТОР’Е *ж.* 1. Дробная салома (буйнейшая за мякіну). *Сёльта кап ні атор’я, ні знаю, што дзелылі п с каровуй, саўсім мала было сена.* Рымінка Чав. 2. Адбітыя, абмалочаныя каласы. *Сабяры-ка аторью каля пуні.* Вусце Чэрык.

АТРА′ХА *аг.* Чалавек, які да ўсяго адносіцца абыякава. *Ай, атряха. Ці будзіць с цябе толк калі?* Рэкта Гор.

АТРУ′ДА *ж.* Прастуда. *Ты мяне не катуй, бо ў мяне і так атруда.* Новая Добасна Кір.

АЎДОТ *м.* Удод. *Я знаю там у адным дубу гняздо аўдота.* Забычанне Касц.

АХЛАМОН *м. зневаж.* Вялы, абыякавы чалавек. *Зьдзень ты ета пальто, а то як ахламон які ў ім.* Радзівонаўка Гор.

АЦІ′РА *ж.* Амеці, мякіна. *Ацірня пышанішныя—ета ш цэнный корм.* Шаламы Слаўг.

АШАЛЁНЫЙ *прым.* Шалёны. *Куды ты бягіш, як ашалёный?* Кавалёўка Клім.

АШКРОБКІ *мн.* Шалупінне ад бульбы. *Аддай карові ашкропкі.* Скураты Кругл.

АШМУРЭЦЬ *зак.* Ачмурыцца. *Ці ты ашмурела? Ці што ета с табой?* Крычаў.

## Б

БАБУРЫ′ *мн.* Дробная бульба. *Гылыва твыя дубовыя, куды ш ты высыпаў бубуры? Пырысятам луччы аддыла п.* Вялікі Бор Касц. *Вазьмі бубурі ў карьзінкі.* Каменка Крыч.

БАГДА′Й *часц.* Бадай, няхай. *Быгдай яно праваліцца! Каждый дзень льецъ, як зь відра.* Рымінка Чав.

БАЙРА′К *м.* Будынак для сушкі снапоў (без печкі). *Згарэў наш быйрак, хоць бы сена сушылі.* Дзедзін Клім.

БАЙЧА′К *м.* Бойкая дарога; шлях, тракт. *Куды етый быйчак ляжыць?* Сухары Маг.

БАЛАЧЫ′НА *ж.* Воблака, хмарка. *Наверна, дасьць дошч з гэтае балачыны. Найшла балачына, пайшоў дошч.* Давыдавічы Бых.

БАЛОНА *ж.* Газавы балон. *Галя, схадзі ты ў кантору ды скажы, кап прівязьлі балону, а то дрэнна біз газу.* Высокае Клім.

БАЛЬШЭННЫЙ *прым.* Вельмі вялікі. *Такія барозны цяперя бальшэнныя дзелыюць.* Вусце Чэрык.

БАРАДА′ *ж. перан.* Агрэх, прапушчаная пры касьбе ўручную лапіна травы. *Ну й касец! Ты ж вунь быряду якую кінуў, абярніся, пыглядзі.* Вусце Чэрык.

БАРАНАВІ′К *м.* Баранавальшчык. *Вунь бырынавікі пашлі скарадзіць, а ты ляжыш.* Вусце Чэрык.

БАРА′НАК *м.*, БАРА′НЬКА *ж.* Абаранак. *У мыгазін быранкі прывязьлі, ідзіця пакупайця.* Заходы Шкл. *Сяньні ўкусныя быранькі ў мыгазіні.* Высокае Клім.

БАРА′ЦЬ *незак.* Перашкаджаць. *Ня треба быряць жанчыне іціць у поле.* Вусце Чэрык.

БАРБУ′ЛЬ *м.* Конюх. *Яшчэ шэсьць часоў, а барбуль ужо зыгнаў коній у сырай.* Елавец Хоц.

БАРОК *м.* 1. Невялікі бор. 2. *перан.* Могільнік. *Пашлі вужо ямку капаць ву барок.* Загор'е Бых.

БАРЫКА'ЦЦА *незак.* Дужацца, барукацца. *А ну-ка барікайцеся! Пакажыця, хто з вас дужэйшый.* Высокае Клім.

БА'РЫШНЯ *ж. іран.* Ганарыстая дзяўчына. *Ай-яй-яй, барышня такая-то! Ні скажы ёй лішняга.* Цяцерын Кругл.

БАСІ'ЛЫ, БАЦЫ'ЛЫ *мн.* Бахілы, самаробныя галёшы. *Заклей-ка ты мне, кум, басілы.* Лудчыцы Бых. *На зіму валёнкі з бацыламі купіў.* Сідаравічы Маг.

БАТОРЫ *мн.* Драбіны, прыстасаваныя вазіць снапы, сена, салому. *Куды ш ты гэтыя баторы павалачэш?* Скураты Кругл.

БАТОЎЕ *н. зб.* Бацвінне. *Чыя ета карова ўбілася ў батоўя?* Лудчыцы Бых.

БАЦ *м.* Гультай. *Чаго ты тут сядзіш, бац, паліц ап паліц за дзень ні ўдарыў.* Журбін Касц.

БАЦЯНЁ *н.* Дзіця, падобнае на бацьку. *Глядзі-ка: чыста бацянё, і сьмяецца, як бацька.* Чапляёўка Гор.

БАЦЯ'ЦЦА *незак.* Бадзяцца, лодарнічаць. *Бацяецца бязь дзела ўвесь час — ну і лодыр жа.* Рэкта Гор.

БЕ'ЗНА *ж.* Грузкае балота. *Пупаў трактар у безну і затануў.* Шаламы Слаўг.

БЕЛАЗОРЫ *прым.* Светлавокі. *Як глянуў сваімі білазорымі, як трі рублі даў.* Журбін Касц.

БЕСПРЫКА'ЯНЫЙ *прым.* Беспрытульны. *Біспрікаіный ходзіць дзядзька. Хай бы хто ўзяў на хвацеру.* Мхінічы Красн.

БІДЗЮГІ' *мн.* Калёсы, прыстасаваныя вазіць бярвенне. *Запрагай, друг, новыя бідзюгі ды быстранька атпраўляйся ў лес.* Скураты Кругл.

БІКЕ'Ш *м.* Бекеша. *Я за гэту зіму пашыў сабе бікеш, а жонка носіць.* Давыдавічы Бых.

БІНДЗЮ'ГА *аг.*, БІНДЗЮ'ЖНІК *м.* Непаслухмяны хлопец. *Ды яе ж Васіль такій біньдзюга, што ні ды чаго ні пріб'еш.* Вялікі Бор Касц. *Нічога ні магу зьдзелыць са сваім біньдзюжнікам.* Сялец Гор.

БІ'НЬКА *аг.* Той, хто ўцякае ад працы; гультай. *Вунь бінька пайшоў, а ты, наверна, хочаш у яго кымпанію.* Паршына Гор.

БІ'РКА *ж.*, БІРАЧО'К *м.* Драўляны гузік. *Калі нету гузікаў, дык зьдзелый біруку.* Вепрын Чэрык.

БІРКУЛЁЗ *м.* Туберкулёз. *Бірькулёзам старік забалеў, ні знаю, ці выжывіць.* Каўшова Мсц. *Сьпірша быў*

*кашыль, а цяперя баліць у грудзёх, наверна, біркулёс.* Каменка Гор.

БІРУ'К *м.* Нелюдзімы чалавек. *Сяньні мой надуўся, глядзіць бірюком спадлоб'я.* Ліпаўка Касц.

БІ'ЧЫК *м.* Кукурузны пачатак. *Мама, навары заўтра бічыкаў.* Дзікае Глуск.

БЛІЗНА' *ж. перан.* Від рыбы, якая водзіцца ў мясцовых вадаёмах. *Хоць бы якой блізны спаймалі.* Вусце Чэрык.

БЛІЗНЯ'КІ *м.* Блізняты. *Калі родзіцца двойня, дык яны блізьнякі.* Цяцерын Кругл.

БЛЫ'НДАЦЬ *незак.* Бязмэтна хадзіць. *Так і блындылі яны сяньні цэлый дзень. Анічогенька не знайшлі.* Быстрыца Мсц.

БОЛЫКА *н.* Воблака. *Спусьціліся болыкі ніска над зямлёй, значыць, дождж будзіць.* Рымінка Чав.

БОНДА *ж.* Свежаніна. *Занясла й саседу трохі бонды.* Кляшчоўка Глуск.

БОЦЬКАЦЬ *незак.* Боўтаць (вадкую страву). *Ні боцькай у супі. Усім есьць нада.* Боркі Кір.

БРАВІНА' *ж.* Брыво. *Нада ш так бравіну рассеч.* Чачэвічы Бых.

БРА'ЖАЦЬ *незак.* Брадзіць, знаходзіцца ў стане браджэння. *Маё цеста вельмі многа бражала, і хлеб ніўдачны палучыўся.* Чачэвічы Бых.

БРА'ЖКА *ж.* Спражка. *Вунь брашка як блішчыць.* Вусце Чэрык. *Бряшкай як дам, дык і пісьніш.* Кадзіна Маг.

БРУЗЭЛЯВЫЙ *прым.* Цёмна-сіні. *Хуста брузэліва-га цьвету ў мяне есь.* Каўшова Мсц.

БРУ'КША, БРУ'ШКА *ж.* Бручка. *Вельмі добрая брукша ўрадзіла.* Рэкта Гор. *Ах, якая салодкая брюкша!* Старына Мсц. *Мыя брюшка нейкая дробненькая.* Семукачы Маг.

БРЫ'ЛЫ *мн. груб.* Губы. *Што надуў сваі брылы?* Шклоў.

БРЫ'НДЖЫ *мн.* Брыжы ў адзенні. *Я сабе хвартук пашыла з вельмі моднымі брынджымі.* Бярозкі Хоц.

БРЫНЕ'ЦЬ *незак.* Клапаціць, трывожыць, турбаваць. *А мяне гэта зусім ні брыніць.* Галоўчын Бял.

БУ'БЕН *м. перан.* Чалавек, які няспынна гаворыць (бубніць). *А етый бубін бубніць і бубніць нешта сабе пад нос.* Радзівонаўка Гор.

БУГА'Й *м. перан. зневаж.* Дужы і здаровы чалавек. *Бугай бугаём, а на работу хвор.* Каўшова Мсц.

БУДЗЁННІК *м. уст.* Кавалак ільнянога палатна, які трэба выткаць за адзін дзень, каб выклікаць дождж. *Цяперя ніхто ня ткець будзёньнікаў.* Шаламы Слаўг.

БУК *м.* Шырокае і глыбокае месца на рацэ. *У нас у буку малец гадоў шаснаццаць у прошлым гаду ўтапіўся.* Еўдакімавічы Шкл.

БУЛУДОЎКА *ж.* Вадзяная лілія, гарлачык (кветка). *Пайдзём на рэчку за булудоўкамі, іх там столька многа вырысла.* Елавец Хоц.

БУЛЬБЕ'ШНІК, БУЛЬБЯ'ШНІК *м.* 1. Бульбоўнік. *Зялёный бульбешнік, а нада ж бульбу капаць.* Стайкі Маг. 2. *перан. асудж.* Гультай, які жыве за кошт бацькоў. *Вунь Трахімаў бульбяшнік.* Журбінская Буда Касц.

БУЛЬБОВІКІ *мн.* Аладкі, прыгатаваныя з дранай бульбы. *Сяньні ў цябе дужа смашныя бульбовікі ўдалісь.* Сячыхі Крыч.

БУ'ЛЬКАЛЫ *мн. зневаж.* Вялікія вочы. *Што ты круціш сваімі булькаламі?* Сялец Гор.

БУРДЗЯЛІ' *мн.* Посная кіслая страва. *Дыла нейкіх бурдзюлёў учырашніх пыхлібаць.* Цітаўка Клім.

БУРДОЎКА *ж.* Спадніца бардовага колеру. *Бурдоўка красівая мая — праўда ш?* Цяцерын Кругл.

БУРЛА'ТЫ *мн.* Бярвенне ў апошнім вянку над бэлькамі зруба. *Паложым бурлаты і хваціць.* Цяцерын Кругл.

БУРЛЫ'ШКА *ж.* Месца ў ручаі, дзе бурліць вада. *Яны, наверна, на бурлышку пашлі глядзець.* Заполле Шкл.

БУЦЯ'НАВЫЙ *прым.* Буслаў, бусліны. *У нас на страсе буцянава гняздо.* Рэкта Гор.

БЫК *м. перан. іран.* Вялікі хлопец, які любіць дзяцініцца. *Такей ужо бык, а з дзецьмі гуляіць.* Радзівонаўка Гор.

БЫЧОК *м.* Козлы, прыстасаванне для пілавання дроў. *Калышыцца бычок, дык няёмка рэзаць.* Галоўчын Бял.

БЭЙДУС *м.* Гультай. *Ходзіць бязь дзела етый бэйдус, узяў бы ходзь дровы ў вірсту склаў.* Цітаўка Клім.

БЯЗЛЮ'ДНІК *м.* Нелюдзімы чалавек. *У етага бязьлюдніка хто калі хату аччыніў.* Тажылавічы Бабр.

БЯЗМЕ'Н *м. перан.* Дурань. *Ну што етыму бязьмену зьдзелыіш, дурань і ўсё.* Радзівонаўка Гор.

БЯРЛІ'НА *ж. уст.* Барка. *Твыя карова, як бярліна, быльшая-быльшая.* Шаламы Слаўг.

БЯРЛІ'ХА *ж.* Сорт бульбы. *Бярліха ўсігда ў нас харошыя родзіць.* Журбін Касц.

БЯССТЫ'ДНІК *м.* Бессаромны чалавек. *Яму, бясстыдніку етаму, хоць у вочы плюй — усё адно.* Батунь Маг.

БЯ'СЦІК *м.* Несур'ёзны чалавек. *Ну, калі й ты хырашо пыгывырыў з етым бясьцікам? Толькі чакай.* Журбін Касц.

БЯСКІ'ШКІЙ *прым.* Вельмі худы. *Такіх бяськішкіх нідзе не прімуць: ні ў салдаты, ні ў матросы, ні пыдмазываць калёсы.* Кашалёўка Касц.

## В

ВА'ВА, ВА'ВАЧКА *ж. дзіц.* Болька. *Пыкажы-ка, дзетычка, дзе ў цібе вава (вавычка).* Шаламы Слаўг.

ВА'ГАЦЬ *незак. уст.* Рабіць барозны пасля сяўбы жыта (для сцёку вады). *Цяперыцька жыта ні вагаюць.* Зацяцерка Кругл.

ВАЗРОСЛЫ *прым.* Дарослы, сталы. *У Апанаса ўжэ вазрослы сын.* Скураты Бял. *Вазрослый, а ік маліц.* Высокае Клім.

ВАЙСКО *н.* Войска, пяхота. *Сьпірша пріляцелі сымалёты банбіць дзяреўню, тады стрілялі іс пушык, а тады ўжэ прішло вайско.* Каменка Гор.

ВАЛАВЯ'НКА *ж.* Грыб валуй. *Вылывяныкі груздоў сёліта многа, й нымачыць можна.* Шаламы Слаўг.

ВАЛАХА'ЦЬ *незак.* Кастрыраваць. *Ладны кыбанчык, ды вылыхаць нада.* Сідаравічы Маг.

ВАЛЁНКА. Валеная шапка (звычайна з белай воўны). *Ты што сам сабе валёнку зваліў?* Крыч.

ВАЛЬСОЎКА *ж.* Пшанічная мука першага гатунку. *Сяньні ў мыгазін вальсоўку прывязьлі, нада купіць на бліны.* Елавец Хоц.

ВАПЕ'Р *м.* 1. Кабан. 2. *перан. асудж.* Дужы, здаровы і нахабны чалавек. *А етый ваперь прецца ныпралом.* Радзівонаўка Гор.

ВАРАЖЭЙКА *ж.* Варажбітка. *Схадзі к Ганні, яна ж*

*добрыя варажэйка, усю праўду табе скажыць.* Сялец Бых.

ВАРГОЛЫ *мн.* 1. *Звыч. у выразе* ВАРЫЦЬ ВАРГОЛЫ, г. зн. кіпяціць пустую ваду (голы вар). 2. Дробязь, мізэрнасць. *Толькі варголамі і папотчуіць.* Зацяцерка Кругл.

ВАРЗОГАЦЬ, ВАРЗОПАЦЬ *незак.* Рабіць няўмела, дрэнна. *Дай я сыма зьдзелыю, а то толькі варзогыіш тут.* Высокае Клім. *Ня косіць, а толькі варзопыіць.* Каўшова Мсц.

ВАРОЎКА *ж. перан.* Пчала, якая крадзе мёд з чужых вулляў. *Вароўка — ета пчала, што крадзіць мёд у другіх вульлях.* Вусце Чэрык.

ВАРСАНУ'ЦЬ *зак.* Піхнуць, штурхнуць. *Ідзі адгэтуль, а то як вырсанець карова, больш не палезіш.* Ветрынка Бых.

ВАРУ'ШКІ *мн.* Вясеннія апенькі. *Варушкі толькі вясною растуць, іх у нас дужа многа ў лесі.* Цвёрдаў Бых.

ВА'РХА, ВАРША'ЛКА *ж. уст.* Прасцейшая прылада для ачысткі зерня. *Ета варха пользы ні даець.* Сялец Бых. *Німа чаго варшыць, то й варшалкі німа.* Цяцерын Кругл.

ВАРШЫ'ЦЬ, ВАРХАВА'ЦЬ *незак.* Чысціць зерне ўручную. *Раней жыта варшылі пры помашчы варшалкі.* Цяцерын Кругл. *Пыслаў учора брігадзір пшаніцу вурхувать, дык я ні мыгла, дужа хворыя.* Рудня Слаўг.

ВА'РЫВА *н.* 1. Страва з кіслай капусты. *Мой зьеў сразу дзьве міскі варіва.* Кульшычы Слаўг. *Сяньні наваріла варіва.* Вішні Касц. 2. Боршч. *Наварю варыва з мясым — і ядуць.* Сухары Маг. *Сьвёкла паднялася, нада варыва наварыць.* Цяцерын Кругл.

ВАТРЫ'НА *ж.* 1. Непаўнаякаснае зерне. *Пудоў пяць ватрыны засталося — вот і ўражай.* Еўдакімавічы Шкл. 2. Мякіна.

ВАЎКАВА'ТЫЙ *прым.* Крыху вільготны. *Хустка яшчэ выўкыватыя, нада на веціp.* Каменка Крыч.

ВАЎЧЫ'НА *аг. перан. асудж.* Нелюдзімы, злы чалавек. *І па кім ета ён уладзіўся, тыкая ваўчына, ні пытступісь к яму.* Радзівонаўка Гор.

ВАЎЧЫ'НЫЙ ГРЫБ, ГЛУХЕ'Й ГРЫБ *спалуч.* Агульная назва ядавітых грыбоў. *Вужоўкі і вясёлкі —*

*ета вайчыныя грыбы. Завём іх такжа глухія грыбы.* Сідаравічы Маг.

ВЕРЗЯЯ′ *ж.* 1. Хлусня, бязглуздзіца, лухта. *Вірзія ета ўсё, можыш больш ні гаварыць.* Высокае Клім. 2. Пляткарка. *Меньшы ты слухала п етую вірьзюю.* Вялікі Бор Касц.

ВЕ′ТКА *ж.* 1. Галіна дрэва. 2. Знак, якім указваецца дарога зімою (звычайна ў полі). *Цяперя ретка веткі ставюць.* Каўшова Мсц.

ВЕЧАРУ′ШКІ *мн.* Вячоркі. *Бывала ны вічарюшкі зьбіраліся ў адну хату, сьпівалі песьні, рысказувылі цікавыя навіны.* Кульшыцы Слаўг.

ВЕЧАРЫ′НАШНІК *м.* Чалавек, які любіць пагуляць на вячорках. *Наш вічарынашнік усігда позна прыходзіць.* Заходы Шкл.

ВЕ′ШКА *ж.* Указальнік. *Ета на глыбі ставюць вешкі с краснымі флышкамі.* Вусце Чэрык.

ВЁСКА *ж.* Вадзяны млын. *Раней у вёску езьдзілі малоць, цяпер німа яе.* Заполле Шкл.

ВІ′ДЗІК *м.* Паштоўка. *Нявестка мне відзік пріслала к Новуму году.* Высокае Клім.

ВІЛЬЧЫ′ЦЬ *незак.* Вяршыць, рабіць верх стога. *Вацік, заўтра ўжо будзім вільчыць стагі.* Немерка Гор.

ВІРЛАВОЧЧА *н.* Вірлавокасць. *Гусей бярі! Ня відзіш — вірлавочча тваё ня сьвеціць!* Шаламы Слаўг.

ВІСАЖА′Р *м.* Сузор'е. *Вісажар — гурт зорачак, калі яны радам сідзяць.* Цяцерын Кругл.

ВІСІЯ′ *ж.* Фасоль, якая віецца. *Наша ўжо вісія цьвіцець. Добры ўраджай будзя.* Мокрае Касц.

ВІ′ТА *ж.* Знак забароны. *Там віту паставіў дарожный.* Бярозкі Хоц.

ВІХРЫ′НА *ж.* Верх страхі. *Нада віхріну пыправіць, усю вецір сырвай.* Паршына Гор.

ВІЧМЕ′НЬ *м.* Ячмень. *Вічмень добрый урадзіўся сёліта ў нас.* Каменка Крыч.

ВІ′ЧЫШЧА *н.* Поле, на якім расла віка. *Сяньні на вічышчы пасьціла карой.* Семукачы Маг.

ВО′БІРВОР *м.* Вялікі злодзей. *Так любіць чужое ўкрасьць, ныстыяшчый вобірвор.* Кавалёўка Клім.

ВОГУСЬ *ж.* Густы суп. *Сёньні вогусі наварыла, трудна бяз рэдкага.* Боркі Кір.

ВОДДЫХ *м.* Адпачынак. *Вясёлыя дзіўчаты былі з*

*го́рыда, бульбу кыпалі — сядуць на воддых, пяюць.* Палкі Бых.

ВОДЛІГ, ВОДЛІЖ *м.* Адліга. *Ходзь бы вотліх скарей, ныдаеў марос.* Каўшова Мсц. *Вотліж пычаўся, слава богу.* Ракшына Мсц.

ВОМІГА *ж.* Штосьці дрэннае, нясмачнае; атрута. *П'янтоса, лuччы п ты вомігі ныжраўся:* Вялікі Бор Касц.

ВОНКЫХ *прысл.* Звонку. *Вонкых усё зазілянела.* Палыкавічы Маг.

ВОПРАНКА *ж.* Вопратка. *Хіба купіць новую вопранку ці што?* Дзікае Глуск.

ВОТРЫНЫ *мн. зб.* 1. Дробная салома, смецце. *Посьлі малатарні ні салома, а вотрыны адны.* Цяцерын Кругл. 2. Пазаддзе. *Сабрадзь бы вотрыны, а то плоха вархавацъ.* Галоўчын Бял.

ВОШЫЎКА *ж.* 1. Абшыўка. *Пыаббівалісь вошыўкі, нада натшыць новым.* Бярозкі Хоц. 2. Пояс у штанах. *Вошывачку можна зьдзелыць таўсьцей.* Вусце Крыч.

ВУГНА'ВЫ, ВУГНА'ТЫ *прым. абразл.* Гугнявы. *Ці ты рызьбяреш што-нібуць у етыга вугнавыга.* Радзівонаўка Гор. *Што зь ім сталася? Змалку ня быў вугнатый.* Заполле Шкл.

ВУГНА'К *м.* Той, хто гугнявіць. *Змалку ж ня быў вугнатый, а цяперя вугнак вугнаком.* Заполле Шкл.

ВУГНЯ'ВАСЦЬ *ж.* Гугнявасць. *У дзецтві ў сына трошкі была вугнявысьць, але тады й пірійшла.* Вялікі Бор Касц.

ВУГРЫ'Ў *м.* Мясціна, дзе добра прыгравае сонца, прыгорак. *Ны вугріві сьнегу німа ўжо даўно.* Ліпаўка Касц.

ВУЖОЎКІ *мн.* Неядомыя грыбы. *Вужоўкі дужа ж розныя бываюць: красныя, белыя і другія.* Сялец Бых.

ВУ'ЙМА *прысл.* Вялікая колькасць. *Вуйму грібоў прінёс.* Цітаўка Клім., Ліпаўка Касц.

ВУНІЯ'Т *м.* 1. Уніят. 2. *перан. асудж.* Упарты, настойлівы чалавек. *Во вуніят, хоць ты кол яму ны гылаве цяшы, а ён сваё дзелыіць.* Радзівонаўка Гор.

ВУ'РАВЕНЬ *м.* Ватэрпас. *Схадзіў бы к Лявону за вуріўнім.* Забычанне Касц. *Ці ёсць у вас вурывінь? Нада хундамент зывадзіць, а я ж біз яго, як бяз рук.* Шаламы Слаўг.

ВУСЫ' *мн. зб.* Асцё. *Цяперя вусы ў вячменю бальшэнныя.* Вусце Крыч.

ВУ'ЦІРЫЧ, ВЫЦІРА'ННІК *м.,* ВЫ'ЦІРКА *ж.* 1. Ручнік, уціральнік. *Дай-ка мне вуцірыч чысьцейшый.* Заброддзе Бых. *Выцірь рукі выцірькуй.* Рымінка Чав. *Бывала хаты былі ўвешаны выціраньнікамі і ўзорамі.* Паршына Гор.

ВУ'ЦЬ-ВУ'ЦЬ-ВУ'ЦЬ *выкл.* Падзыўныя словы да качак. *Вуць-вуць-вуць, вутычкі!* Бярозкі Хоц.

ВУ'ШЫ *мн. перан.* Першыя вясеннія грыбы (страчкі і смарчкі). *Я ўжо прадаў дваццаць адзін кілаграм вушэй.* Дзікае Глуск.

ВЫ'БАРСАЦЬ *зак.* Выцягнуць аборы з лапцей. *Бывала, выбарсаю аборы з лапцей, пасушу іх, і яны доўга насіліся.* Заполле Шкл.

ВЫ'БУХТАРЫЦЬ *зак.* Выліць. *Ні выбухтар усю ваду.* Асман-Касаева Бял.

ВЫ'ВУХРЫЦЬ *зак.* Вывучыць, вымуштраваць. *У арміі вывухрылі, дык ні ўгадаць хлопца.* Боркі Кір.

ВЫГАНЯ'ЦЬ *незак. перан.* Выбіраць муку з жорнаў. *Цяпера німа і жорнаў, і німа чаго выгыняць зь іх— муку гатовую пыкупаім.* Заходы Шкл.

ВЫ'ГАРКА *ж.* Сажалка на месцы выгары торфу. *На выгырьцы дужа харашо сьціраць, выда тыкая мяккыя.* Высокае Клім.

ВЫ'ДУБІЦЬ *зак.* Выцягнуць. *Вядро цяшкоя такоя, што чуць вудубіла с калоцца.* Чапляёўка Гор.

ВЫ'ДЫРГАЦЦА *зак.* Выгаладацца. *Як выдыргыісься, дык зьясі што ўгодна.* Паршына Гор.

ВЫ'ЖА, ВЫ'ЖЖЫЛА *ж.* Атрута. *Выжжылы ён етый выпсі пасеіць, а ні ячменю.* Каўшова Мсц.

ВЫКЛАДА'НКА *ж.* Саматканая посцілка. *Што ты, сыбіраісься выклыданкі ткаць?* Заполле Шкл.

ВЫ'КРУМКАЦЬ *зак. зневаж.* Выпрасіць. *Ты ў самога начальніка выкрумкаяш усё, што табе нада.* Батунь Маг.

ВЫЛАПОКІЙ *прым.* Вялікі (пра вочы). *Што ты вытрішчыў сваі вылапокія вочы?* Елавец Хоц.

ВЫ'ЛІНАВАЦЬ *зак.* Выліняць. *Вясной лінае кожная карова. Каторая захірэла, тая пазьней, а каторая здаровая, дык і вылінавала раней.* Цвёрдаў Бых.

ВЫ'ЛІНАК *м.* Вылівак. *Сяньні два вылінкі ў гнязьдзе нышла, куры сталі жырныя, наверна, ліцца сталі.* Рудня Слаўг.

ВЫЛЮДНЯ'ЦЬ *незак.* Сталець. *Унучка стала вы-*

*людняць, скора настаўніцай будзіць.* Зацяцерка Кругл.

ВЫ'МАЛАТ *м.* Умалот. *Сразу хлопцы возюць вымылыт у інбар у яшчыках.* Шаламы Слаўг.

ВЫ'МАРАЧЫЦЬ *зак.* Выпрасіць доўгім дакучаннем. *Яна, як цыганка, усё вымарачыць.* Скураты Кругл.

ВЫ'МАРХАЦЦА *зак.* Прагаладацца. *Быстра ш ты вымархайся. Во толькі ш еў.* Асман-Касаева Бял.

ВЫ'МУХРЫЦЬ *зак.* Навучыць, выхаваць. *Добра вымухріный хлопіц, луччы ні вымухріш.* Мхінічы Красн.

ВЫН, ВЭН, ВЭНАКА *часц. і прысл.* Вунь. *Вын дзе ён схаваўся, нягоднік.* Заазер'е Бял. *Вэн глядзі — твая дочка йдзець.* Лудчыцы Бых. *Вэнака брыгадзір пайшоў на работу загадваць, а ты сьпіш.* Загор'е Бых. *Вэнака на падлозе ляжыць хусцінка, падымі і прынясі сюды, дзетка.* Новая Добасна Кір.

ВЫ'НАСАК *м.* Зносак. *Ета ш ні яйцо, а вынысык. Што падзелыць с куріцый?* Вусце Чэрык. *Во зьнясець куріца вынысык, тады вазьмі і прібіряжы ды вялікыньня.* Бярозкі Хоц. *Усе куры разам перасталі несьціся, і стодькі вынаскаў назьбіралась.* Галоўчын Бял.

ВЫ'ПРАІЦЬ *зак.* Вымыць. *Насця, ці ты ўсьпела бяльлё выпряіць?* Вялікі Бор Касц.

ВЫ'ПСА *ж. перан. груб.* Стары непаважаны чалавек. *Гані ету выпсу атсюда.* Каўшова Мсц.

ВЫ'РУБКА *ж.* Вышыня зруба ад падлогі да акон. *Нізінькія вокны, таму што вырюпка мылая.* Забычанне Касц.

ВЫРОДАВАЦЬ *незак.* Паводзіць сябе непрыстойна. *Напіўсь і выродыіць там п'яный, аж нервы ні выдзержывыюць.* Цітаўка Клім.

ВЫ'РЫЎ *м.* Запушчанае поле, якое аруць першы раз. *Сколькі поту нада праліць, каб етый вырыў рыспыхаць.* Высокае Клім.

ВЫ'СТРУБ *м.* Зруб калодзежа. *Выструб ужо даўно нада пірімяніць.* Жаліжжа Красн.

ВЫХВА'Т *м.* Вілкі для вымання гаршкоў з печы. *Во як хвачу выхват, дык рёбры табе пылымаю.* Вусце Чэрык.

ВЫ'ХВАТНІ *мн.* Сухарыкі (пячэнне), спечаныя на патэльні. *Во якія ш слаўныя выхватні пылучылісь!* Чав.

ВЫ'ХВАЦЕНЬ *м.* 1. Хлеб, спечаны на патэльні ў печы перад полымем. *Пыдгарэй выхвацянь, ня ўспела вы-*

*нуць*. Кульшычы Слаўг. 2. Чапяла. *Пастаў выхвацень у кут і атайдзі ат печы*. Чырвоная Слабада Бых.

ВЫЦІРА′ЛЬНІК *м*. Ручнік, уціральнік. *Выціральнік патрэбна ўжо даўно мыць*. Асман-Касаева Бял.

ВЫЦЁК *м*. Выток. *Выцёк нашай речкі пачынаіцца с крыніцы, а цяперька ня відаць: пірасох*. Еўдакімавічы Шкл.

ВЫ′ШПІГАВАЦЬ *зак*. Прывесці да розуму, вывучыць, выхаваць. *Пойдзеш у салдаты, мо там цябе трохі вышпігуюць*. Кляшчоўка Глуск.

ВЯДЗМЕ′ДЗЬ *м*. Мядзведзь. *Раньшы й вядзьмедзі ў нас бывалі*. Каменка Крыч. *Ай, такога бальшога вядзьмедзя відзіла ў зьвярынцы*. Барсукі Бых.

ВЯЗЁНКА *ж*. 1. Рукавіца. *Вот зьвізала сабе вязёнкі, можна й сьмела зіму ўстрічаць*. Вусце Крыч. 2. *перан*. Рыба плотка. *Заўчора вудзіў у возірі, дык плоці-вязёнкі многа бралась на бабак*. Еўдакімавічы Шкл.

ВЯ′ЗЗЕ *н*. Прывязкі ў санях. *Мілка, ідзі-тка нысякі вязьзя*. Тратны Вугал Клім.

ВЯНО́К *м*. 1. Вечар у маладой перад вяселлем, зборная субота. *Такі ш слаўный быў вянок у маёй унучкі*. Дзікае Глуск. 2. Нізка. *Насушыла сёлета аш пяць вянкоў адных баравікоў*. Тажылавічы Бабр.

ВЯРХНЯ′К *м*. Верхняя частка асады акна. *Пыдай скоблю вірхняк чышчануць*. Немерка Гор.

ВЯТОХ, ВЕТАШОК *м*. Паўмесяц. *Узышоў віташок, і відна стала на вуліцы*. Заполле Шкл.

ВЯСЁЛКІ *мн*. Неядомыя грыбы. *У вайну адны як наелісь, дык, гаворуць, памёрлі ат вясёлык*. Сялец Бых.

## Г

ГА′ВАНЬКА *м*. *ласк*. Сабака. *Гавынька ты мой, на вот хлеб еш. Пірістань бріхаць*. Елавец Хоц.

ГА′КНУЦЬ *зак*. *перан*. Многа выпіць. *Гакнуў гарэлкі цэлых пяць стаканыў*. Нічыпаравічы Шкл.

ГАЛАБАРОДЗЬКА *м*. Мужчына, у якога не расце барада. *Наш Мікалай галабароцька*. Нічыпаравічы Шкл.

ГАЛАВА′ *ж*. *перан*. Шапка сланечніка. *Ідзі там ны гародзі скруці гылаву, ужо чорныя семечкі*. Цяцерын Кругл.

ГА′ЛАМЯЦЬ *ж*. Кавалак бярозавага палена. *Ста-*

*міўся, прісеў ны гылымяць дый заснуў.* Кульшычы Слаўг.

ГАЛА'Н *м.* Певень галандскай пароды. *Сяньні гылына ны бызар пынясу.* Паршына Гор.

ГАЛЕ'ЗІЦЬ *незак.* Кідаць дзе папала. *Ты ўсё жыцьцё галезіш адзёжу. Чаму ш ты тыкая?* Вялікі Бор Касц.

ГАЛЁЗАЦЬ *незак.* Гугнявіць. *Ён во нешта як кажа, дык у нос галёзая.* Сідаравічы Маг.

ГАЛЁКАЦЬ *незак.* Бегаць. *Дзеці бязь дзела галёкаюць па вуліцы.* Скураты Кругл.

ГАЛІ'ЦА *ж.* Рукавіца (рабочая). *Пыдай мне галіцу.* Чырвоная Слабада Бых.

ГАЛОДНІЦА *ж.* Голая косць. *Выкінь галодніцу сыбаку на двор.* Цяцерын Кругл.

ГАЛУ'БНІК *м.* Франтон. *Галубнік рызваліўся, нада новый дзелыць.* Паршына Гор.

ГАЛУЗАВА'ЦЬ *незак.* Дурэць. *Дзеці, пірістаньця галузывацьǃ* Паташы Гор.

ГАМЯ'К *м.* Венік фабрычнага вырабу. *Я ўвесь гымяк сьцёрла, нада другі купіць.* Чырвоная Слабада Бых.

ГАРА'ТНЫ *прым.* Гаротны. *Трэці год балеіць гаратны.* Сялец Бых.

ГАРАХВЯ'ННІК, ГАРОХАЎНІК, ГАРОШНІК *м.* Каліўе гароху. *Гырыхвяньнік пасох ужо, можна вырвыць на потсьціл сьвіньням.* Лабанаўка Чэрык. *Гарохаўнік павырыстаў вялікі, а гароху зусім няма.* Кадзіна Маг. *Гарошнік у гэтым годзе вельмі добры.* Бароўка Маг.

ГАРБУ'ЗІК *м. перан. ласк.* Поўнае, здаровае дзіця. *Што, мой ты гарбузік, спаць зыхацеў?* Радзівонаўка Гор.

ГАРЛА'Ч *м. перан.* Крыклівы чалавек. *Пятрок вельмі ўжо крычыць на ўсю вёску, во гарлач дык гарлач.* Чырвоная Слабада Бых. *Ну й гырлач жа ты, хоць ростым нівялікій.* Лежнеўка Маг.

ГАРЛЯ'НКА *ж.* Горла. *А чаго йта ты гырлянку дзяреш?* Бярозкі Хоц.

ГА'РНЫ *прым.* Прыгожы. *Ета настаўніца дзюжа гарныя.* Каўшова Мсц.

ГА'РСАВЫЙ *прым.* Гарусны. *Як толькі нымылацілі хлеба, так стырая прыдыла й купіла ўсім пы гарсывыму платочку.* Шаламы Слаўг.

ГАРШЧОНАК, ГАРШЧЭНАК *м.* Гаршчок. *Сяньні харошыя гаршчонкі былі ны бызарі.* Высокае Клім. *Такей удалый гаршчэнык, аж зьвініць.* Немерка Гор.

ГАРШЧЭЎНІК *м.* Ганчар. *Гаршчэўнік у чырінках варіць, а партнэй ў дзірявых сыпыгах ходзіць.* Бярозкі Хоц.

ГАРЭЛІШЧА *н.* Вогнішча, месца, дзе гарэў агонь. *У лесе знайшлі некалькі парцізанскіх гарэлішчаў.* Скураты Кругл.

ГЕ'ГАЦЬ *незак.* Гагатаць. *Гусь чаго-та гегыіць.* Ясенка Красн. *Адабралі ў гусі гусянят і пад другую, дык яна гегая, аж жалка.* Цвёрдаў Бых.

ГІ'ДАВАЦЬ *незак.* Грэбаваць, гадзіцца. *Напілася вады с канавы, хоць гідавала.* Кляшчоўка Глуск.

ГІ'ДКІЙ *прым.* Агідны, брыдкі. *Якія анучы сталі гіткія.* Скураты Кругл.

ГІ'НЕЙ *м.* Іней. *Бывала, выйдзіш зімой на вуліцу — усе дзяреўя ў гінеі, красыта.* Вусце Чэрык.

ГІРЗАВА'ЦЬ *незак.* Бегаць без справы. *Ці ета пірістаніш ты сяньні гірзываць, адурій мне галовычку.* Немерка Гор.

ГЛУМА' *аг.* 1. Чалавек, які пускае ўсё ў глум, псуе. *Глума, што ты робіш?* Касц. *Ды ікая ш ты глума, ці так жа ета дзелыюць?* Вялікі Бор Касц. 2. Чалавек, які разумее ўсё не так, як трэба, а па-свойму. *Во глума, ёй гывaрі адно, а іна табе другое.* Елавец Хоц.

ГЛУХА'Р *м.* Чалавек, які не чуе. *Глухар — ета глухі як пень.* Сялец Бых.

ГЛУ'ШКА *ж.* Глухая жанчына. *Глушкіный дычка пыступіла сёліта ў інсьцітут, так глушка радыя, на сёмым небі.* Высокае Клім.

ГНІЛУ'ХА *ж.* Гнілыя трэскі для дымара. *Треба ўсігда нызыпасіць гнілухі.* Вусце Чэрык.

ГНУ'СЛЫЙ *прым. зневаж.* Нядобры, брыдкі, агідны. *Кыш, гнуслый! На-ка, на-ка, дзяржы зы іголку, треба нітку нычарціць.* Шаламы Слаўг.

ГРАБАНУ'ЦЬ *зак. груб.* Ударыць, штурхнуць. *Як грабануў яго, дык той аж перакуліўся.* Кляшчоўка Глуск.

ГНЯЗДО *н. перан.* Паглыбленне на градзе, куды трэба садзіць цыбулю, часнок. *Зрабі гнёзды, а я пріду з работы і пысажу часнок.* Журбінская Буда Касц.

ГОЙДА *аг.* Гультай. *Ды ён жа нічога ня дзелыіць, ляжыць на печкі — вот і гойда.* Вялікі Бор Касц.

ГОМАЛКА *ж.* Засушаны сыр дамашняга вырабу. *Мы сушылі гомалкі і ўслед елі.* Дзікае Глуск.

ГРА′БАР *м.* Чалавек, які капае калодзеж. *Цяпера грабыры нарысхват.* Заполле Шкл.

ГРА′ВІСТЫЙ *прым.* Неўрадлівы, з сумесі пяску з гравіем (пра глебу). *Усія гравістыя зімля ў нас ны чыгірёўскіх гародых.* Высокае Клім.

ГРА′ДКА *ж.* Рашотка, якая ставіцца ў задок павозкі. *Грятку ны вазку ў зялёный цьвет пыкрасілі.* Вялікі Бор Касц.

ГРА′ДКІ *мн.* Месца на печы, дзе можна пагрэцца. *Ой, як я замёрс. Каб скарей пыд гряткі зыбрацца.* Рэкта Гор.

ГРА′ЗДА *прысл.* Вельмі, надта. *Гразда сусетка зыдаецца сваім сынам.* Чырвоная Слабада Бых.

ГРАЗІ′ВЕЦ *м.* Балота, дзе можна касіць сена. *Ды ты ж дзень і ноч валочыш сена з грязіўца!* Вялікі Бор Касц.

ГРАЗЮ′ЧА *ж.* Гразь. *На вуліцы тыкая грязюча, што нівазможна йіціць. Ныцыпляў грязючы ны сыпагі дый ходзіць пы хаці.* Елавец Хоц.

ГРАК *м. перан. пагардл.* Няспрытны, някемлівы чалавек. *Што ты, грак, стаіш? Ідзі дровы сеч.* Радзівонаўка Гор.

ГРА′КНУЦЦА *зак.* Ударыцца. *Гракнулася аб лёт, што чуць пыднялася.* Кляшчоўка Глуск.

ГРА′КНУЦЬ *зак.* Стукнуць. *Як гракну, дык паляціш адсюль.* Кляшчоўка Глуск.

ГРА′ХНУЦЬ *зак.* Энергічна паваліць. *Бароліся, дык я яго так лоўка грахнуў.* Нічыпаравічы Шкл.

ГРАШАТЫ′ *мн. іран.* Грошы. *У каго грашаты ёсць, тэй жывець прыпяваючы.* Зацяцерка Кругл.

ГРУ′ДКА *ж.* Пярэдняя частка цела пчалы. *А во ета грутка.* Вусце Чэрык.

ГРУДОК *м. перан.* Месца, дзе прымацоўваюць дошку для розных аб'яў. *Ці ты быў на грудку?* Дзікае Глуск.

ГРУЗОК *м.* Цяжар, што цягне сетку ўніз. *Прывяжы да сеці грузкі.* Заходы Шкл.

ГРУНЁМ *прысл.* Бягом, вельмі хутка. *Грунём нісласа даетуль!* Заброддзе Бых.

ГРЫБА′ТЫЙ *прым.* Таўстагубы. *Мае нешта панадуліся губы, во якій стаў грыбатый.* Чачэвічы Бых.

ГРЫБОЎНІК *м.* Пірог, начынены грыбамі. *А ў нас такога грыбоўніка ні пякуць.* Галоўчын Бял.

ГРЫБЫ′ *мн. перан. груб.* Губы. *Раздуў грыбы, як*

*цадзілкі.* Скураты Кругл. *Чаго надуў сваe грыбы?* Паршына Гор.

ГРЫЖЫНА′ *ж.* Бручка. *Вырысла грыжына, як з усяго поля.* Скураты Кругл.

ГУЖБА′ *ж.* Лаза, якой звязваюць бярвенне ў плыты. *Плыты звязваюць гужбой, такой лазой, яе ўюць як вярёўку.* Вусце Чэрык.

ГУЛЕ′Ц *м.* Удзельнік гульні. *Што ты за гулец, што ня можыш пы мячыку пыпасьць.* Заполле Шкл.

ГУРКОЎНІК, ГУРОЧНІК *м.* Каліўе гуркоў. *Гуркоўнік бальшэй, а гуркоў німа.* Бярозкі Хоц.

ГУРЫ′НА *ж.* Мулінэ. *Купіла маток гуріны, як езьдзіла ў Чавусы.* Вялікі Бор Касц.

ГУ′СІНА *ж.* Адна гусь. *Ільдзіна ўпала і гусіну задавіла, жырная была.* Цвёрдаў Бых.

ГУСТУ′ШКА *ж.* Пюрэ. *Мы больш за ўсё любім есьць густушку з гуркамі.* Вялікі Бор Касц.

ГУСЦЕ′Ж *м.* Гушча (у супе або баршчы). *Падлейка мне гусьцяжу с капусты, а то адна вада папалась.* Загор'е Бых.

ГУТАТА′ЦЦА, ГУТА′ШЫЦЦА *незак.* Гушкацца, гойдацца, катацца на качэлях. *Дзеці цэлы час гутаталіся ў садзі.* Скураты Кругл. *Ета на сорыкі гутутаюцца на арэліх.* Заполле Шкл.

ГУСЯ′ЧЫНА *ж.* Гусяціна. *У цябе к масьлініцы гусячыны будзіць быгата?* Заполле Шкл.

ГУ′ШЧА *ж. перан.* Каша з ячменных круп. *У нас сяньні дзюжа смашная гушча.* Касц.

## Д

ДАЛОНЯ *ж.* Далонь. *Далоня ўся ў мазалях.* Сялец Бых.

ДАЛЯЧЭЙ *прысл.* Далей; на большай адлегласці. *Я жыву далячэй зы цябе.* Чав.

ДАЎГО *прысл.* Даўно, шмат часу назад. *Даўго мы лапці насілі.* Сялец Бых.

ДАЎМІ′ЦЦА *зак.* Дадумацца, здагадацца. *Даўміцца ў такую позьнь прыйсьці.* Лежнеўка Маг.

ДАХОДЖАЦЬ *незак.* Дабівацца. *Хай бы ты даходжыла пенсіі.* Зацяцерка Кругл.

ДЗВІ′ГНУЦЬ *зак. перан.* Пайсці. *Стыяла, стыяла Анюта тутыцька дый дзьвігнула ў хату.* Лудчыцы Бых.

ДЗЕ'БРА *ж.* Забалочаная мясцовасць, зараснікі. *У такую дзебрю завёў, што ні выбраца.* Цітаўка Клім.

ДЗЕД *м. перан.* Дзіцячая гульня, падобная на гарадкі. *Хлопцы, дывайце ў дзеда гуляць.* Заполле Шкл.

ДЗЕ'ДЗІК *м.* Галушка з тоўчанай бульбы. *Мам, зрабі мне дзедзік і дай кісляку.* Бярозаўка Глуск.

ДЗЕ'ЛАЦЬ *незак.* Рабіць (у розных значэннях). *Што ты тутыцька дзелыіш упыцьмах?* Рымінка Чав. *Скарэй вязьмо дзелый, вунь хмара йдзець.* Заходы Шкл.

ДЗЕРАВЯ'НКІ *мн.* Абутак на драўлянай падэшве. *Бацінкі пупырваліcь, дык падбі дзірівянкі, дый даходзіш.* Бярозкі Хоц.

ДЗЕРАВЯ'ННЫЙ *прым.* Драўляны. *У нас усё дзірівянныя дамы, німа каменных.* Скураты Кругл.

ДЗЁЛЬКА *м. ласк.* Назва маленькага парасяці. *Дзёлька мой, еш мылачко.* Вялікі Бор Касц.

ДЗОГАЦЬ *незак.* Падскокваць. *Маліц так дзогыіць, аж вокны дрыжаць.* Чырвоная Паляна Чав.

ДЗУ'РЫЦЬ *незак.* Ліць. *Цэлую ноч дзурыў дошч і ні перастае, чорт бы яго падраў.* Дзікае Глуск.

ДЗЫГА'ТЫ *прым.* Высокі (чалавек). *Такі ўжо дзыгаты ў яе старшы хлопец.* Кляшчоўка Глуск.

ДЗЮ'ЖА *прысл.* Надта, вельмі. *Дзюжа ш ты хітрый.* Ялізава Асіп. *Нешта дзюжа сыруватый ячмень пылучылі.* Шаламы Слаўг.

ДЗЮЛЬ *м.* Злачынец. *Етыга дзюля ўжо выпусцілі с цюрьмы.* Елавец Хоц.

ДЗЮ'РЧАЦЬ *незак.* Цурчаць. *Пад етым кустом дзюрчыць ручаёк даўным-даўно.* Скураты Кругл.

ДЗЯВУ'ЛЯ *ж. зневаж.* Дзяўчына. *Такой дзявулі пыра на работу хадзіць.* Нічыпаравічы Шкл.

ДЗЯЖНІЧОК *м.* Абрус, якім накрываюць хлебную дзяжу. *Павесь дзяжнічок у сянях. Дзяжнічок можна было й замяніць.* Кляшчоўка Глуск.

ДЗЯ'ЖЫЦЬ *незак.* Доўга ісці. *Астаўся ат аўтобуса і дзяжыў пешшу дваццаць кіламетрыў.* Каўшова Мсц.

ДЗЯНЯ'ШНІ *прым.* Надоены днём. *Дзяняшні ўдой ужо здалі.* Боркі Кір.

ДЗЯРУ'ГА *ж. перан.* Непаваротлівая, неахайная жанчына. *Вун пышла дзярюга нейкыя.* Высокае Клім.

ДЗЯ'ТЛАВІНЬ *м.*, ДЗЯ'ТЛІНА *ж.* Дзятлавіна. *Ён з лесу трі вазы сена прівёз. Ды якое сена! Адзін дзятлы-*

*він*. Забычанне Касц. *Каля дарог у нас столькі дзятлывіну*. Горкі. *Ідзі аткасі нямнога дзятліны.* Баброўічы Маг.

ДЗЯЦІ'НЕЦ *м.* 1. Нячысты дух. *Хай яго дзяцінцы возьмуць*. Сялец Бых. 2. *перан.* Непаседа. *Дзяцінец нейкі, а ні дзяцёнык, паседу ж ны яго німа.* Мацееўшчына Маг.

ДОГЛЯДАК *м.* Догляд. *Ужэ й доглядак пара пачынаць*. Кляшчоўка Глуск.

ДОЙКА *ж.* Даярка. *Дойкі пашлі ўжо на херму, скора дзень будзець*. Цяцерын Кругл.

ДОЛІ *прысл.* Унізе, на падлозе. *Ні дзяржы ты хлопца долі, ён ужо аш сьсінеў*. Давыдавічы Бых.

ДОЛЬНІК *м.* Нахлебнік. *Яшчэ адзін дольнік з'явіўся*. Лазовіца Клім.

ДОСТАЧКА *ж.* Дошка, на якой рэжуць мяса, сала і інш. *Дзе дзелыся достычка? На газеці мяса ні рэжуць.* Бярозкі Хоц.

ДРА'НКА, ДРАЧОНА *ж.* Бабка, страва з дранай бульбы. *Вельмі смашная дранка з малаком.* Заходы Шкл. *Дранка добра зыпраўленая, натта спыдыбалыся мне.* Губіншчына Чэрык. *Ну й і ўдылася мыя драчона.* Паршына Гор.

ДРА'НКІ, ДРАЧОНЫ *мн.* Дранікі. *Ну й дранкі сяньні ўдаліс, проста аб'ядзеньня.* Рудня Слаўг. *Я пікла сяньні драчоны ны зайтрак.* Мацееўшчына Маг.

ДРА'ПЧЫК *м.* Прылада для рыхлення глебы. *Бяры драпчык і пойдзім бульбу палоць.* Кульшычы Слаўг.

ДРАЧ *м.* Дзяркач. *Драч валяецца на дварэ, а як трэба, дык знайсьці нельга.* Сялец Бых.

ДРА'ЧКА *ж.* Тарка. *Забяжы і купі, ні забудзь, драчку ў мыгазіні*. Бярозкі Хоц.

ДРЫВІ'ЦЬ *незак.* Трызніць. *Калі сын быў бальны, дык дрывіў абы-што*. Сідаравічы Маг.

ДРЫ'ЛІХА *ж.* Саматканая спадніца. *Бывала, у дрыліхых толькі палоць хадзілі.* Сялец Быз.

ДРЫН *м.* Кій, якім звычайна паганяюць ці адганяюць жывёлу. *Вазьмі там дрын ды дрынам яго, ніхай ні абгрызаець парога.* Заполле Шкл.

ДУ'ЛІНА *ж.* Дрэва ігрушы. *На дуліні было многа дулік, а цяпера сохнець*. Сухары Маг.

ДУХАВІ'НА *ж.* Упадзіна ў ніжняй пярэдняй частцы груднай клеткі. *Балавайся і дай пад рэбры, у самую*

*духавіну.* Чачэвічы Бых. *Як даў пад духавіну, дык думала ня выжыву.* Сялец Бых.

ДУЦА'К *м.* Чалавек, які ўмешваецца не ў свае справы. *Ты як дуцак, усюды табе дзела.* Елавец Хоц.

ДУШНЯ'К *м.* Запечак. *Пакладзі рукавіцы ў душняк, хай сохнуць.* Асман-Касаева Бял.

ДЫ'БАЛА *м.* Высокі, няскладны чалавек. *На гэтага дыбалу нічога ні купім, трэба ўсё шыць.* Тажылавічы Бабр.

ДЫ'ЛЯ *ж.* Неахайная жанчына. *Дыля ета толька гуляіць, а ў хаце ні разу ні прібярець.* Елавец Хоц.

ДЫМАКУ'Р *м.* Дымар. *Узяў дымакур і абыйшоў усе вуліцы. Во хуліган!* Асман-Касаева Бял.

ДЫ'ШЛА *н.* Дышаль, жэрдка, якая злучае перадок і заднюю частку калёс. *Дышла ажно злымалысь, во ныгрузіў.* Заполле Шкл.

## Е

Е'ТА *часц.* Гэта. *Ета ты ў грібы хадзіла?* Лудчыцы Бых.

Е'ТЫЙ, Е'НЫЙ, Е'СТЫЙ *займ.* Гэты. *У еным годзі ён у школу пойдзіць.* Рэкта Гор. *Ну во, што ж цяперя дзелыць зь етымі пырысятымі.* Рудня Слаўг. *А естый высокій — мой брат.* Загор'е Бых. *У ету вясну ідзець многа дажджоў.* Бярозкі Хоц.

Ё, ЁСЬ, ЁСІТКА. Ёсць. *У мяне ё цікавая кнішка.* Ялізава Асіп. *Ці ёсь у цябе сьпічкі?* Паршына Гор. *Ёсітка ў цябе цяперя буракі?* Каменка Крыч.

ЁДКІ *прым.* Пранізліва халодны. *Зімою выда на речкі ёдкыя.* Бярозкі Хоц.

ЁКНУЦЬ *незак.* Кальнуць, рэзка стукнуць (пра сэрца). *Так спужалыся, што серца ёкнула.* Кавалёўка Клім.

ЁМАЧНІК *м.* Чапяльнік. *Вырыш ты які-небудзь ёмычнік.* Чапляёўка Гор.

ЁРЗА *аг. асудж.* Неспакойны, непаседлівы чалавек. *Сядзі ціха, ёрза, хоць бы рас спакойна пысядзеў зы сталом.* Радзівонаўка Гор.

ЁЎНЯ *ж.* 1. Будынак, у якім труць лён. *Раней у нас была ёўня для сушкі льна, а цяпера мы ня сушым, а як паднімім, дык яго ў Шклоў і пывязуць.* Еўдакімавічы Шкл. 2. Лазня. *Наша ёўня разбурылась, нету дзе памыцца.* Еўдакімавічы Шкл.

# Ж

ЖАБУНЯ′ЦЬ *незак.* 1. Адгаварвацца. *Дос жыбуняць, ідзі й зьдзелый, што нада.* Рымінка Чав. 2. Гаварыць адно і тое ж некалькі разоў. *Рас табе жыбуняць, паслухыць нада.* Вялікі Бор Касц.

ЖАДОБА *аг.* Скупы чалавек. *У етый жадобы луччы ні прасі, зімой сьнегу ні дасьць.* Бярозкі Хоц.

ЖАДЗЮ′ГА *аг.* Скупы чалавек. *Етый жадзюга ні разу нічога ні дасьць.* Елавец Хоц.

ЖА′ЛА *н.* 1. Джала. *Як усадзіць пчыла жала, тады папрыгыіш.* Кудрычы Мсц. 2. Вострая частка брытвы. *У брытві зытупілась жала.* Чачэвічы Бых.

ЖАЛЯ′ЗАК *м.* Прас. *Вазьмі жалязак і выглаць кашулю.* Дзікае Глуск.

ЖАНІХА′ЙЛА *м.* Дарослы хлопец, якому пара жаніцца. *Ужо такей жыніхайла, а кліна зыцісаць ня ўмеіць.* Шаламы Слаўг.

ЖАРАЛО *н.* 1. Лаз у пограб, а таксама дзірка, у якую сыплюць бульбу. *Жыряло нада зыкрывать наныч.* Кашалёўка Касц. 2. Ручаіна пасля дажджу. *На вуліцы пасьля дажджу, ой, вялікыя журало.* Дубна Слаўг.

ЖА′РАНКА і ЖАРОНКА *ж.* Смажаная бульба. *З етый бульбы жарёнка дужа смашныя.* Бярозкі Хоц. *Жаранка смашная сы сьмітаный. Кушыйця — у горыдзі такой нет.* Касц.

ЖАРДЗІ′НА *аг. перан. зневаж.* Вельмі высокі чалавек. *Ету жардзіну папробуй дыгані.* Радзівонаўка Гор.

ЖАРТУ′Н *м.* Жартаўнік. *Удайся такей жартун на вёсцы адзін.* Нічыпаравічы Шкл.

ЖАСЦЯ′НКА *ж.* Буржуйка, невялічкая металічная печка. *Нада пратапіць жысьцянку, а то вугыл мокры стаў.* Вялікі Бор Касц.

ЖАЎКЛЯ′ВЫ *прым.* Пажаўцелы. *Гуркі жаўклявыя сталі, і ні дзіва, пагода такая.* Боркі Кір.

ЖАЎНА′ *ж. перан.* Жанчына, якая часта сварыцца. *Маўчы ўжо, жаўна, дос, абрыдла ўсім.* Рымінка Чав.

ЖАЎТАЛЯ′НЫЙ *прым.* Жаўтароты. *Жаўталянае ты шчэ птушанё, мой дарагі сынок! А ты ўжо вучыш.* Скураты Кругл.

ЖАЎТЛЯКІ′ *мн.* Насенныя агуркі. *Жаўтлякі не парві ў градах.* Бярозаўка Глуск.

ЖВЯ′НЬКАЦЬ *незак.* Гаварыць без перапынку. *Дос*

*табе жвянькыць! Жвянькыіць, жвянькыіць, сіраўно ш па-твойму ня будзіць.* Рымінка Чав.

ЖЛОТ *м.* Абжора. *Во ўжо жлот, ніяк ні нажрецца.* Елавец Хоц.

ЖЛУ'КТА *ж.* 1. Пасуда для выварвання бялізны. *Дырыгая, дай мне свайго жлукта пажлукціць плацьця.* Тратны Вугал Клім. 2. *перан.* Ненасытны чалавек. *Во жлукта: ужо зямлю носым дыстаець, а ўсё яму мала.* Заходы Шкл.

ЖМУТ *м. перан. асудж.* Прагны, скупы чалавек. *Ведыіш, кума, кыпалі яму бульбу, дык ён, жмут, дайжа ні пычыстывай.* Сялец Бых.

ЖМУХА' *ж.* Жамерыны. *Жмуху можна й выкінуць, ніхай сьвіньні ядуць.* Кляшчоўка Глуск.

ЖОРВАНЫ *мн.* Жорны. *Раней у нас былі толькі жорвыны, а січас у мельніцу возім.* Нічыпаравічы Шкл.

ЖОСТКІЙ *прым.* Насычаны вапнавымі солямі (пра ваду). *У нас выда жосткыя, нада яе ўсягды кіпяціць.* Сялец Бых.

ЖУ'ЖАЛКА *ж.* Галёнка. *Сват мяне нехаця ўдарыў па жужалцы, дык другі год нага баліць.* Дзікае Глуск.

ЖЫВАСОЛ *м.* Лёк. *Жывасол калі-небудзь аддаю свіньням.* Сялец Бых.

ЖЫВЕ'ЛЬ *м.* Хлорысты раствор. *У жывелі жанчыны белюць бялізну.* Чачэвічы Бых.

ЖЫГА'ЛА *н.* 1. Джала. 2. Усё, што пячэцца, колецца. *Цябе толькі жыгалам можна падняць ураньні.* Кляшчоўка Глуск.

ЖЫДЗЁНКА *ж.* Булён, бульбяны суп. *На сьніданьня елі жыдзёнку, дужа ладна ішла.* Мокрае Касц.

ЖЫ'ЛЛЕ *н.* Сухажылле. *Гэта ні мяса, а адно жыльля.* Сялец Бых.

ЖЫСЬ *ж.* Жыццё. *Жысь цяпер тыкая наступіла, што й паміраць ні нада.* Лудчыцы Бых.

ЖЫ'ЧКА *ж.* 1. Стужка, якой раней расшывалі падол спадніцы. *Жычык січас мала прышываюць.* Цяцерын Кругл. 2. Маладая крапіва. *Я вылячыла нагу карасінай і жычкай.* Бярозаўка Глуск.

ЖЭРДЗЬ *ж.* Рубель. *Жэрць ляжыць ны кытуху, вазьмі с сабой.* Рэкта Гор.

# З

ЗА′БАЛАЦЦЕ *н.*, ЗА′БЛАЦЬ, ЗА′БАЛАЦЬ *ж.* Каляровыя ніткі для вышывання. *У лаўку прывязьлі ўсякага забалацьця.* Сідаравічы Маг. *Нада купіць краснага заблацьця.* Ветрынка Бых. *Купіла ў тым магазіні заблыці белый.* Каўшова Мсц. *У мяне ж було многа забылыці, як дзеўкый была.* Шаламы Слаўг.

ЗА′БАРСКА *ж.* Частка аборы, уцягнутая ў вушкі лапця. *Забарска парвалась, дык вузял муліць.* Александрыя Шкл.

ЗАБОЙ *м.* Прыстасаванне для адціскання сыру. *У нас забой стаяў пастаянна ў сенцах.* Паташы Гор.

ЗАБУРЫ′ЦЦА *зак.* Паваліцца. *Пініп прійшоў двору п'янусінькі і спаць зыбурійся.* Халопы Красн.

ЗАВА′Л *м.* Завала, палка для запірання дзвярэй. *Там завал нада новый зьдзелыць.* Заполле Шкл.

ЗАВА′ЛІНА, ЗАГАВА′ЛІНА, ЗАЎГА′ЛІНА, ЗАГАВА′ЛЬНЯ *ж.* Прызба. *На зіму зрабіў бацька добрую заваліну.* Сялец Бых. *Восеньню апкапваюць загаваліны, штоп у хатах было цяплей.* Нядашава Маг. *Тэй год было халодна ў хаці, хоць заўгаліну апкапалі.* Сідаравічы Маг. *Апкыпалі кругом хаты зыгувальню, і зіма ні страшныя.* Вялікі Бор Касц.

ЗАВАЛОЖЫЦЬ *зак.* Задобрыць, заправіць тлушчам. *Завалош кашу хоць мырьгаріным.* Каменка Крыч. *Нада было луччый дранку зываложыць, а то ня жырная саўсім.* Вялікі Бор Касц.

ЗА′ВЕРТА *ж.* Заварацень. *За лета перасохла заверта, прышлося замяніць.* Заходы Шкл.

ЗАВІ′ДЛІВЫЙ, ЗАВІ′ДНЫЙ *прым.* Зайздросны. *Мой сусет такі ж завідлівый, усё п сабе прыбраў.* Сялец Бых. *Ня буць ты такім завідным, усё роўна ўвесь сьвет ні заграбеш.* Заполле Шкл.

ЗАВІХРЫ′НІЦЬ *зак.* Завяршыць страху. *Крышу нада быстранька завіхрыніць.* Паршына Гор.

ЗАГАРЭЦЦА *зак.* Загарэць. *Так чалавек на сонцы крепка загарэўся, аш чорный.* Вусце Чэрык.

ЗАГІ′ЛЬВАЦЬ *незак.* Закідваць вельмі далёка. *Ні нада было загільваць мяч у свет белы, а цяпер сам бягі за ім.* Вялікі Бор Касц.

ЗАГНЕ′Т, ЗАГНЕ′ТНІК *м.* Прыпечак, пляцоўка перад адтулінай у печ. *Пыстаў махотычку ны загнет.* Бярозкі

Хоц. *Пастаў чыгун потым на загнетнік.* Заходы Шкл.

ЗА'ДАБРА *ж.* Прыправа. *Прівязі з бызару цэлый мех задабры, бо сьвіньню будзем біць.* Вялікі Бор Касц.

ЗАДА'ТНЫЙ *прым.* Удалы. *Маліц такей задатный, як і яго бацька.* Бярозкі Хоц.

ЗАДА'ЧА *аг.* Задавака. *Вунь зноў пайшла задача па вуліцы.* Сялец Бых.

ЗАЗА'СЦІЦЬ *зак.* Зацямніць. *Ужо зазасьціла сьвет, а ні сьціклянная.* Сялец Бых. *Атыйдзі ат вакна, ні зызасцій сьвятла.* Елавец Хоц.

ЗАЗЁМ *м.* Першы вянок зруба. *Для зазёма адабраў самыя лепшыя бярвеньні.* Сялец Бых.

ЗАЗІ'МКАВЫ *прысл.* Знясілены зімой. *Нада прадаць гэтую зазімкавую карову.* Нядашава Маг.

ЗАІКА'НЕЦ *м.* Заіка. *Ат спугу малец стаў заіканцам.* Сялец Бых.

ЗАІНДЫ'ЧЫЦЦА *зак.* Затлуміцца. *Так заіндычыўся, што ўсё зрабіць забыў.* Крыч.

ЗАКАЛЕ'ЦЬ *зак. груб.* Памерці. *Учора Навум зыкалеў, дак трэба іціць хуваць.* Высокае Клім.

ЗАКАЛЁННЫЙ *прым.* Люты, моцны. *Вецерь такей зыкалённый, дыхнуць нівазможна.* Дубна Слаўг.

ЗАКОПКІ *мн.* Дакопкі. *На закопкі маці заўсёды варіць гуся, і я дзюжа люблю етый дзень.* Журбінская Буда Касц.

ЗАКОТА *ж.* Земляны вал, якім стрымліваецца вада ў рэчцы, грэбля. *Часта хадзілі мы с сынам на закоту рыбу лавіць.* Заходы Шкл.

ЗАКРЭНД *м.* Патайное, малапрыкметнае месца паміж сцяной і печчу. *Палажы рэчы ў закрэнд, ніхай ні выляюцца.* Лазовіца Клім. *Дзе мае сыпагі дзеліся? Наверна, ужо ў закрэнд закінулі.* Вялікі Бор Касц.

ЗАКУ'БРЫЦЬ *зак.* Закансерваваць гародніну (гуркі, памідоры). *Трэба на зіму гуркоў закубрыць хоць скольні.* Лежнеўка Маг.

ЗАКУ'ТАЦЬ *зак.* Зачыніць. *Закутый дзверí, а то халодна.* Крыч.

ЗАЛАЗУ'ХА *ж.* Суп з ячных круп і фасолі. *А нам матка наваріла зылазухі, дак мы чуць ні пыаб'ядаліська.* Вялікі Бор Касц.

ЗАЛОЖНІК *м.* 1. Палічка з дзіркамі для лыжак. *Памый ложкі ды пыстаў у заложнік.* Паршына Гор.

2. Насценная шафа для посуду. *На кухні ў бабулі заложнік высока, ніяк нічога ні дастаць.* Асман-Касаева Бял.

ЗАМАСЦІ'ЦЬ *зак.* Пакласці падлогу. *У новай хаці ўжо зымасьцілі падлогу.* Паршына Гор.

ЗАМЁТ *м.* 1. Агароджа з бярвення, закладзенага ў шулы. *У Панаса саўсім забурыўся зумёт.* Кульшычы Слаўг. *Нада закінуць замёт.* Кашалёўка Касц. 2. Гурба снегу. *За ныч пынымяло зумётаў на вуліцы.* Бярозкі Хоц. 3. Зруб калодзежа. *Вада нічыстая, замёт саўсім заваліўся.* Ніканавічы Бых.

ЗА'НІЗКА *ж.* Нізка караляў, пацерак. *Начапала занізак, як цыганка, дай выпендрываецца.* Сідаравічы Маг.

ЗАПЛІКНУ'ЦЦА *зак.* Зашпіліцца *Расхрыста, заплікніся, а то ў цябе дзесяць адзёжак і ўсё без засьцёжак.* Цяцерын Кругл.

ЗА'РАСЦЕНЬ *м.* Дарога, зарослая травой. *Пойдзяш па таму зарасьцяню ці па бальшаку?* Заходы Шкл.

ЗАРДЗІ'ЦЦА *зак.* Моцна пачырванець. *Як сказала, дык ён увесь аж зардзіўся.* Кляшчоўка Глуск.

ЗА'РЫЦЦА *зак.* Уважліва прыглядацца. *Ды ні зарься ты на яго, як на злодзія. Ну чаго ты зарісься, як бы на мне карціна нарісуваныя.* Вялікі Бор Касц.

ЗАРЫ'ЦЦА *зак.* Абваліцца, разбурыцца, паваліцца. *Наш хлеў зарыўся. Бэх, бэх — і зарыўся.* Рэкта Гор.

ЗА'СЕНЬ *ж.* Прыбудова за сенцамі. *Поўная засень дроў, на зіму хопіць.* Заходы Шкл.

ЗАСЛОНЧЫК *м.* Услон. *Пыдай бабулі зуслончык, а то ёй цяшка стаяць.* Халопы Красн.

ЗА'СМАЛКІ *мн.* Смаляныя паленцы, якія выкарыстоўваюцца для запальвання дроў у печы. *Пакладзі засмалкі ў печ, кап патсохлі, бо рана ні запаліш.* Чырвоная Слабада Бых.

ЗАСТОЙ *м.* Адстой (у малацэ). *Зьлей малако ціхенька, кап застою ні зачапіць.* Цяцерын Кругл.

ЗАСТРЭШНІЦА, ЗАСТРЭШЫНА *ж.* Застрэшак. *Вецяр сарваў усю застрэшніцу.* Заходы Шкл. *Зьдзелый застрэшыну ладную, а то вада будзіць беч у дровы.* Немерка Гор.

ЗАСТУ'ДЗЕНЬ *м.*, ЗАСТУДЗІНА *ж.* Халадзец. *На свадзьбу наварыла застудзеню, так елі с апецітам.* Цяцерын Кругл. *Наеўся застудзіны, аш аблізваяцца.* Скураты Кругл.

ЗАСЦЕ'НАК *м.* Кавалак поля далёка ад дому. *Ны зысьценкых урадзіла добрая жыта.* Касц.

ЗАТАЎКА'ЦЬ *незак.* Запраўляць ежу тлушчам ці мясам. *Ні зытыўкала, дык капуста парожнія, нішчымныя.* Бярозкі Хоц.

ЗАХОДНЯЯ ЗОРКА *спалуч.* Зорка, якая ўзыходзіць пасля заходу сонца. *Ужо ўзышла заходняя зорька, а мы шчэ гынялі ны сядзібі бульбу.* Вусце Чэрык.

ЗАЦЫ'РКАЦЬ *зак.* Запырскаць малаком падол у час даення. *Ну й дайніца ш сь цябе, увесь подыл зацыркала.* Немерка Гор.

ЗАШКВА'РЫЦЬ *зак.* Падсмажыць, растапіць (сала). *Зашкварыш сала і залі бульбу.* Галоўчын Бял.

ЗАШНУРЫ'ЦЬ *зак.* Зашнураваць. *Нада зашнурыць бацінкі, а то пацяраяш.* Заходы Шкл.

ЗАШЫ'ЙНІК *м.* Шалік. *Бабуля зьвязала дзеду шарсьцяны зашыйнік — і мне добра.* Заходы Шкл.

ЗАШЭРГНУЦЬ *зак.* Зашэрхнуць. *Возіра за ноч усё зашэргла.* Сухары Маг.

ЗАЮ'ШЫЦЦА *зак.* Старанна заняцца чым-н. *Дзеці так заюшылісь, што ні ўвідзілі вайка.* Сухары Маг.

ЗБЭЛАЦЬ *зак.* Спесціць. *Збэлала дзяцёнка, цяперака нікуды нягож.* Заазер'е Бял.

ЗВАЖА'ЦЬ *незак.* Уступаць. *Ён табе зважаць ня будзя, а будзя дзелыць па-свойму.* Заполле Шкл.

ЗВА'ННІ *прысл.* Зусім. *Званьні ні гаварыла гэтага. Званьні ня было гэтага.* Мокрае Бых.

ЗВІ'ШАВАЦЦА *зак.* Працаваць старанна і хутка. *Так ужэ штодзень звішуяцца, што й ні дагнаць.* Кляшчоўка Глуск.

ЗВОДЫ *мн.* Выдумкі, плёткі. *Цэлый дзень толькі зводы носіць ны ізыку.* Цітаўка Клім.

ЗВЯ'КАЦЬ *незак. неадабр.* Надакучліва гаварыць, напамінаць аб чым-н. непрыемным. *Што ён там зьвякыіць? Ганіця яго, кабы й сьледу ня было.* Сялец Гор.

ЗГАЙСА'ЦЬ *зак.* Стаптаць, зрабіць беспарадак пры беганні. *Ну й выкруцінь жа ты, ні пасьпела атвярнуцца, як усю крывацьзгыйсаў.* Немерка Гор.

ЗГАРОДА *ж.* 1. Агароджа. *Етый участак нада абнесьць згародай.* Стайкі Маг. *І калі ўжо ты скончыш згароду гарадзіць.* Цяцерын Кругл. 2. *перан.* Плётка. *Я табе ўсё рыскызала, як чалавеку, а ты мне што тут згароду зьдзелыў.* Рэкта Гор.

ЗГОНІНЫ *мн.* Адыходы пры ачыстцы зерня. *Пры паланьні ляціць многа згонін.* Цяцерын Кругл.

ЗГЫ'МЗІЦЬ *зак.* Скамячыць, скідаць што-н. у адну кучу. *Ну й што ты згымзіла ўсё ў кучу?* Вялікі Бор Касц.

ЗДАБРЭННЕ *н.* Угнаенне. *Заўтрі дзеці пойдуць у сыўгас здабреньня сеіць пыт кукурузу.* Вялікі Бор Касц. *Мы сяньні цэлый дзень сеялі здабреньня.* Звянчатка Клім.

ЗДАГА'Н *м.* Шклянка. *Налье здаган, сядзіць, чакае, калі ўсе разам вазьмуць.* Старая Добасна Кір.

ЗДАРАВЕ'Ц *м.* Здаровы чалавек. *Хіба такога здарайца хвароба возьмець?* Нічыпаравічы Шкл.

ЗДЗЕ'ЦЦА *зак.* Распрануцца. *Надзівайсь цяплей, а там зьдзенісься і будзяш у руках кажух трымаць.* Боркі Кір.

ЗДУ'ХІНА *ж.* Талія. *І што іна пашыла зы плацьця сабе, дайжа й здухіны ня відна.* Вялікі Бор Касц.

ЗДЫ'КЛЯ *аг. зняваж.* Худы, хваравіты чалавек. *Ты ўжо ходзіш, як здыкля.* Боркі Кір.

ЗЕЛЯЗНІ'К, ЗЕЛЯЗЬНЯ'К *м.* Рыдлёўка. *Кромі зілізьніка нічога пад рукамі ні было.* Каўшова Мсц. *Зілізьнікам бульбы аткапала.* Сідаравічы Маг. *Бярыця зілізьнякі, пойдзім канаву капаць.* Палянінавічы Бых. *Ускыпай там зілязьнікам астарожна.* Рымінка Чав.

ЗЕР *м.* Слабае святло. *Зер паявіўся толькі ў крайняй хаці.* Нядашава Маг. *Павяліч-ка зер у лямпе.* Кульшычы Слаўг.

ЗЕ'РЫЦЬ *незак.* Свяціць слабым светам. *Кнот ні дыстаець красіну, дык і цяпло такоя, чуць зеріць.* Рымінка Чав.

ЗІ'РАЦЬ *незак.* Глядзець. *Зіраю, зіраю, а потым зір, а немцы ўжо ў двор ідуць.* Заазер'е Бял.

ЗЛІНЯ'ЦЬ *зак. перан.* Схуднець. *Як стала дыяркай, дак зьлінялa.* Чырвоная Слабада Быx.

ЗЛЫ'ДНЯ *ж.* Ліхадзей, скнара. *Ета злыдня нічога ні дасьць.* Крычаў.

ЗЛЯГЧА'НЫ *прым.* Кастрыраваны. *Зліхчаныя пырысяты луччы тады растуць.* Заполле Шкл.

ЗЛЯКНУ'ЦЦА *зак.* Спалохацца. *Яшчо летась зьлякнуўся мой маліц і страціў апяціт.* Заполле Шкл.

ЗМЕ'ЦІКАЙ *прысл.* Знянацку. *Нада ш, прібігаў к нам зьмецікуй, вот жа чалавек.* Шаламы Слаўг.

ЗМУ'СІЦЬ, ЗМУ'СЦІЦЬ, СМУ'СЦІЦЬ *зак.* Звесці,

спакусіць. *Усё-ткі змусіў ён дзеўку, і пыйшла йна за яго.* Вялікі Бор Касц. *Усё ж змусьціў міня, і пышла, а патом каілась.* Каўшова Мсц. *Ужо сівая гылыва на плічах, а ён йшчэ гатоў каго хоч смусьціць.* Заполле Шкл.

ЗМУ'ЦІЦЬ *зак. перан.* Збіць (масла). *Я змуціла масла, магу прадаць троху.* Дзікае Глуск.

ЗМЫ'КАЦЬ *зак.* Прывесці ў непрыгоднасць, знасіць. *Новае плацьце змыкала ўжо — вот нягодная!* Заазер'е Бял.

ЗНЕ'ТКУЛЬ *прысл.* Аднекуль. *Нашоўся зьнеткуль хлопіц ладный і ашчаслівіў дзеўку.* Каўшова Мсц.

ЗНЕ'ЦІКІ, ЗНЕ'ЦІЎКУ *прысл.* Знянацку. *Думаў, што я яго спужаю, калі выскачу зьнецікі.* Сідаравічы Маг. *Ты ш так зьнеціўку можыш да сьмерці пірыпужаць.* Заполле Шкл.

ЗНІ'БА *аг.* Худы чалавек. *Быў чалавек як чалавек, а цяперяцькі зьніба.* Касц. *Чаго ён такі зьніба? Марта ж нічога з яды ні жалеіць.* Вялікі Бор Касц.

ЗНІБЕ'ЦЬ *незак.* Нямоцна балець. *Зьнібеў зуп, пакуль яго ня вырваў.* Каўшова Мсц.

ЗРУ'ГАВАЦЦА *незак.* Здзекавацца. *У вайну немцы, ой, як зругаваліся з нас.* Боркі Кір.

ЗЫЗМА'Р *м.* Скупы чалавек. *Свёкар мой быў бальшой зызмар.* Цяцерын Кругл.

ЗЫ'КАЎКА *ж.* Страказа. *Зыкаўкі разьліталіся, значыць, дошч будзець.* Паршына Гор.

ЗЫ'КАЦЦА *незак.* Бегаць, насіцца. *Ці доўга ты будзіш зыкыцца, ідзі ўжо спаць, а то заўтры цябе колым трэба паднімаць.* Немерка Гор.

ЗЮ'ЗЬНУЦЬ *незак.* Мерзнуць. *Ідзі ў хату, ня зюзьні пыд дзьвярыма.* Вялікі Бор Касц.

ЗЯЛЕ'ПУК *м.* Зялёныя, недаспелыя плады чаго-н. *Ягады есь дык саўсім зялепукі.* Быстрыца Мсц.

ЗЯПЛО *аг. зневаж.* Гарлапан. *Ну й зяпло, ні дасьць і слова сказаць другому.* Чырвоная Слабада Бых.

## І

ІГЛІ'ЦЫ *мн.* Папярочны драўляны брусок, якім змацоўваюцца дошкі ў дзвярах. *Нада пазваць Ціхона, штоб змацаваў ігліцамі дошкі ў дзвярах.* Сялец Бых.

ІГЫ' *часц.* Ага. *«Ці хадзіў ты ў школу?» — «Ігы!»* Сухары Маг.

ІЗДА'ЛЕКУ, ІЗДА'ЛІКУ *прысл.* Здалёк. *Я ўжо іздалеку плоха віджу.* Елавец Хоц. *Іздаліку, кажыцца, й нічога хлопіц, а як бліска пыглядзіш, дык німа нічога завідныга.* Рымінка Чав.

ІЗРУ'Б, ІСТРУ'Б *м.* 1. Зруб (хаты). *Іван прадаў свой ізруп, а купіў «Іжа».* Заходы Шкл. *Айдзі туда — ён работаіць у ізрубе.* Цяцерын Кругл. *Відаць, згніець іструб незаконченым.* Сялец Бых. *Лі іструба стольні шчэпык ляжыць, нада ныбраць хоць ны паттопу.* Бярозкі Хоц. 2. Зруб (калодзежа). *Я ўчора машынай чуць іструп ні разбурыў, і сам у калодзіш чуць ні ўляцеў.* Заполле Шкл.

ІЛЛЯ'НЫЙ *прым.* Ільняны. *Нада было троху ражжыцца ільлянога семя.* Высокае Клім.

ІЛЬМІ'Н *м.* Алюміній. *Чугунок з ільміну луччы, чым іс чыгуна.* Каменка Гор.

ІМЖА'К, ІМЖЭНЬ *м.,* ІМЖА'ЧКА, МЖА'КА *ж.* Імжа. *Такі імжак дробны імжыць.* Заходы Шкл. *На дварэ цэлы дзень ідзе імжэнь.* Лудчыцы Бых. *Сяньні ўсю ноч імжачка ішла.* Вялікі Бор Касц. *Мжака каплямі ні капыіць, але атчуваеш вільгаць.* Цяцерын Кругл.

І'МРАСЬ *ж.* Імгла. *Восіньню імрась ета дужа ныдыідаіць.* Боркі Кір.

ІНДЫ'К *м. перан.* Вялікая аплеценая бутэлька. *Цэлы індык набраў ягат.* Кульшычы Слаўг.

ІРДЗІ'ЦЬ *незак.* Злавацца. *Чаго ты на яго ірдзіш? Ён жа цябе ні чапаў.* Кляшчоўка Глуск.

ІРЖЭННЕ *н.* Іржышча. *Сяньні дажнець кымбаін жыта, а заўтрі можна будзіць гнаць кароў ны іржэньня пасьціць.* Рымінка Чав.

ІРМЯ'К *м.* Армяк. *«Надзень ірмяк, а то сьнех пашоў, змокніш увесь»,— кажа Варка Архіпу. А ён — нет!* Лудчыцы Бых.

ІСПОДКА *ж.* Рукавіца. *Вісна пачылася даўно, алі іспоткі ні мішаюць.* Сухары Маг.

ІСПОДНІЙ *прым.* Ніжні, нацельны. *Исподнюю спадніцу апшыла кружавам.* Сялец Бых.

ІЦІ'ЦЬ *незак.* Ісці. *Нада іціць шукаць сьвіней.* Рудня Слаўг.

# К

КАБЫ'ЛА *ж. перан.* 1. Скляпенне ў печы. *Кладзі печ ды глядзі, штоп кабыла ні зывалілысь.* Раманаў Красн. 2. *зневаж.* Вельмі моцная, высокая жанчына. *У Грышкі ні баба, а кабыла нейкыя.* Радзівонаўка Гор.

КАВЯЛА' *ж.* 1. А-падобная прылада для вымярэння плошчы. *Брыгадзір узяў кавілу дай пайшоў на поле.* Скураты Кругл. *У етай паласе пяць кавілак.* Рэкта Гор. 2. *перан. зневаж.* Кульгавы чалавек. *Некуды ўжо ета кывіла пакавыляла, ні сядзіцца ж ёй на месьці.* Радзівонаўка Гор.

КАВЯНЯ' *ж.* Качарга. *Пыдай, сынок, мне кывіню, нада жар выгрісьці.* Чырвоная Паляна Чав.

КАВЯРЗЕ'НЬ, НАВЯРЗЕ'НЬ *м.* Лапаць. *Ісьці з гражданскай было вельмі цяжка, прышлося кывярзьні разуць і несьці ў руках.* Еськаўка Гор. *Навярзьні стапталісь, другія зраблю.* Боркі Кір.

КАДОЛ *м.* Тонкая вяроўка, якой прывязваюць рыбацкую сецьь. *Прынясі-ка мне кадол.* Заходы Шкл.

КАДУ'ША, КАДУ'ШКА *ж. перан. абразл.* Тоўстая жанчына. *Нацька тыкая кадуша стала.* Высокае Клім. *Во нешта ты разьелыся, як кадушка, стала.* Высокае Клім.

КАДЫ'РЧЫК *м.* Невялікая драўляная дзежачка, завужаная кверху. *Унясі кадырчык у хату, будзем бліны пячы.* Дзікае Глуск.

КАЖА'Н *м. перан. іран.* Спрытны чалавек. *Кыжан Грішкаў ужо на работу пыляцеў ні свет ні зыря — вот спрытнюга.* Радзівонаўка Гор.

КА'ЖЫН *займ.* Кожны. *Кажын дзень лье пракляты дошч.* Дзікае Глуск.

КАЗЁННІКІ, КАЗЁННЫЯ САПАГІ *мн.* Салдацкія боты. *Казёньнікі ўдалыя — ужо другі год нашу.* Заполле Шкл. *Казённыя сапагі луччы ўсіх.* Высокае Клім.

КАЗЛЫ' *мн.* 1. Грыбы казлякі. *Насушы січас казлоў, бо зімой усё падбяреш.* Сычыкі Крыч. 2. Збітыя накрыж палкі, якія кладуць на страху, капу, стог. *Казлы трэба паставіць, а то вецер салому пазносіць.* Заходы Шкл. 3. Жэрдкі для сушкі льну ў сушні. *Нада яшчэ зрабіць некалькі казлоў.* Галоўчын Бял.

КАЙСТРА', КАСТРА' *ж.* Кастрыца. *Лён трэплюць—*

*кыйстра ляціць.* Заполле Шкл. *Сколькі кастры ўжо выляцела, а ільну ня відаць.* Вусце Чэрык.

ҚАҚОЦЦЕ *н.* Сучча. *Қаб жа яны толькі яблыкі рвалі, а то ш с какоцьцем ламаюць.* Сялец Бых.

ҚАЛАҚАЛУ'ХА, ҚАЛАҚАЛУ'ША *ж.* Чаромха. *У садзе расьцвіла калакалуха, нада букет хоць сарваць.* Сухары Маг. *Нулумай букет кылыкалушы ў хату.* Шаламы Слаўг. *Қалакалуша цьвіце пахучым дужа.* Загор'е Бых.

ҚАЛАМЫ'ТҚА *ж.* Панос. *А ніхай цябе кыламытка гыняя, калі ты курей пырызгыняў.* Шаламы Слаўг.

ҚАЛАНДА' *ж.* Невялікая колькасць чаго-н. *Ні падзелюць ужо кылынду тую, сьмех ажно бярець.* Шаламы Слаўг.

ҚАЛАНТЫ'Р *аг.* Папрашайка. *Ну й сыбралісь кылынтыры: просюць і просюць, як свайго нетуці табаку.* Шаламы Слаўг.

ҚАЛАСАВА'ННЕ *н.* Дробная салома. *Қаласаваньня палажы за хатай.* Галоўчын Бял.

ҚАЛАСІ'ЦЦА *незак.* Қаласавацца. *Як красіва каласіцца жыта.* Галоўчын Бял.

ҚАЛАТОЎҚА *ж. перан.* Жанчына, бойкая на язык. *О, гэтая калатоўка ўсё ведаець.* Лазовіца Қлім.

ҚАЛАШМЭТ *м.* Чалавек з кудлатымі валасамі. *Насупрацъ нас жывець дзет-калашмэт.* Заходы Шкл.

ҚАЛАШНЯ', ҚАЛАШАВІ'НА *ж.* Қалашына. *У штанах парваліся калашні, так і ходзіць.* Заходы Шкл. *Қылашню аптрыпаў усю.* Цяцерын Кругл. *Прайшоўся па етый гразі і ўсе кылышавіны зыляпыў.* Высокае Қлім.

ҚАЛБА'Н *м.* Гладыш. *Бярі вунь кылбан стаіць з малаком.* Қамёнка Крыч.

ҚАЛЕ'ҚА, ҚАЛЕ'ЧҚА *ж.* Ёрш (рыба). *Ураньні пойдуць калечак лавіць, с паўвядра прынясуць.* Цяцерын Кругл.

ҚА'ЛЕЎНІҚ *м.* Бульбоўнік. *Трэба было і калеўнік прівесьці.* Вялікі Бор Қасц.

ҚА'ЛІЎҚУ *прысл.* Вельмі мала, трошкі. *Можа п ты мне пазычыла п каліўку соды ў булкі.* Вялікі Бор Қасц. *Прінясі мне каліўку вады папіць.* Елавец Хоц.

ҚАЛЛЁТ *м.* Верхняя спадніца. *Қальлёт так ткуць: бяруць дзьве партныя і адну суконную нітку і піряплітаюць.* Вусце Чэрык.

ҚАЛОДА *ж. перан. зневаж.* Тоўстая, непаваротлівая

жанчына. *Іна тыкая калода, што чуць ходзіць.* Радзівонаўка Гор.

ҚАЛУПА'ЦЬ *незак. перан.* Вязаць. *Кулупаю ўжо два дні етыя карункі.* Крычаў.

ҚАЛЮ'ЧВІНА *ж.* Глыбокая канава на дарозе, празаная коламі. *Бывае так трасе на калючвінах, што не ўседзіць на возе, а на машыне січас ходзь бы што.* Заходы Шкл.

ҚАМАШЫ'РҚА *ж.* Шарсцяная хустка з махрамі. *Шоўкам камашырку вышывала, думала, уладжу свасе.* Паршына Гор. *Сяньні ў крамі былі кумашырькі красівыя.* Бярозкі Хоц.

ҚАМЛЮШОҚ *м.* Сцёрты венік. *Мост націраць будзяце камлюшком во етым.* Заходы Шкл.

ҚАМСА'ЦЬ *незак.* Моцна біць, лупцаваць. *Қымсаў ён яго, думалі, што заб'ець, но нічаво.* Қаўшова Мсц.

ҚАМЯНОҚ *м.* Выступ у печы над камінкам. *На камянку ляжаць рукавіцы.* Галоўчын Бял. *Қот зыбраўся ны кымянок, наверна, марос будзіць.* Ляхаўшчына Чав. *Қот ліжаў усё ны кымянку, а цяперя ні знаю, куды зьбех.* Елавец Хоц.

ҚА'НТЫР *м.* Бязмен з двума рычагамі. *Сена ў нас кантырам вешаюць.* Заполле Шкл.

ҚАНЧАРЫ' *мн.* Далёкае і дрэннае поле. *Зыгнаў скаціну ў самыя кынчары.* Святазер'е Мсц.

ҚАПАНІ'ЦА *ж.* Матыка. *Қыпаніца мая ў Алёны.* Лудчыцы Бых.

ҚАПАНІ'ЧЫЦЬ *незак.* Апрацоўваць зямлю матыкай. *Ці кыпанічыла ты сваю скураспелку?* Заполле Шкл.

ҚАПЮШОНА *ж.* Қапюшон. *Некалі капюшона ў модзі була. Як купіў мне бацька мой пакойны капюшону, дак усе завідувалі.* Қляшчоўка Глуск.

ҚАРА'ЎҚА *аг. перан.* Неахайны, неакуратны чалавек. *Спрадвеку яна такая караўка.* Сялец Бых. *Мая сусетка тыкая кыряўка, свет ні сьвяціў.* Немерка Гор.

ҚАРАЛЁЎҚА *ж.* Сорт бульбы. *Қыралёўка — дык дужа харошыя бульба.* Высокае Қлім.

ҚАРАПА'ШҚА *ж.* Выязныя сані. *Старшыня некуды рана-рана ў кырыпашцы паехаў.* Заполле Шкл.

ҚАРГОЗЛІҚ *м. зневаж.* Слабы, невялікага росту чалавек. *Ці ты ні знаіш етыга каргозьліка, як нап'ецца, дык усё вышапрудзіцца.* Радзівонаўка Гор.

КАРДОЎНІК *м.* Аер. *Пойдзім заўтрі ў кардоўнік.* Высокае Клім.

КАРДОХЛІ *мн.*, КАРДОШКА, КАРТОПЛЯ *ж.* Бульба. *Сёліта дажджоў німа, усі кардохлі пасохлі.* Тратны Вугал Клім. *У нашай брыгадзе яшчэ кардошку ня выкапалі.* Звянчатка Клім. *Я ўжо скапала сваю картоплю.* Дзікае Глуск.

КАРЗЫ'НКА *ж.* Кош, карзіна. *Ету бульбу нада сыбраць у карзынку.* Сухары Маг.

КАРЗЮ'К *м.* Кныр. *Карзюка на сьвінаферме кармілі асобна.* Паташы Гор. *Пажывеш на вяку — паклонісься і курзюку.* Паршына Гор.

КАРНА'Ч *м. іран.* Маленькі чалавек. *Етый карнач заўсёды спазьняецца.* Касц.

КАРОМІСЕЛ, КАРОМІСІЛ, КАРОМЫСІЛ *м.* Каромысел. *Палымаўся каромісел мой.* Заходы Шкл. *У нас ужо старый каромісіл, нада новый зьдзелыць.* Бярозкі Хоц. *Каромысіл пылымала свой, цяпер плоха ваду насіць.* Ляхаўшчына Чав.

КАРОТЧЫК *м.* Суконны жаночы пінжак са зборкамі. *Купіла сабе добрый кароччык.* Звянчатка Клім.

КАРТОПЛЯ ЮШКАЙ *спалуч.* Бульбяны бульён. *Юшкай картоплі ўлей.* Дзікае Глуск.

КАРЫ'ЧЛІВЫЙ *прым.* Карычневы. *Купіла карычлівых стужак.* Вусце Чэрык.

КАСМАНЫ' *мн.* Космы, непрычэсаныя валасы. *Што ты касманы распусціла?* Паташы Гор.

КАСМЫ'ННЕ *н. зб. іран.* Валасы. *Адна дной зы касмыньня як учапілісь — ох, і было сьмеху.* Шаламы Слаўг.

КАСЦЯНІ'КА *ж.* Касцяніцы. *Еш во кысьцяніку, тут яе многа.* Высокае Клім.

КА'ТАНКІ *мн.* Валёнкі. *Летам катынкі ёсьць, а зімой іх ня будзіць — ідзі купі.* Ляхаўшчына Чав. *Катанкі прывязьлі ў мыгазін — і дзяшовыя.* Заполле Шкл.

КАЎБУ'Х *м.* Страўнік. *У кабана малы каўбух, таго ён так мала еў.* Цяцерын Кругл.

КАЎГА'НКА, КАЎЧА'НКА *ж.* Чарпак. *Зачэрпні каўганку гарачай вады.* Хвойніца Кір. *Каля крыніцы заўсёды каўчанка ляжыць.* Чырвоная Слабада Бых.

КАЎГІ'РКА *ж.* Кружка. *Выпіў каўгірку мылыка і сыт стаў.* Кульшычы Слаўг.

КАЎЗЯ'НКА *ж.*, КАЎЗЕ'ЛЬ *м.* Каток; лёд. *Хадзем*

*на каўзянку, на рэчку.* Нічыпаравічы Шкл. *Бывала, кытаісься ны кыўзялі ны лыпцях, дык яны падмерзнуць ат марозу, аж стукыюць, як чыбаты.* Бярозкі Хоц.

КА'ЎКАЦЬ, КУРНЯ'ЎКАЦЬ *незак.* Мяўкаць. *Кошкі каўкаюць: каў, каў, каў.* Александрыя Шкл. *Кошка курняўкыіць.* Вялікія Амхінічы Чав.

КАЎНЕ'Р *м.* 1. Каўнер. 2. Пояс у штанах. *Каўнер можна прышыць і з другога палатна.* Сялец Бых.

КАЎНЯРОК *м.* Манжэта. *У шырокіх рукавах прышываюцца каўняркі.* Сялец Бых.

КАЎРЫ'ЖКА *ж.* Мурава. *Нарві карзінку каўрышкі.* Рэкта Гор.

КАХА'НЧЫК *м.* Прыяцель. *А мой ты каханчык, даўно ш цібе бачыла.* Загор'е Бых.

КАЦЁЛКА *ж.* Шапка сланечніка, сланечнік. *Ён ужо дзве кацёлкі сонца скруціў — вот варюга.* Шаламы Слаўг. *У етым гаду ў калхозі пысадзілі многа кацёлык.* Елавец Хоц.

КАЧАТЫ' *мн.* Уключыны. *Нашы вёслы не падыходзілі да качотаў.* Заходы Шкл.

КАЧОЛКА, КАЧУ'ЛКА *ж.* Качалка. *Качолкі ў нас толькі Архіп робіць.* Сялец Бых. *Зубатай качолкай б'юць па круглай, як катаюць.* Сялец Бых. *Вазьмі-ка качулкі ды пыкычай мне плацьця.* Рымінка Чав.

КАШЧАРЫ' *мн.* Абмалочаныя сцяблы насеннай канюшыны. *Астаюцца адны кашчары пысьля маладзьбы.* Вусце Чэрык.

КАШЫМІ'РКА *ж.* Хустка з шэрсці. *Прівязьлі кашыміркі ў цьвет на ўгле.* Вусце Чэрык. *Даўней бабы насілі бальшыя кушуміркі.* Заходы Шкл. *Мыя кушымірка ўжо парвалася.* Цяцерын Кругл.

КВА'РТА *ж.* Бутэлька 0,75 л. *Пазыч мне кварту гарэлкі.* Крычаў.

КВАРТУ'Х *м.* Фартух. *Пашыла новы квартух, так добра цяпера.* Сідаравічы Маг.

КВАСОЛЯ *ж.*, КВАСЁЛ, КВАСОЛЬ *м.* Фасоля. *Мыя квасоля сёліта саўсім плоха ўзышла.* Рымінка Чав. *Хвёдар, ідзі квасёл у хату ўнясі — січас дожч будзець.* Раманаў Красн. *У нас квасоль зысланіў усе вокны.* Губіншчына Чэрык.

КВОХКАЦЬ *незак. перан.* Стагнаць. *Чаго ты там квохчыш?* Заполле Шкл.

КЕ'КІЛІХА *ж. зневаж.* Тоўстая жанчына. *Пыглядзі-*

*ка, якая кекіліха пыйшла, што бочка — вот баба дык баба!* Елавец Хоц.

КІЁЎКА *ж.* Кукуруза. *Добрыя кіёўкі ў мяне сёліта на гародзі зарадзілі.* Раманаў Красн.

КІКІ'ЦА, КІЦІ'ЦА *ж.* Кутас. *Ідзець, бывала, і пыясы с кікіцамі з двух бакоў былтаюцца.* Вусце Чэрык.

КІ'КЛІК *м.* Безрукаўка. *У мяне ёсць кіклік, адзень яго — цяплей будзя.* Цяцерын Кругл.

КІЛУ'Н *ж.* Чалавек з грыжай. *Хто б ужо сказаў, а кілун лепш бы змоўчыў.* Заходы Шкл.

КІЛЬГІ'КА *ж.* Кульгавы чалавек. *Вунь кільгіка пайшоў да суседзяў чагой-та.* Заходы Шкл.

КІНОЎШЧЫК, КІ'НШЧЫК *м.* Кінамеханік. *Кіноўшчык скызаў, што будзіць харошая кіно.* Елавец Хоц. *Да нас прыслалі новага кіншчыка — цяпер кіны будуць пастаянна.* Скураты Кругл.

КІ'ПАЦЬ *м.* Ногаць. *Вазьмі нажніцы ды абрэш сабе кіпці.* Сялец Бых. *Кіпаць задраўся.* Сідаравічы Маг.

КІ'СТКА *ж.* Кутас. *Даўней, калі гулялі свадзьбу, дугі ў коней упрыгожвалі паясамі с кісткамі.* Заходы Шкл.

КЛА'ДЗІШЧА *н.* Могілкі. *У тым сасоньніку ёсьць кладзішча.* Дзедава Бых.

КЛЕ'МБЫ, КЛЮ'МБЫ *мн.* Абутак на драўлянай падэшве. *Як ідзём, бывала, дык клембы так і ляпаюць.* Кляшчоўка Глуск. *Клюмбы ды лапці ў дзярэўні бальшынство насілі раней.* Вусце Чэрык.

КЛЕ'ШЧЫ *мн.* Уключыны. *Клешчы ў нашай лодцы ўжо зусім слабыя — нада к кузняцу схадзіць.* Заходы Шкл.

КЛОВАРАТ *м.* Вароты. *Кловарат ужо не зачыняецца, скора разваліцца.* Цвёрдаў Бых.

КЛУМ *м.* Тлум, гоман. *Нарабілі дзеці клуму — гылыва гудзець.* Коўшава Мсц.

КЛУМІ'ЦЬ *незак.* Тлуміць, дурыць. *Ні клумі ты маю гылыву, іна й так баліць.* Каўшова Мсц.

КЛУ'МКА *ж.* Клунак. *Патсоп-ка, сынок, узьняць клумку на плечы.* Рымінка Чав. *Зьнясі гэту клумку ды прыхадзі скарэй.* Заполле Шкл.

КЛЫ'ЧЫЦЬ *незак.* Дражніць, наўмысна кагосьці злаваць. *Луччы пірастаньця клычыць дзіцёнка, а то калі вазьму дрын, дык будзіця воўкым выць.* Немерка Гор.

КОЛАМАЗЬ *ж.* Падмазка для калёс. *Дзе ты ўжо вымазылась у колымась?* Вусце Чэрык.

КОЛАТ *м.* Палка, якой палохаюць рыбу і заганяюць у сетку. *Нясі-ка быстрей колат сюда, шчука папалася.* Баброві́чы Маг.

КОЛІЦА *ж.* Ваколіца. *Чые йта дзеці пабеглі на коліцу?* Рэкта Гор.

КОЛКІЙ *прым. перан.* Капрызны, злы. *Ён заўсёды такі колкій, мой сусед, чаго ні знаю.* Сялец Бых.

КОНУС *м.* Капец бульбы. *На зіму зыкапалі два конусы бульбы — харашо штоб усё абышлось.* Сідаравічы Маг. *Сягоньня ў нашай брыгадзі зьдзелалі два конусы бульбы.* Давыдавічы Бых.

КОНЬ *м. перан. зневаж.* Здаровы высокі мужчына. *Куды ўжо етый конь пабех, ці ні сабакам сена касіць?* Радзівонаўка Гор.

КОПАНЬ *ж.* Абгароджаная сажалка для замочкі канопляў. *Ні чапай маю копань, я сама буду пасканьня мачыць.* Давыдавічы Бых.

КОПТАРАМ *прысл.* З верхам. *«Многа назбіралі грыбоў?»—«Коптарам карзіну».* Рэкта Гор.

КОРХВА *ж.* Кошык, карзінка. *Калі паедзіш у горыт, бярі ў мяне корхву.* Каменка Крыч.

КОСЫ *мн.* Кукурузныя рыльцы. *Як наліваюцца пычаткі, то косы мяккія яшчэ, як пасьпеюць, то яны ссохнуць.* Вусце Чэрык.

КОЎБА *ж.* Страва з дранай бульбы. *Табе зьдзелаць сяньня коўбы?* Заполле Шкл.

КОЎРАТЫ *мн.* Вароты. *Закрывай коўраты, а то сьвіньні ўлезуць у грады.* Тратны Вугал Клім. *Зачыні коўрыты, а то вечкі зьбягуць.* Касц.

КОЦЬВІНА *ж.* Нізке месца ў лесе. *Я сабе на коцьвінах назьбіраў троху сена.* Давыдавічы Бых.

КОШ-КОШ-КОШ *выкл.* Падзыўныя словы да каня. Заполле Шкл.

КОШКА *ж. перан.* Матыка. *Бяры кошку і ідзі капай бульбу.* Ветрынка Бых.

КРА′ЕЦ *м.* Акраец. *Атреж мне краіц хлеба.* Бярозкі Хоц.

КРА′ЖНІК *м.* Сасновы лясок. *Ідзе ты ягат назьбірала? У кражніку, за хермай?* Палянінавічы Бых.

КРАЙ *прысл.* Вельмі патрэбна, трэба. *Мне край нада купіць бахілы сыну.* Рэкта Гор.

КРА'ЙКА *ж.* Пояс з кутасамі. *Пытпыісаўся прыгожай крайкай і танцывваў чачотку.* Крыч.

КРА'ЛІ *мн.* Пацеркі, каралі. *Мне дык жоўтыя кралі да душы падабаюцца.* Заполле Шкл.

КРАМ *м.* Фабрычная тканіна. *Ай, які красівы крам я набрала на плацьце.* Дзікае Глуск.

КРАПІ'ЎНІК *м.* Пазашлюбнае дзіця. *Няхота толькі вылазіць на вуліцу, я п табе нагрукала, нягодны крапіўнік.* Цяцерын Кругл.

КРАСІ'Н, КРАСІ'Р *м.* Газа. *У нашай крамі німа красіну, прідзіцца ў Хоцімск з'ездзіць.* Бярозкі Хоц. *Аткруці лампу, я нальлю красіру.* Каменка Гор.

КРАСЦЕ'Ц *м.* Паясніца, крыж. *Красьцец нешта забалеў сяньні ў мяне.* Заходы Шкл.

КРАШЭЦЬ *зак.* Чырванець. *Дзяўчына крашэла ат сораму, но мыўчала.* Каменка Крыч.

КРОМІ *прын.* Акрамя. *Усі раз'ехаліся ны свадзьбу, кромі Йвана.* Кавалёўка Клім.

КРУЖАВЫ' *мн.* Карункі. *Мар'я вяжыць дужа красівыя кружавы.* Заходы Шкл.

КРУЖЭЛКА *ж.* Сланечнік. *У садзе расло гразда шмат кружэлак.* Чырвоная Слабада Бых.

КРУПЕ'НЯ *ж.* Крупнік. *Ну і крупеня палучылась! Такая смашная — ні адарвацца.* Заходы Шкл. *Налі-ка мне крупені, старуха!* Крыч.

КРУПЯ'НКА *ж.* Крываная каўбаса. *Сёліта крупянка добрая палучылась.* Вусце Чэрык.

КРУСА'ДНЯ, КУРОСАННЕ *н.* Курасадня. *Мае куры на крусадню рана садзяцца і рана зьлітаюць.* Каўшова Мсц. *Нашых дзвюх куріц сяньні нехта с крусадні зняў.* Рымінка Чав. *Кыш, на куросыньня!* Заполле Шкл.

КРУ'ЧАЛЫ *мн.* Калёсы для вывазкі лесу. *Папробуй-ка ны кручалых вывізі хату.* Бярозкі Хоц. *Бяріця кручалы і едзьця вазіць бярвеньня к хаці.* Тратны Вугал Клім.

КРЫВА'ВІК, КРЫВЯ'НІК *м.* Блін з крыві. *Пыспытай крывавікоў — ні атравісься.* Заполле Шкл. *Зынясі, цётка, на лух пакушыць крывянікыў.* Бярозкі Хоц.

КРЫВІНДЖА' *аг.* Кульгавы або крываногі чалавек. *З етай крывінджы нічога ні даб'есься.* Бабровічы Маг.

КРЫКСУ'Н *м.* Крыкса. *У мяне малец такі крыксун — ні сплю ўсю ноч.* Сялец Бых.

КРЫМА′Ч *м.* Тупы нож. *У грібы ладзін будзіць і крімач, а хорошы нож можыць згубіцца.* Рымінка Чав.

КРЫМСА′ЛА, КРЫСА′ЛА *н.* Крэсіва. *Раньшы цяпло палілі ат крісала.* Рудня Слаўг. *Вазьмі ны пяколку крісала, нада высіч цяпло.* Бярозкі Хоц.

КРЫНКА *ж.* Гладыш. *Вазьмі налі крынку малака.* Дзікае Глуск.

КРЫШАНЫ′ *мн.* Бульба, зваранач без шалупіння. *Зварыла крышаноў на вячэру.* Чырвоная Слабада Быx. *Крышаны з яешняй раблю кажын дзень.* Сялец Быx.

КСЦІ′НЫ *мн. уст.* Хрысціны, хрэсьбіны. *Хадзіла ўчора к Цімоху на ксціны.* Парадзіна Мсц.

КУБЛО *н.* Гняздо. *Нашла я цэлае кубло яец у крапіве.* Чырвоная Паляна Чав.

КУЁЎКА *ж.* Кукурузны пачатак. *А ны кукурузі такія бальшэя куёўкі вырасьлі.* Бярозкі Хоц.

КУ′ЗІК *м.* Гузік. *У мяне ўсе кузікі чаго-йта паадрываліся.* Касц.

КУКУРУ′ЗНІК *м.* Месца, дзе расла кукуруза. *Па кукурузьніку натта любяць хадзіць каровы.* Цяцерын Кругл.

КУКШЫ′Н *м.* Кукса, род жаночай прычоскі. *Ныталья раскруціла сёньні свой кукшын, дык я яе чуць пызнала.* Немерка Гор.

КУЛА′ГА *ж.* Саладуха. *Гаспадыня зварыла кулагу, наеліся ат пуза.* Паташы Гор. *Рэтка цяпера робяць кулагу.* Сялец Быx.

КУЛДОБА *ж.* Яма, зарослая травой. *Пайду выкашу кулдобу тую, на бугре.* Тратны Вугал Клім.

КУЛДЫ′КА *аг.* Чалавек, які хутка гаворыць. *Во кулдыка ўжо закулдычыла.* Заходы Шкл.

КУЛЁК *м.* Пінжак. *Дзе ты дастаў такі модны кулёк?* Скураты Кругл.

КУЛЁМА *аг.* Чалавек, які надзеў на сябе многа featuresрознага адзення. *Сёньні на дварэ цёпла, ні надзявайся кулёмай.* Немерка Гор.

КУЛЁЎЕ *н.* Куль, тоўсты сноп саломы. *Мы сабе натрэслі кулёўя — прыгадзіцца.* Еўдакімавічы Шкл.

КУЛЬ *м. перан.* Тоўсты чалавек. *Раз′еўся на бацькавых харчах і ходзіць, як куль.* Журбінская Буда Касц.

КУЛЬДУ′К *м.* Абцас. *У мыгазіні прыдалі й бацінкі з высокімі кульдукамі.* Губіншчына Чэрык.

КУ'ЛЬКА *ж.* Снежка. *Пагода сяньні ладная, й дзеці на вуліцы гуляюць у කулькі.* Еськаўка Гор.

КУМАНЁЎКА *ж.* Хустка. *Сват мне падарыў харошую куманёўку.* Рэкта Гор. *Я маю куманёўку, такую красівую, у цьвяточкі і ў балонычкі.* Каменка Гор.

КУПЕ'ЛА *ж.* Балацявіна. *Пойную купелу наліў дошч вады.* Чырвоная Паляна Чав.

КУ'ПІНА *ж. перан.* Куст бульбы. *Чыста капаем бульбу, ніводнай купіны ня знойдзеш.* Цяцерын Кругл.

КУ'ПЧА *ж.* Куплены ўчастак зямлі. *На купчы жылі тут адны сьперва, а потым многа насялілась.* Нічыпаравічы Шкл.

КУРА'ПА *ж.* Жаба. *Вясною ў балоці куряпы квакыюць.* Бярозкі Хоц. *Што ты тут топчысься, як курапа?* Крычаў. *Курапы, наверна, пірід дожджам рыскрічаліcь.* Шаламы Слаўг.

КУРА'ПНІК *м.* Сажалка, у якой жывуць жабы. *Зыгані ты вутак у курапнік — ніхай там жыруюць.* Забычанне Касц.

КУРДОПА *ж.* Бульба. *Курдопа сёліта ўрадзіла добра.* Рэкта Гор.

КУРДОПНІК *м.* Бульбоўнік. *Насячы сьвіньням курдопніку — хай ня выюць.* Паршына Гор.

КУРГА'Н *м. перан.* Гурба. *Цэлыя курганы сьнегу намяло — ох, і зіма сільная сёліта.* Заходы Шкл.

КУРОПА *ж. зневаж.* Няўдалая жанчына. *Усякая куропа сябе хваліць — другім жа нет за што.* Паршына Гор.

КУ'РТА *ж.* Куртка. *Пашылі мне курту с кароткімі рукавамі — рукі мёрзнуць.* Ігліца Бял.

КУ'РЦІК *м.* Жакетка. *Бач, які спрытны курцік надзела — проста красавіца.* Паршына Гор.

КУРЦЫ' *мн.* Петлі для вяровак у лапцях. *Лапці крепкія, а курцы пыатырваліcь.* Бярозкі Хоц.

КУРЧ *м. зневаж.* Неахайны чалавек. *І етый старый курч некуды папёрся.* Радзівонаўка Гор.

КУРЧЫ'НА *ж.* Шост каля печы. *Уськінь гэта лахадырья на курчыну.* Скураты Кругл.

КУР'Я'К *м.* Курыны памёт. *Цяперяцькі ні сабіраем пачаму-йта курьяку.* Вусце Чэрык.

КУСА'НІК *м.* Недаедзены кавалак хлеба. *Гэта ён еў, яго кусанік.* Чырвоная Слабада Бых.

КУФА'ЙКА, КУХА'ЙКА, КУХВА'ЙКА, КВУХВА'Й-

КА *ж.* Фуфайка. *Адзень куфайку, а то пад вечар холадна будзе.* Цяцерын Кругл. *Кызалі, што ў мыгазін куфаік прівязьлі. Верна?* Рымінка Чав. *Кухайку адзень: халодна ўжо.* Каменка Крыч. *Сяньні і ў кухвайцы ні жарка.* Заходы Шкл. *К зіме трэба яшчэ квухвайку купіць.* Лежнеўка Маг.

КУ'ХЛІК *м.* 1. Гліняная кружка. *А мы ўсігда кухлікам чарэпаем малако.* Рэкта Гор. 2. Збан з ручкай. *Вазьмі малако ў кухліку, папей з дарогі.* Крыч.

## Л

ЛАБА'ТКА *ж.* Карова без рог. *А лабатка ўсягды ідзець адна, далёка ат стада, як тая аднасобніца.* Цвёрдаў Быx.

ЛАБОК *м.* Франтон. *Нада на крышы зашыць лабок, а то цячэць.* Амхінічы Чав.

ЛАБЭРА *аг.* Здаравяка. *Етый лабэра ўсягды такій.* Вялікі Бор Касц.

ЛАБЯ'К *м.* 1. Чатырохсхільная страха конусам. *Лабяк саўсім стары, ужо развальваецца.* Чачэвічы Быx. 2. Незасеяны кавалак зямлі. *Лабяк зарос пустазеллем.* Чачэвічы Быx.

ЛА'ГІ *мн.* Падстаўка пад вулей. *Прінясі мне лагі і пымажы пыставіць вулей.* Мілаславічы Клім.

ЛА'ДАЧКІ *ж.* Таблеткі. *Нешта ніздаровіцца мне, хоць доктыр і прінісаў ладычык.* Мілаславічы Клім.

ЛА'ДНАГА *прысл.* Шмат; доўга. *Паехыў у горыд, ладныга там быў. Ладныга дроў на зіму навазіў.* Каўшова Мсц.

ЛАДОНЯ, ЛАДОНЬ *ж.* Далонь. *Што ў цябе ны ладоні?* Чачэвічы Быx. *Жуць! Так ладонь парезаў!* Кавалёўка Клім.

ЛАЙНО *н.* Старое адзенне. *Унясі тоя лайно, тама вісіць, на частаколі.* Заходы Шкл.

ЛАПЕ'ЗА *аг.* Неахайны чалавек. *Зы такога лапезу замуж ніхто ня пойдзя.* Вялікі Бор Касц.

ЛА'ННА *прысл.* Добра. *Ланна, я табе гэта прыпомню.* Скураты Кругл.

ЛАНО *н.* Калена. *Мама пысадзі мяне ны лано к сабе.* Чырвоная Паляна Чав.

ЛА'ПА *ж. перан.* Панажы. *Улезь, дзетка, на столь*

*ды пыдай мне лапу, нада кросны сяньні пыставіць.* Заполле Шкл.

ЛАПА′ТАЧКА *ж.* Няспелы стручок гароху або іншых бабовых культур. *А там толькі лыпатычкі, ні ідзі, ня рві.* Вусце Чэрык.

ЛАПА′ТКА *ж.* 1. Мянташка. *Лыпатка саўсім зьбілысь.* Барысаўка Клім. 2. Прылада для ачысткі зерня ручным спосабам. *Нашу лыпатку сусетка ўзіла, нада прінесьць.* Еўдакімавічы Шкл. *Ідзі пріняслі лупатку, павейім ячмень.* Мілаславічы Клім. 3. Лапатка (у плечавым поясе). *Я даў яму пы лыпаткых.* Цяцерын Кругл. 4. Дзіцячая цацка. *Купіла сваёй Зінцы лыпатку, дык іна цяпера цэлы дзень у пяску возіцца.* Цяцерын Кругл.

ЛАПАТУ′ХА *ж.* Пашкоджанне вастрыя касы няўдалым кляпаннем. *Ты мне толькі касу пырваў, такую лыпатуху зьдзелый.* Вусце Чэрык.

ЛАПА′ЦІЦЬ *незак.* Вастрыць (касу). *Трэба лыпаціць к заўтріму касу.* Вусце Чэрык.

ЛАПУНЫ′ *м.* Праснакі. *Сяньні наеўся лыпуноў сы скваркымі.* Кульшычы Слаўг.

ЛАСАХОР *м. уст.* Драўляныя вілы з двума акутымі рагамі, сахор. *Зарас вілы зымяняюць лысахоры.* Сялец Бых.

ЛА′СТАЎКА *ж. перан.* Устаўка ў штанах. *Штаны біз ластыўкі скора парвуцца.* Бярозкі Хоц.

ЛАТА′К *м.* Дзірка ў жорнавым камені, куды сыплецца збожжа. *З латка зярно пападая на камінь.* Галоўчын Бял.

ЛА′ТКА *ж.* Гліняная або драўляная міска. *Нашчыпі цыбулі, нытаўкі ў латкі, будзім абедыць.* Бярозкі Хоц. *Слухый, налі дзіцям у латку бульбы.* Заходы Шкл.

ЛАТУ′ШКА *ж.* Гліняная міска. *Налі крупені ў латушку.* Паташы Гор.

ЛАХАДЫ′Р′Е *н.* Старое, парванае адзенне. *Убірай сваё лахадырья атсюля.* Скураты Кругл.

ЛАХА′НКА *ж.* Цэбар для вады ці памыяў. *Ліця гэтыя памыйкі ў лыханку.* Давыдавічы Бых. *Пымагі лыханку вынесьць.* Загор'е Бых. *Памый лыханку, дарагая. Дос сядзець.* Палыкавічы Маг.

ЛА′ХАРДЗІКІ *мн.* Прысмакі. *Ён толькі ны лахардзіках і жывець.* Скураты Кругл.

ЛА′ХАЦЬ *незак.* Бегаць, гультаяваць. *Яна лахыіць цэлымі днямі.* Шкл.

ЛАХУ'ДРА *аг.* Неахайны, апушчаны чалавек. *Ці агледзіць жа тая лахудра гразь?* Свяцілавічы Бял.

ЛАХУ'ДРЫ *мн.* Распушчаныя, непрычэсаныя валасы. *Хоць бы калі свае лахудры прычасала.* Кляшчоўка Глуск.

ЛЕДАВЫ'Й *прым.* Ранні (пра ячмень). *Нада было п пасеіць ледавога ячменю, бульбы і так хопіць.* Галоўчын Бял.

ЛЕ'ЖАНКІ *мн.* Паляжалыя ў сене або саломе яблыкі ці грушы. *Падаждэжы, я табе дыстану лежынык.* Заполле Шкл.

ЛЕМЯГІ' *мн.* Франтон, закладзены бярвеннем. *На гэтай нядзелі будзем закладываць лемягі.* Сялец Бых.

ЛЕ'СКА *ж.* 1. Агароджа. *Леска ўся пыгніла, треба новую дзелыць.* Каменка Крыч. 2. Сукі елкі, адсечаныя для агароджы. *Схадзі, сынок, ды насячы лескі вазы два.* Рымінка Чав.

ЛЕСКАЦЕ'ЦЬ *незак.* Грукаць. *Каждыя утра ляскочуць калёсы, ня выспіцясь.* Мілаславічы Клім.

ЛЕТАШОК *м.* Двухгадовы конь. *Глядзі, якій етый літашок шустрый.* Ямнае Бых.

ЛЕ'ТЫНКІ *мн.* Раннія (летнія) яблыкі ці грушы. *Пыдаждэжы, я табе дыстану летынык.* Заполле Шкл.

ЛЁЛЯ *ж. дзіц.* Кашуля. *Ідзі, маё дзетка, я табе лёлю надзену.* Шаламы Слаўг. *Яе ў адной лёлі ўзяў замуж.* Урэчча Слаўг.

ЛІ'ЗАЎКА *ж.* Абшыўка ў кажуху. *Раньшы самі стырікі дзелылі лізыўку.* Бярозкі Хоц.

ЛІЗЕ'РТ *м.* Адхон. *Ехаў, ехаў ды і зваліўся ў лізерт.* Хвойніца Кір.

ЛОГ *м.* Поплаў. *Табе вазіць лён з лога.* Галоўчын Бял.

ЛОПАЦЕНЬ *м.* Вялікі свярдзёлак. *Треба ўзяць у суседа лопыцінь дый зрабіць у катку дзірку.* Кульшычы Слаўг.

ЛУ'БКА *ж.* Сяўня з ліпавай кары. *Вазьмі лупку: зы ягыдымі пойдзім.* Крычаў.

ЛУЗГА'НЧЫК *м.* Спелы арэх, які сам ападае на зямлю. *Я пайду арехі зьбіраць, адны лузганчыкі ўжо.* Каўшова Мсц.

ЛУЗГА'ЦЬ *незак.* Лузаць. *Цэлы дзень сядзіць ны зываліні і семя лузгаіць.* Заполле Шкл.

ЛУ'ЗІК *м.* Галіна. *Адламі мне лузік, нетуці чым каня пыдгыняць.* Кульшычы Слаўг.

ЛУ'НКА *ж.* Града. *Пысадзіла лунычку цубулі.* Рудня Слаўг.

ЛУ'НУЦЬ *зак.* Памерці, прапасці, загінуць. *Ён так і лунуў ат цяшкай і доўгай балезьні.* Александрыя Шкл. *Хоць лунеш, ды выпіць цягне.* Дзікае Глуск.

ЛУПАВОКІЙ *прым. зневаж.* З выпуклымі вачыма. *Во етый лупавокій пайшоў выглядаць.* Каўшова Мсц.

ЛУПА'ЙКІ, ЛУШПА'ЙКІ *мн.* Лупіны. *Дай карові лупайкі, хай ні равець.* Чапляёўка Гор. *Выкінь лушпайкі, ніхай ні гніюць.* Заполле Шкл.

ЛУПА'Ч *аг.* Чалавек з вялікімі вачыма. *Во ўжо лупач так лупач Іванаў меншый сын.* Чырвоная Слабада Быx.

ЛУ'ПКА *ж.* Лупцоўка. *Чаму ні слухаеш? Скора дам лупку.* Дзікае Глуск.

ЛУПНУ'ЦЬ *зак.* Ударыць. *Еж, а то во як лупну!* Мокрае Быx.

ЛУПОК *м.* Лубок, што ставіцца на дрэве для лоўлі раёў. *Падай сюды лупок, паставіць нада, а вось рой пападзецца.* Галоўчын Бял.

ЛУТАЧОК *м.* Адтуліна ў жорнах, адкуль сыплецца мука. *Лутачок саўсім забіўся, і мука ня сыпліцца.* Заходы Шкл.

ЛУ'ТКА *ж.* Вушак. *Лuткі пыкрасілі, штоб даўжэй служылі.* Заходы Шкл.

ЛУ'ЦЦЕ *н. зб.* Лыка. *Схадзіў бы ў лес, нарезыў луцця.* Раманаў Красн.

ЛУ'ЧКА *ж.* Тарфяная яма, запоўненая вадой. *Хрісціна пышла сьціраць рясься на лучку дай утапілася.* Вялікі Бор Касц.

ЛУЧОК *м.* Ручка ў касільне. *Лучок зрабіў, а заўтра пайду касіць.* Барсукі Быx.

ЛЫЗБА'Н *м. зневаж.* Неслух, упарты чалавек. *Што мне дзелыць зь етым лызбаном, нікога ня хочыць слухыць.* Радзівонаўка Гор.

ЛЫ'НДА *ж.* 1. Жанчына, якая нічога не робіць, а толькі ходзіць без справы з хаты ў хату. *Вунь пайшла ўжо лында.* Касц. 2. Дарослая, але не сур'ёзная дзяўчына. *Лында Зыхарава з малымі ж яшчэ гуляіць у цацкі.* Вялікі Бор. Касц.

ЛЭПАЦЬ *незак.* Красці, цягаць. *Пастаў мяса ў*

*шкапчык, а то кот лэпаць патроху будзе.* Зацяцерка Кругл.

ЛЮБОВІНА *ж.* Поснае мяса. *Во ікая любовіна пыпалась мне.* Мілаславічы Клім.

ЛЮГА'ВЫЙ *прым.* Добры, хвацкі (пра танец). *Натта ўжо палучаіцца люгавыя полічка.* Мілаславічы Клім.

ЛЮГА'ШКА *ж.* Лягушка. *Халодны, як люгашка.* Скураты Кругл.

ЛЮДЗЯ'НЫЙ *прым.* Людскі, ветлівы. *Каб хуць людзяный быў, ён жа людзей баіцца.* Кавалёўка Клім.

ЛЮК *м.* Лаз у пограб. *Ідзі закрый люк, а то нехта ўваліцца ў яму.* Мілаславічы Клім.

ЛЮХТ *м.* Юшка. *Нада ўжо люхты закрыць, а то халодна ў хаці, хоць і тапіла печ.* Цвёрдаў Бых.

ЛЯ'ГА *аг.* Гультай. *Наш ляга цэлый тыдзень хварэя ўжо.* Лазовіца Клім.

ЛЯ'ДА *ж.* 1. Набіліцы ў кроснах. *Прынясі ляда, будзем ткаць пачынаць.* Скураты Кругл. 2. Пустазельнае насенне. *Ой, сколькі ляда ад жыта палучылась.* Скураты Кругл.

ЛЯДА'ЕК *м.* Моташнасць. *Ня еж нашча брюксу, а то лідаік будзіць.* Рымінка Чав.

ЛЯДА'ШТА *прысл.* Дрэнна, моташна. *Мне што-та лідашта стала.* Каменка Крыч.

ЛЯДЗЕ'ЦЬ *незак.* Глядзець. *Лядзі-тка, як высока падняўся планяр.* Заазер'е Бял. *Лядзі-ка, твой сын прыехаў.* Рэкта Гор.

ЛЯДЗЯ'НКА, ЛЯДЗЯ'ШКА *ж.* Лядзяк, невялікі кавалачак лёду. *Ваш сын так крепка стукнуў майго малога лідзянкый.* Заходы Шкл. *Лідзяшык насеклі пыд самы ганык, нада было аткінуць іх.* Ляхаўшчына Чав.

ЛЯДНІ'К, ЛЯДОЎНІК *м.* Лядоўня. *А харашо імець лядоўнік, мылако ўсігда халодныя.* Цвёрдаў Бых.

ЛЯДНІ'К *м.* Ababak. *У нашым бярэзніку лядніков, як гразі.* Скураты Кругл.

ЛЯЖА'К *м.* Вулей, ляжачая калода. *У етым ліжаку ў мяне пчол нетуці.* Вусце Чэрык.

ЛЯЖА'НКА *ж.* 1. Грубка. *Цёпла ў хаці, ні тапіла ліжанкі.* Сухары Маг. 2. Палок, нары. *Ён ны ліжанцы сяньні ўвесь дзень прыліжаў.* Мілаславічы Клім.

ЛЯЗЦО *н.* Лязо. *Атточыць лясцо, як агонь.* Заходы Шкл.

ЛЯМЕ'НІВЫ *прым.* Алюмініевы. *Ляменівы кыцялок*

*нышла ў лесе пысьля вайны і цяперя йшчэ есь.* Дубна Слаўг.

ЛЯМОЎКА *ж.* Надточаная частка падолу. *Лямоўку ўжо зьдзелыла, можна ны танцы адзяваць — такоя плацьця.* Цяцерын Кругл.

ЛЯПЕ'НЬ *м.* Скавароднік. *Нашто ты столькі ляпнёў ныбрала?* Заполле Шкл.

ЛЯПЕ'Ш *м.* Праснак. *Ні пасьпела купіць, так ляпіша нейкыга сьпікла.* Нічыпаравічы Шкл.

ЛЯСОЎКА *ж.* Лясная дзікая яблыня, плод з гэтай яблыні. *Бывала, тут было столькі лясовык, што мы імі свіньней выкармлівалі.* Заполле Шкл.

ЛЯЎША'К, ЛЯЎШУ'Н *м.* Ляўша. *Ты хочыш, каб я далёка закінуў камень, я ж ліўшак.* Заходы Шкл. *Я і не заўважыла, што ён ляўшун.* Сялец Бых.

ЛЯ'ХА *ж.* 1. Градка, палоска зямлі, спецыяльна прыгатаваная для вырошчвання агародніны, кветак. *Ляхі зырасьлі травой.* Каменка Крыч. 2. Агрэх (пры ворыве). *Нашто ты лёхі кідаіш.* Вусце Чэрык.

ЛЯ'ШЫЦЬ *незак.* Устанаўліваць вешкі, пазначаць. *Трэба ляшыць жыта. Пашлі каго-небудзь, каб вішкі ставіў.* Заполле Шкл.

## М

МА'ГА *ж.* Малёк. *Тут столькі магі! Ну й рыбы будзець!* Нядашава Маг.

МАГІЛЁВЕЦ *м.* Жыхар Магілёва. *У нашым калхозі ўсё лета работалі мыгілёўцы.* Бярозкі Хоц. *Магілёўцы — ніплахія хлопцы.* Нядашава Маг.

МАГІЛЁЎКА *ж.* Жанчына з Магілёва ці з Магілёўшчыны. *Тады ды нас нейкыя мыгілёўка пріехыла.* Дубна Слаўг.

МАГІ'ЛЬНІК *м.* Могільнік. *Пойдзям сяньні ны магільнік — там многа будзіць народу.* Палыкавічы Маг.

МАДЗМЕ'ДЗЬ *м.* Мядзведзь. *Во ўжо ніпываротлівый якей-то, як мадзьмець.* Елавец Хоц.

МАЖА'РА *ж.* Вялікія калёсы з высокімі драбінамі. *Мы прывязьлі поўную мажару саломы.* Рэкта Гор. *Нада ў мыжары задні калёсы пыміняць.* Бярозкі Хоц. *Пакуль ныклаў дзьве мыжары саломы, дык і пот выступіў.* Рымінка Чав.

МАЖА'РКА *ж.* Брычка. *Ны мыжарцы пад'ехаў старшына і давай бісэдуваць.* Рымінка Чав.

МАЖДЖЭР *м.* Маленькая ступка. *Пазыч мне мажджэра.* Дзікае Глуск.

МА'ІЦЬ *мадальнае слова.* Мабыць. *Сяньні, маіць, дошч будзіць.* Рымінка Чав.

МАКАБІ'ННЕ *н. зб.* Каліўе маку. *У етым гаду мыкабіння было як ніколі, а маку слаба.* Лапаўка Касц.

МАКСОНІХА *ж.* Злосная жанчына. *Во максоніха, ні разу ні скажы ёй нічога, вечна зьліцца.* Елавец Хоц.

МАЛАВУ'МНЫЙ *прым.* Дурны, пусты, недалёкі. *Усе дзеці як дзеці, а старэйшая дачка малавумная, як і нарадзілася.* Сялец Бых.

МАЛАДЗІ'ЧКА *ж. перан.* Бульбасаджалка. *Даўней бульбу два тыдні сеялі, а цяпера маладзічка за два дні спраўляецца.* Лежнеўка Маг.

МАЛАДНЯ', МАЛАННЯ' *ж.* Маланка. *Маладня пасьледні дуб запаліла.* Ніканавічы Бых. *Як толькі заблішчэла малыдня, мы пачалі бягом бегчы.* Скураты Кругл. *Сяньні ноччу дужа блішчэла мылыньня.* Ігліца Бял. *Маланьня жыг ды жыг.* Чырвоная Слабада Бых.

МАЛАХОЛЬНЫЙ *прым.* Неразумны, легкадумны. *З етага малахольнага ўсе сьмяюцца.* Заходы Шкл.

МАЛАЦВІ'К *м.* Малацьбіт. *Ідзі-ка малацьвікоў пазаві, нада ж ужо малаціць.* Вусце Чэрык.

МА'ЛЕЦ *м.* Хлопец-падростак. *Етый маліц пабег на рэчку, а яго шукаюць.* Вусце Чэрык. *Мальцы, ідзіця дамой.* Сялец Бых.

МАЛЁГАЦЬ *незак.* Угаворваць. *Скора прыдзе і стане малёгаць і малёгаць, надаеў, як горкая рэцька.* Дзікае Глуск.

МАЛЁЎНІЧАК *м.* Маленькі гаршчок для малака. *Малёўнічак малака наліла, хлеба палажыла — што яму больш нада?* Заходы Шкл.

МАЛОЗІВА *н.* Малодзіва. *Шчэ нільзя мылако есць: малозівым пахнець.* Рудня Слаўг. *Малозіва ў нас ніхто ня хочыць есьць, нада сьвіньням выліць.* Ляхаўшчына Чав.

МАЛОЧНІК *м.* Першы зуб у дзіцяці. *У майго Віці сталі малочнікі праразацца на першым годзі.* Цяцерын Кругл.

МАЛОШНЯ, МАЛОШНАЯ *ж.* Малочны завод. *Мыя дычка работыіць каторый год у малошні.* Старынка

Мсц. *Занясі, дзетачка, у малошную малако.* Боркі Кір. *Нада ж здаць малако ў малошныю.* Высокае Клім.

МАЛЮПА′ХЕНЬКИЙ *прым.* Малюсенькі. *У цябе кырындаш пашці што саўсём спісаўся, такей малюпахінькій стаў.* Елавец Хоц.

МАЛЬГВА′ *ж.* Дробная рыба. *Нылавіў вядро мальгвы — ну й дос.* Кульшычы Слаўг.

МАМУ′ЛЯ *ж.* Свякроў. *Мамуля мяне любіла, я з ёй ніколі не сварылася.* Цяцерын Кругл.

МАНЖЭТ *м.* Манжэта. *Манжэт вускі пашыла ў плацьці, рука ні лезіць ніяк.* Вусце Чэрык.

МАРАЗЯ′КА *м.* Вялікі мароз. *На вуліцы такей мырызяка, што страшна й выходзіць с хаты.* Елавец Хоц.

МАРГЕ′ЛКА *м.* Мужчынская шапка з воўны. *Надзеў маргелку і пайшоў па вуліцы, як пад шляпай.* Паршына Гор.

МАРДАВА′ЦЦА *незак.* Кідацца чым-н., свавольнічаць. *Дзеці, хваціць мырдывацца.* Тратны Вугал Клім.

МАРМЫ′ЛЬ *м.* Маўклівы чалавек. *Ці ж з етым мырмылём пыгаворыш пы-чылавечыскі.* Кавалёўка Клім.

МАРШЧА′К *м.* Лапаць са скуры. *Абуй маршчакі, калі бацінкі надаелі.* Дзікае Глуск.

МАСКАЎНЯ′ *ж. груб.* Галава. *Я табе маскаўню рашчаплю.* Паташы Гор.

МАСКІ′ *мн.* Мазгі. *Ты ні забівай маскі ірундой, мяне ні прывядзеш.* Рымінка Чав. *Перастаньця! Ад вашага крыку ў маскі коліць.* Сялец Бых.

МАСЛЯ′НКА *м.* Маслёнка. *Калі мыслянку піць ня будзіця, дык я сьвіньням аддам.* Ляхаўшчына Чав.

МАСОЛ *м.* Косць. *Кот нашоў нейкій масол пыт сталом і цэлый дзень зь ім жартуіць.* Бярозкі Хоц.

МАТАВІ′ЛА *н. перан.* Маталыга. *Пашлі етага мытавілу, дык бяды ні мінеш.* Сухары Маг.

МАТЛЯ′ЦЦА *незак.* Ухіляцца ад працы, хадзіць без справы. *Во мытляецца ўжо другей месіц бяз дзела, як ня стыдна сядзець у бацькі на шыі.* Заходы Шкл.

МАТУ′СЬКА *ж.* Хросная маці. *Матуська часта к нам прыходзіць, успамінаець, як хрысьціла мяне.* Цяцерын Кругл.

МАЎМЫ′РА *аг.* Маўклівы чалавек. *Ну й маймыра Антон Васькоў, увесь дзень прамаўчыць.* Давыдавічы Бых.

МАХНЫ′ТКА *ж.* Галавешка. *У печы дагараюць мах-*

*ныткі за заслонкай, ні магу закрыць комін.* Лазовіца Клім.

МАХОТКА *ж.* Маленькі гаршчок. *У нас анна махотка варіць тры гады. Малыя* Амхінічы Чав.

МАЦЕ́РА *ж.* Тканіна, матэрыя. *Дачушка, купі мне мацеры на кохту.** Дзікае Глуск.

МА́ЦІЦА *ж.* Бэлька, на якой мацуюцца кроквы. *Маціца з доўгага бервяна дзелаецца.* Заходы Шкл.

МАЦЬ *незак.* Мець. *Трэба маць сваю галаву, а ні думаць чужой.* Чапляёўка Гор.

МЕ́СІЧКА *м. ласк.* Месячык. *Заўтра будзя месічка ўпоўні.* Давыдавічы Бых.

МІКОЛЬНІК *м.* Майскі баравік. *Слухай, я ўчора ўжо мікольнікаў набраў.* Бярозаўка Глуск.

МІТРЭНКА *ж.* Вечарынка, бяседа. *Учора ў Івана мітрэнка была. Дужа было весела.* Свяцілавічы Бял.

МІШУ́ТКА *ж. перан.* Маленькая падушачка. *Ета мішутка табе спаць будзіць — ты ж маленькі шчэ.* Заполле Шкл.

МЛЯ́НА, МЛЯ́ЎКА *прысл.* Млосна. *Пыдай вады, пысядзела на сонцы мінуту і так мляўка стала нешта.* Рымінка Чав.

МНАЖЭННА *прысл.* Вельмі многа. *У нашым лесі сёлета было мнажэнна ягат.* Давыдавічы Бых.

МНА́ЎКА *ж.* Бочка, выдзеўбаная з дрэва. *У гэтай мнаўцы мы таўклі ў вайну канаплю.* Галоўчын Бял.

МОЖ *часц.* Можа, напэўна. *Мож сяньні паедзем?* Мацееўшчына Маг.

МОЖНЕ *у знач. выказн.* Можна. *Можне мне выйсьці?* Дзікае Глуск.

МОСЛЫ *мн.* Смаркачы. *Спусьціў мослы дзяцюк і цягніцца ву школу.* Загор'е Бых.

МОСТ *м.* Падлога. *Падмяці мост. Мост нада памыць.* Машанакі Маг.

МОТ *м.* Падманшчык. *Етый мот абвядзець цябе вакол пальца пяць рас.* Паташы Гор.

МУ́ЛІЦЬ *незак.* Муляць. *Нешта ў мяне ў бацінку муліць.* Заполле Шкл.

МУЛЬТ *м.* Мультан (тканіна). *Мульт дужа нейкі вускі.* Машанакі Маг.

МЫ́ТКА *ж.* 1. Анучка, якой мыюць посуд. *Мыткай мыю чугуны.* Ляхаўшчына Чав. 2. *перан.* Жанчына,

схільная да падману. *Ета мытка ўсё табе набрахала — ні вер!* Заходы Шкл.

МЫ'ЦЕЛЬНІК *м.* Вугал супроць печы, дзе стаіць кухонная пасуда. *Вазьмі там лышкі ў мыцельніку.* Цяцерын Кругл.

МЫ'ЧКА *ж.* Жменя льну, падрыхтаваная да пражы. *Сяньні да абеду я пяць мычак спрала.* Тратны Вугал Клім.

МЭКНУЦЬ *незак.* Ударыць. *Я цябе як мэкну раз, дык адразу зразумееш, што да чаго.* Сялец Гор.

МЯЖНІ'К *м.* Вузкая паласа неўзаранай зямлі паміж двума палеткамі. *Мяжнік зарос высокай травой, хоць бы скасіў хто.* Ветрынка Быx.

МЯ'КУШКІ *мн.* Пупышкі пальцаў. *Адмарозіў мякушкі ў лесе — й цяперка баляць.* Сялец Быx.

МЯ'ЛІЦА *аг. перан.* Непаваротлівы чалавек. *Такі ш ты ўжо мяліца, як ні пыдгыняй цябе, а сь цябе, як с гуся выда.* Вялікі Бор Касц.

МЯ'ЛЛЕ *н.* Адыходы пры ручной апрацоўцы льну. *Мяльля ў бок аткідай.* Еўдакімавічы Шкл.

МЯНТА'ЧКА, МЯНТЫ'ШКА *ж.* Мянташка. *Ціперя мінтачкі ня дзелыім.* Ясенка Крас. *Мянтышка луччы бруска.* Ямнае Быx.

МЯНТА'ШКА *аг. перан.* Балбатун. *Ужо тыкая мінташка етый ухажор.* Дубна Слаўг.

МЯРЛО *аг.* Ненасытны, прагны чалавек. *Ідзе ты такое мярло ўкорміш, есьць як ні ў сябе.* Радзівонаўка Гор.

МЯРЭЧА *ж.* Цяжкапраходнае месца. *Я цігала пы мяречы парцізанам і хлеб, і сала — і ні быялась.* Забычанне Касц. *У лесі быває такая мярэча, што ні вылесьць.* Заццерка Кругл.

МЯ'ТЛУХА *ж.* Матыль, лічынка камара. *Люблю рыбу вудзіць на мятлуху.* Забычанне Касц.

МЯЧЭЎНІК *м.* Рагоз. *У лузі многа мячэўніку ёсць, так можаш ногі парезаць.* Шаламы Слаўг.

МЯШУ'ЛКА *ж.* Мяшалка. *Хто мішаіць мяшулкый, а я рукою сьвіньням зымішала.* Бярозкі Хоц.

## Н

НАБАБНА'ЦЬ *зак.* Наліць. *Набабнаў бочку вады ды дае ныраца.* Боркі Кір.

НАБІ'РКА *ж.* Самаробная пасудзіна (з кары вольхі ці бярозы), у якую збіраюць ягады. *Я набірку, зь літар, чарніц ныбрала ля самай дарогі.* Заполле Шкл.

НА'БРАДЗЬ, НА'ВАЛАЧ *ж. зб. абразл.* Чужыя людзі, перасяленцы. *У скрысеньня ў нас была поўная хата набрадзі.* Сідаравічы Маг. *Сваіх мала тут было, адна навалач.* Бярозаўка Глуск.

НАБРУ'ХАЦЬ *незак.* Набухнуць. *Сьнех так ныбрюх, што як толькі аступіўся з дарогі, дык поўныя калошы й ныбраў.* Немерка Гор.

НА'БРЫДЗЕНЬ *м.* Невядомасць, бяда. *Адкуль ета набрыдзень на маю галаву?* Хвойніца Кір.

НА'БЫЦЬ *пабочнае слова.* Мабыць. *Набыць, дождж будзе, глядзі, як нахмарыла.* Бярозаўка Глуск.

НАВЕ'СА *ж.* Завеса, пятля. *Навесы змазаць нада, кап не рыпелі.* Заходы Шкл.

НАВОНЫ *прым.* Новы, свежы. *Навоны чалавек пысяліўся ў вёсцы.* Рымінка Чав.

НАВОРЫШЧА *н.* Знаходка, выпадак. *Ну й прігожую ш ты хустку купіла, ета наворішча табе.* Рымінка Чав.

НАВУ'ЗНІК *м.* Вулей для лоўлі пчаліных раёў. *Во ета навузнік так навузнік!* Вусце Чэрык.

НАВУРЗАПОНІЦЬ *зак.* Няўмела прыгатаваць страву. *Ты нешта сяньні навурзапоніла, што я сам ні пайму, чаго сюды трэба.* Заполле Шкл.

НАВУ'ЧНІК *м.* Шматок скуры, прышыты на аброць, каб конь не бачыў, што робіцца збоку. *Конь баіцца машын, таму патрэбна надзець навучнікі.* Заходы Шкл.

НАГАРУ'СЦІЦЬ *зак.* Нагрувасціць. *Нагарусьціць гэтага хламу, што ні прайсці.* Кляшчоўка Глуск.

НАГРУ'ДНІК *м.* Вышытая на грудзях частка кашулі. *Бабуля паказала сваю кашулю з нагруднікам і палікамі на рукавах.* Заходы Шкл.

НА ДАЛОЎКАХ *спалуч.* На падлозе, на зямлі. *Вунь на далоўках жук поўзае — глядзі, дзетка.* Рэкта Гор.

НАДА'ЮСЬ, НАДОВІЧЫ *прысл.* Не так даўно, нядаўна. *Надаюсь стреціў я свайго знакомага чалавека на почці.* Касц. *Надовічы пріехаў яе сын у госьці, во ўжо радысьці было.* Бярозкі Хоц.

НАДЗЕ'ЖНІК *м.* Абрус, якім накрываюць хлебную дзежку. *Надзежнік памыць ужо нада.* Сялец Бых.

НАДУБЕ'ЦЦА *зак.* Намерзнуцца. *Хваціць с цябе — ты й так там надубеўся.* Заполле Шкл.

НАЗБІРА'ЦЦА *зак. перан.* Паступова пад'есці. *Карова бегла па бульбянішчы і назьбіралася — поўныя бакі.* Александрыя Шкл.

НАКЛАДА'ЛЬШЧЫК *м.* Чалавек, які накладвае на воз. *Я ш туды чатыры ныклыдальшчыкі пыслаў.* Заполле Шкл.

НАКЛЫ'ПАЦЬ *зак.* Назбіраць спакваля. *Пайшоў старік у лес, можа чаго трохі й наклыпыя.* Рудня Слаўг.

НАКУ'ТЫВАЦЬ *незак.* Надзяваць, апранаць. *Нашто ты так накутываіш дзіцёнка!* Высокае Клім.

НАЛЕ'ЦЦЕ *н.* Наступны год. *Закіну зыгатку зы гратку. Ніхай мыя зыгатка ляжыць ды налецьця.* Раманаў Красн.

НАМЁТКА, НАМЯ'ТКА *ж. уст.* 1. Галаўны ўбор замужніх жанчын. *Надзену, бувало, намятку і пайду гуляць.* Кляшчоўка Глуск. 2. Кусок матэрыі, які дае парадзіха бабцы. *Купіла намётку красівую сяньні бабі.* Ляхаўшчына Чав.

НАМУ'РЗАЦЦА *зак. іран.* Пад'есці. *Добра намурзаўся, аш цяшка дыхнуць.* Боркі Кір.

НАМЫ'КАЦЬ *зак.* Нарабіць мычак. *Намыкалі ўчора мычак, буду прасьць скора.* Каўшова Мсц.

НАПА'Л, НАПОЛ *м.* Бочка для мукі, выдзеўбаная з дрэва. *Раньшы поўныя ныпалы мукі стыялі. Цяперя наполы ретка дзелыюць.* Вусце Чэрык.

НАПАСТЫ'ЛЕЦЬ *зак.* Надакучыць. *Як ты мне сёньні ныпастыліў за дзень, ета толькі аднаму богу ведыма.* Немерка Гор.

НА ПАЧА'І *спалуч.* На самым пачатку, напярэдадні. *Лёт ны пычаі ўжо, заўтра-пыслізаўтра троніцца.* Рымінка Чав.

НАПА'ШКІ *прысл.* Наапашкі. *Хварсун той так напашкі носіць пінджак.* Сідаравічы Маг.

НА'ПІТА *прысл.* Насцеж. *Хто дзверы аччыніў напіта?* Каменка Крыч.

НАПРАНУ'ЦЦА *зак.* Апрануцца. *Куды ш ты так пайшоў? Напранісь-ка быстра!* Вепрын Чэрык.

НАПРА'СЛІЦА, НАПРА'СЛІНА *ж.* Паклёп, дарэмшчына. *На мяне заўсягды напрасьліцу кажуць — што ета такое!* Сідаравічы Маг. *Сплюнь на напрасьліну.* Палыкавічы Маг.

НАПРА′ТКА *ж.* Вопратка. *І напрятку якую нада справіць к зіме.* Каўшова Мсц. *Ізвесна, якая ў дзярэўні нупрятка.* Вусце Чэрык. *Ныпрятка дзюжа ж дырыгая.* Журбін Касц.

НАПЭТАЦЬ *зак.* Накласці, напакаваць. *Анюта напэтала цэлы мех бульбы.* Боркі Кір.

НАПЯ′ЛІЦЬ *зак.* Адзець, абуць што-н. цеснае з цяжкасцю. *Куды ты ныпяліў ны сваю лапу спотку?* Заполле Шкл.

НАРОШНІ, НАРОШНЯ *прысл.* Назнарок. *Калі ты мяне ні пускаіш, дык пайду нарошні.* Сухары Маг. *Ён нарошня ні зайшоў за мною, каб я тут пабыла йшчэ.* Заполле Шкл.

НАРУ′ШНІК *м.* Манжэта. *Дарожай таму, што нарушнікі шарсьцяныя.* Сялец Быx.

НАСА′К *м.* Насок, пярэдняя частка ступні. *Даць насака — значыць ударыць наском.* Кляшчоўка Глуск.

НАСЕ′НКА *ж.* Старая бульбіна, выкапаная разам з маладой. *Насенку ж ні бяры.* Галоўчын Бял.

НАСТОЙНІК *м.* Пасудзіна для адстойвання малака. *Настойнікі памыла, а больш нету чаго дзелыць.* Дубна Слаўг.

НАСУРНІ′ЦЬ *зак.* Нахмарыць. *Нешта насурніла, каб дошч ні пайшоў ны нашу бульбу.* Рымінка Чав.

НАСЦІ′ЛЬ *м.* Насціл. *На нашым мосьці насціль ні прібітый.* Вепрын Чэрык.

НА′СЬКІЙ *займ.* Наш. *У наськім баку праходзяць дажджы часьцей.* Цяцерын Кругл. *Наській брыгадзір саўсім паехаў у горат.* Лудчыцы Быx.

НА′ТМЫЧ *прысл.* Дагары. *Пакыўзнулыся на льду ды натмыч пыляцела.* Рымінка Чав.

НАЎГОЛЬНІК *м.* Паліца ў кутку, дзе стаіць кухонная пасуда. *Ты крушку шукаіш? Йна ны наўгольніку стаіць.* Бярозкі Хоц.

НАЦІ′НА *ж.* Бульбоўнік. *Бульба ўся пашла ў націну.* Заполле Шкл.

НАЧЛЕ′ЖКІ *мн.* Вячоркі, начлег. *Я часта хадзіла ў начлешкі.* Касц.

НА′ША *ж.* Кіслае малако. *Перакуліў гарлач нашы.* Скураты Кругл.

НЕ′БА *н. перан.* Скляпенне ў печы. *У нашай печы неба высокае.* Сялец Быx.

НЕДАЛУ'ГІ *прым.* Хворы, слабы. *Нідалугі ён стаў саўсім.* Боркі Кір.

НЕДАЎМЕ'ЦЬ *незак.* Не разумець, недамысліваць. *Мыя Галя саўсім нічога нідаўмее ў арыхмецікі.* Лудчыцы Бых.

НЕДАХВА'ТНАСЦЬ *ж.* Недахоп. *У етый латрюгі з-за нідыхватнасьці грошый у людзі нету ў чым выйсці.* Рымінка Чав.

НЕ'ЙДЗІ *прысл.* Дзесьці, недзе. *Нейдзі цяплёнак заціраўся — дзеці цэлы час ішчуць.* Заполле Шкл.

НЕКУЦА'ВЫЙ *прым.* Неядомы (грыб). *Еты грыб некуцавый.* Заходы Шкл.

НЕ'ПУЦЬ *аг.* Бязладны чалавек, шалапут. *Во непуць ета нісусветныя камандаваць бярецца.* Рудня Слаўг.

НЕСКЛАДУ'ХА *аг.* Нясkладны, няўклюжы чалавек. *Кузьма такей ужо нiскладуха, за што не возьміцца, усё з рук валіцца.* Радзівонаўка Гор.

НЕХАЦІ'МЕЦ *м.* Аднаасобнік. *У ніхацімца і хата на вотшыбе стыяла.* Кульшычы Слаўг.

НІБЫ'ТТА *злуч.* Быццам, нібыта. *Старшыня гаварыў, нібытта будуць рашчытываць на той нядзелі.* Заполле Шкл.

НІ'ВЯСЬ *прысл.* Невядома. *Сусед ні пріносіць доўгу, а сабе нівісь як спрасіць.* Рымінка Чав.

НІКАЛА'ЕЎСКІЙ ХАЛАСЦЯ'К *спалуч.* Немалады нежанаты хлопец. *А ён век будзіць нікылаеўскім хылысьцяком.* Вусце Чэрык.

НІКУДЫ'ШНІ *прым.* Нікудышны. *Чалавек гэты зусім нікудышні.* Асман-Касаева Бял.

НІЧАГЕ'НЕЧКІ, НІЧАГЕ'НЬКІ *займ.* Нічагусенькі. *Нічагенечкі німа, хоць вока зацерушы.* Боркі Кір. *Нічагенькі ні купіла сабе, толькі прайшлася.* Дубна Слаўг.

НОЙДЫ *мадальнае слова.* Мабыць. *Нойды, ты не прыдзеш, а я буду чакаць.* Еськаўка Гор.

НОТНЫЙ *прым.* Ганарысты. *Як у горадзі пабыла, дык і нотнай стала.* Боркі Кір.

НОЎДЫ *прысл.* Часам. *Ноўды б тут ні зычапіцца за што ўпыцьмах.* Рымінка Чав.

НУНЁЖ *часц.* Няўжо ж. *Нунёж я ні пайду з вамі на речку.* Елавец Хоц.

НЫ'КАЦЬ *незак.* Плакаць, ныць, хныкаць. *Дос та-*

*бе ныкыць пы гароду, ідзі ўжо на работу.* Тратны Вугал Клім.

НЯБОЖ *м.* Пляменнік. *Хутка прыйдзе мой нябож.* Дзікае Глуск.

НЯВЫ′ВАЛАКА *аг.* Нязграбны гультаяваты чалавек. *Валачэцца, вох, і нявывалака ш.* Скураты Кругл.

НЯГЕ′ДЛЫ *прым.* Недаразвіты, слабы. *Тут воўцы нейкія нягедлыя, пойдзім там пыглядзім.* Заполле Шкл.

НЯГОННЫ *прым.* Нізкі ў маральных адносінах, дрэнны. *Ён дужа нягонны чалавек у сямейнай жызьні, а работнік харошы.* Заполле Шкл.

НЯЙМЕ′ЦЦА ВЕ′РЫ *спалуч.* Не верыцца. *Няймецца веры, што б ён скызаў ніпраўду.* Рымінка Чав.

НЯЙНА′ЧЫ *прысл.* Няйначай. *На гэты кажух пайшло няйначы як пяць аўчынак.* Заполле Шкл.

НЯЛЮ′ДСКІ *прым.* Замкнуты, пануры, нелюдзімы. *У мяне дзеці нейкія нілюцкія.* Заполле Шкл.

НЯМАВЕ′СЦІ *прысл.* Немаведама. *Пака ён ачухаецца, дык я ўжо буду німавесьці дзе.* Кляшчоўка Глуск.

НЯМА′ШАКА, НЯМА′ШАЦЬКА. Няма. *Нямашыка ў мяне больш цукерак вам.* Чав. *У лесі нямашацька грыбоў, чаго туды йціць.* Стаі Кругл.

НЯЎГОДДЗЕ *н.* Няўдобіца. *Няўгодзьдзе займае вялікую плошчу, скора й яго асушаць.* Сялец Бых.

НЯЎДОБА, НЯЎДОБІЯ, *ж.,* НЯЎДОБІЧЧА *н.* Няўдобіца. *У нас няўдобы мала.* Галоўчын Бял. *Ета няўдобічча ня нада і засяваць — толку ня будзець.* Вусце Чэрык. *На гэтай няўдобіі расьце такая трава*! Цяцерын Кругл.

НЯ′ЎКАЦЬ *незак.* Мяўкаць. *О, няўкаіш! Малака захацела, а мышэй лавіць ня хочаш.* Цвёрдаў Бых.

НЯЎКОМ *прысл.* Знячэўку, знянацку. *Няўком пріехаў і праведаў бацьку.* Каменка Крыч.

## П

ПАБЕ′ЛА *ж.* Мел. *Раней пабелу дабывалі самі.* Чачэвічы Бых.

ПАВЕ′СЛА *н.* 1. Пук сухога ільну, вынесенага з сушкі за адзін раз для апрацоўкі. *У павеслу шэйсят руцень.* 2. Звязак ільну з закручанымі канцамі пасля часання. *У нас ужо многа начасалі павеслаў.* Цяцерын Кругл.

ПАГАМОНКА *ж.* Пагалоска, чутка. *Пагамонка*

*пашла па дзярэўні, што сын жэніцца.* Цяцерын Кругл.

ПАГРАБНЯ′ *ж.* Пограб. *Пыставілі кадушку на паграбні, і ўсю зіму агурцы елі.* Рэкта Гор.

ПАДАВА′ЛІЦА *ж.* Прылада, якой падаюць снапы. *Пыдываліца згніла ля сьцяны, снапоў нетуці.* Каменка Крыч.

ПАДАКОНАК *м.*, ПАДАКОННІЦА *ж.* Падаконнік. *Падаконкі ўсе вазонамі заняты.* Заходы Шкл. *Мой малец усю падаконьніцу пасек ножам.* Сялец Бых.

ПА′ДАНКІ *мн.* Апад, апалыя яблыкі. *Паданкі прімаюць на вінным заводзі.* Заполле Шкл.

ПАДБА′ЛАШНІКІ *мн.* Бярвенне, якое кладзецца ў апошнім вянку (пад бэлькамі). *У апошнім вянцы падбалашнікі кладуць, каб балкі ўпусьціць.* Заходы Шкл.

ПАДБАРОДЫШ *м.* Падбародак. *Вунь у яго такей пыдбародыш вырыс.* Бярозкі Хоц.

ПАДВАЛОЧКА *ж.* Падвалока. *На чаўнах едуць удваём, адной рукой падганяюць лотку, а другой — падвалочку цягнуць.* Сялец Бых.

ПАДВЕСЯЛІ′ЦЦА *зак.* Крыху выпіць гарэлкі. *Мой ужо недзі пыдвісяліўся.* Чав.

ПАД ГНОЙ *спалуч.* З гноем у баразне. *У нас пад гной садзяць пачці ўсе.* Цяцерын Кругл. *Як пасеяла летась пад гной, дык засыпалася бульбай увосянь.* Галоўчын Бял.

ПАДГРА′ДКІ *мн.* Задняя частка сялянскай печы, прыстасаваная для ляжання. *Лесь на падграткі!* Паршына Гор.

ПАДЗАГНЕ′Т *м.*, ПАДЗАГНЕ′ЦЦЕ *н.* Месца пад прыпекам, дзе ставяць гаршкі, збанкі і інш. *Падзагнецьця чыстае, пастаў тарэлку туды.* Заходы Шкл.

ПАДЗІРА′ЦЬ *незак.* Падглядаць. *А ты ні пыдзірай, чаго табе ня сьледуіць.* Заполле Шкл.

ПАДКАЛОТКА *ж.* Мачанка. *Навару, бувала, паткалоткі, дык усе так ядуць.* Кляшчоўка Глуск.

ПАДЛЕ′ЦІЦЬ *зак.* Падагрэць (ваду). *Ваду нада нямнога падлеціць.* Заполле Шкл.

ПАДЛЯЦА′ЦЬ *незак.* Абяцаць. *Рас падляцаў, павінен зрабіць.* Скураты Кругл.

ПАДМЫ′Ў *м.* Месца, дзе вада падмывае бераг. *Вада падмыла бераг, атсюль падмыў.* Еўдакімавічы Шкл.

ПАДНАВЕ′С *м.* Гаспадарчы будынак. *У паднавесі злажылі жыта.* Папоўцы Шкл.

ПАДНУ'КНУЦЬ *зак.* Падахвоціць. *Я ні знаю, што б дзелыла, есьлі б яна мяне ні паднукнула.* Елавец Хоц.

ПАДНЯБЕ'ННЕ *н.* 1. Верхняя частка поласці рота. 2. Скляпенне ў печы. *На паднябеньні няма адной кірпічыны, дык плоха — цыгуны накрываць нада.* Галоўчын Бял.

ПАДОЙНІЦА *ж.* Даёнка. *Прінясі-ка падойніцу яшчэ, буду даіць другей раз.* Елавец Хоц.

ПАДПАВЕ'ЦЦЕ *н.* Павець. *Мятлішкі ўсё патпавецьця ўсыпалі.* Цвёрдаў Бых.

ПАДПА'САВІЧ, ПАДПА'СЫЧ *м.* Падпасак. *Пытпасавіч у мяне сёньня папаўся добры.* Галоўчын Бял. *Ты сяньні зы пытпасывіча будзіш.* Заполле Шкл. *Наш патпасыч — добры чалавек.* Нядашава Маг.

ПАДПРЫ'ПЕК *м.* Месца пад прыпекам. *Гэты гаршчок у патпрыпяк пакладзі, ніхай сохне.* Сялец Бых.

ПАДРЭЗ *м.* Няпоўнасцю кастрыраваны жарабец ці кныр. *Падрэза ніколі ня ўкорміш.* Александрыя Шкл.

ПАД СІ'ЛУ *спалуч.* У поясе (узяцца). *Ты дай яму пат сілу ўзяцца: ён жа меншы.* Заполле Шкл.

ПАДСІ'НЬКА *ж.* Сінька. *Патсінька сяньні была ў мыгазіне.* Ляхаўшчына Чав.

ПАДСКРОБАК, ПАДСКРОБЫШ *м.* 1. Невялікая буханка хлеба з астаткаў цеста. *А ў мяне пашці ніколі ні бываіць патс̆кропка, а ўсё ў булку ўлазіць.* Галоўчын Бял. *Сяньні ныпікла хлеба і ны падскребіш цеста асталося.* Заходы Шкл. 2. Апошняе дзіця ў сям'і. *Ета наш патскрёбыш.* Бярозкі Хоц.

ПАДСЛАНЕ'ЧНІК *м.* Сланечнік. *У нас мала патсланешніку — усяго штук дзесяць.* Цяцерын Кругл.

ПАДСТОЛЬНІК *м.* Бэлька, на якой трымаецца столь. *У патстольнік убівалі цвік і вешалі лямпу.* Паташы Гор. *Трэба патстольнікі пыміняць, а то ўжо ў вуглах пычалі гнісьць.* Немерка Гор.

ПАДТОПА *ж.* Сухія трэскі для падпальвання ў печы. *Стары, пакалі дроў на паттопу.* Цяцерын Кругл. *Паттопа — ета смалістыя, дужа добрыя цёскі.* Рудня Слаўг.

ПАД УЗДУ'ХІ *прысл.* Пад дыхавіцай. *Стукнуў яму пад уздухі, той аж прысеў.* Заходы Шкл.

ПАДУ'ШЧАНІК *м.* Навалачка. *Пашыла новы падушчанік.* Дзікае Глуск. *Падушчанік етый ужо каторый гот служыць.* Дубна Слаўг.

ПАДЦОБІЦЬ *зак.* Дапамагчы. *Пацоп-ка мне на плечы ўзьняць мяшок.* Рымінка Чав.

ПАДШЧУ′ПАЦЬ *зак.* Выкапаць з зямлі маладую бульбу, не вырываючы бацвінне. *Патшчупаю пайду бульбу к вечарю.* Вусце Чэрык.

ПАДШЫВА′ЦЬ *незак.* Падшалёўваць. *Нада пытшываць пыталок, а то халодна ў хаці.* Бярозкі Хоц.

ПАД′ЯЛДЫ′КНУЦЬ *зак.* Сказаць што-н. з′едлівае, непрыемнае. *Пыд′ялдыкнуў ужо нехта.* Рудня Слаўг.

ПАД′ЯРЫ′ГА *аг.* Падбухторшчык. *Ня будь такой пад′ярыгуй.* Шаламы Слаўг.

ПАЖЫНА′ЦЬ *зак.* Пажаць пэўны час. *Пайду да беда пыжынаю, а можа і ўсё дажну.* Рымінка Чав.

ПАЖЫ′ЦЬ *зак.* Выздаравець, зажыць. *Дзіцятка маё, твыя ручачка скора ўжо пыжывіць.* Вялікі Бор Касц.

ПА′ЗАЛКІ *мн.* Луг для адбельвання бялізны. *Етыя пазалкі можна ўжо выліць.* Чачэвічы Бых.

ПАЗОР *м.* Погляд. *У майго зяця пазор нейкій ніліоцкій.* Заполле Шкл.

ПАЗОРНЫЙ *прым.* Прыкметны, самавіты. *Пазорьную карову купіў наш сасед.* Вялікі Бор Касц.

ПА′ЙКА *ж.* Дзялянка, частка. *Сяньні за дзень жжала сваю пайку.* Бярозкі Хоц. *Пайду занімаць другую пайку.* Сялец Бых.

ПАЙЦІ′ЦЬ *зак.* Пайсці. *Мама, можна пайціць і ў кіно?* Нядашава Маг.

ПАКВОЛЬНА *прысл.* Павольна. *Ідзі пäквальней!* Цяцерын Кругл.

ПАЛАВІ′ННІК *м.* Пасудзіна, дзе захоўваюць жыта. *Пірясып с пылавіньніка жыта ў торбычку й пыдай сюды.* Чырвоная Паляна Чав.

ПАЛМІ′САК *м.* Неглыбокая міска. *У палмісак ныклыдаюць сьмітану і мыкаюць латкамі.* Бярозкі Хоц.

ПАЛОЙ *м.* Невялікая рачулка, якая выцякае з крыніцы. *Пайдзём ны палой праць плацьця.* Чырвоная Паляна Чав.

ПАЛУШУ′БАК *м.* Кароткі кажух з аўчын. *Ныдзівайка ты пулушубык, на вуліцы халодна, застудзісься.* Кавалёўка Клім.

ПАЛЬНІ′ЦА *ж.* Масніца. *Трэба зьмяніць дзьве пальніцы.* Кульшчычы Слаўг.

ПАЛЭПАЦЬ *зак. груб.* Пакратацъ. *Што ні палажы, усё ён палэпае сваімі рукамі.* Заазер'е Бял.

ПАЛЯ'ДКІ *мн.* Высечаны лес пад поле. *Мы на палятках набралі многа ягат.* Давыдавічы Быx.

ПА'ЛЯКІ *м.* Выступы бярвення, якія ўваходзяць у вушак. *Засякаюцца палякі і ўстаўляецца тады вушняк.* Сялец Быx.

ПАЛЯМБІ'ЦА *ж.* Паляндвіца. *С пылямбіцы надзелыла куўбас.* Шаламы Слаўг.

ПАМАГА'Ч *м.* Памочнік, памагаты. *Пымыгач зь яго невялікій.* Дубна Слаўг.

ПАМА'ЛЕЧКУ *прысл.* Памаленьку. *Вазьмі ж памалечку вядро з вадой.* Чапляёўка Гор.

ПАМАНІ'ЦЬ *зак.* Паклікаць. *Памані цыплят і накармі іх.* Касц.

ПАМЕ'ЦЦА *зак.* Намерыцца. *Яна была памелася адзычыць мне грошы, ды не адзычыла.* Сідаравічы Маг.

ПАМЫ'ЧЫЦЬ *зак.* Абчасаць лён і скруціць для пражы. *Мне нада ж лён памычыць грабёнкаю, ато кыстрявый.* Вусце Чэрык.

ПАМЯЛО *аг. перан. неадабр.* Балбатун. *Іна ныстыяшчыя пымяло, нікому спакою ат яе німа.* Вялікі Бор Касц.

ПАНАРОЎКА *ж.* Звычка. *І што зы дурная пынароўка сьвістаць ны каждым шагу!* Рымінка Чав.

ПАНЁВА *ж.* Саматканая спадніца з воўны. *Панёвы ўжо пырваліcь, треба ныткаць.* Чав. *Раней мы насілі панёвы.* Сідаравічы Маг.

ПА'НІЎКА *ж.* 1. Палонка. *Схадзі вады ў паніўку.* Сідаравічы Маг. 2. Топкае месца ў рацэ. *Ты ўжо, наверна, мой сынок, луччыя паніўкі ні нашоў?* Давыдавічы Быx. *Алёна, ідзі-ка ны паніўку, памый тряпкі.* Тратны Вугал Клім.

ПАНІТАВА'ЦЬ *незак.* Апанятоўваць. *Коні Івануву капусту зьелі, дык пашлі пынітуваць.* Шаламы Слаўг.

ПАНПУ'ШКІ *мн.* Аладкі. *Я напякла сёння панпушак ды памачала ў сьмятану.* Кляшчоўка Глуск.

ПАНЯ'ЦЛІВЫЙ *прым.* Кемлівы. *Ён такім у мяне пыняцьлівым рос, што ні скажуць яму, ні разу ні пірыспрашыіць.* Заполле Шкл.

ПАПАРА'ДЧЫЦЬ *зак.* Прывесці ў парадак. *З гароду ўсё сабралі, нада папырятчыць усё ў погрібі.* Бярозкі Хоц.

ПАПА'РАНІНА, ПА'РАНІНА *ж.* Папар. *На папараніні ходзіць скот.* Цяцерын Кругл. *Выгналі жывёлу на параніну.* Скураты Кругл. *Вygaнь кароў хоць на парыніну.* Вусце Чэрык.

ПАПЕ'РАДУ *прысл.* Раней, спачатку. *Папераду схадзі ў магазін, пасьля пойдзіш у клуб.* Зацяцерка Кругл.

ПАПІХА'ЙЛА *аг.* Папіхіч. *Вунь пайшоў папіхайла.* Нядашава Маг. *Ты ўжо што пупіхайла якоя, куды можна табе, куды ня можна, йдзеш кожный дзень.* Рымінка Чав. *Пыпіхайлым будзіш, калі будзіш дальшы ўсіх слухаць.* Заполле Шкл.

ПАПРАШЧА'ЦЦА *зак.* Развітацца. *Зайдзі ш пірід ат'ездам пупрышчацца.* Вепрын Чэрык.

ПА'РАНКА *ж.* 1. Параная бульба ў лушпінах. *Зімой сьвіньням вару паранку.* Сялец Бых. 2. Невялікі будынак на ферме, дзе рыхтуюць корм скаціне. *Паранку сёньня рана запалілі.* Заброддзе Бых.

ПАРАСЦІ' *зак.* Прарасці (пра бульбу). *У мяне етай вясной уся бульба пырысла ў погрібі.* Вусце Чэрык.

ПАРАЎНОЎВАЦЬ *незак.* Баранаваць перад сяўбой. *Перад самай сяўбой параўноўваюць зямлю бараной ці катком.* Цяцерын Кругл.

ПАРНЯ'ТЫ *мн.* Двайняты. *Два раза радзіла парнят.* Вепрын Чэрык.

ПАРЭНЧА, ПАРЭНДЖА *ж.* Поручні. *Стаў на парэнчу, а ні прыгнуў у ваду з маста.* Вусце Чэрык. *У нас хлопец с парэнджай зваліўся і зламаў руку.* Заходы Шкл.

ПАРОНКІ *мн.* 1. Звараная бульба. *Паронкі вужо зварыліся, хадзі есьці будзім.* Загор'е Бых. 2. Дробная бульба, якая ідзе на корм жывёле. *Сёліта бульба саўсём дробныя была, адны паронкі.* Заполле Шкл.

ПАРЦЮ'ШКА *ж.*, ПАРЦЯ'НІК *м.* Саматканая спадніца (з порту). *Парцюшку падзьдзень, халодна.* Каменка Крыч. *Парцянік мой ужо саўсім вынасіўся.* Кляшчоўка Глуск.

ПАСЕ'І *мн.* Высеўкі. *У дрэннай мукі многа пасеяў.* Галоўчын Бял.

ПАСЁСТРА *ж.* Дваюрадная сястра. *Дваюродная сістра — ета й пасёстра.* Вусце Чэрык.

ПАСКА'ННІ *мн.* Каноплі. *Сяньні мне нада іціць выбіраць пысканьні.* Вепрын Чэрык.

ПАСКРОБАК *м.* Выскрабак, маленькая булачка хлеба, спечаная з рэшткаў цеста. *Я ўжо й бліноў напякла і адзін паскробак выйшаў ат астаткаў цеста.* Заходы Шкл.

ПАССІЛКА *ж.* Посцілка. *Сёліта я выткала тры новыя пасьсілкі.* Стаі Кругл.

ПАСТА′ВЕНЬ *м.* Прыстасаванне для лоўлі рыбы. *Мы лавілі шчупакоў і акунёў у пуставень.* Еўдакімавічы Шкл.

ПАСТА′ННЕ *н.* Прыпол. *Насыпала поўнае пыстаньня яблык.* Каменка Крыч. *Прінясі з гарода ў пустаньні гуркоў.* Бярозкі Хоц. *Сып арэхі і мне ў пустаньня.* Каўшова Мсц.

ПАСТА′ЦЬ *ж.* Постаць, палоска збажыны, занятая адной жняёй у час жніва. *Скончу сваю пыстаць і пайду двору.* Вусце Чэрык.

ПАСТАЯ′ЛКА *ж.* Ахалоджанае салодкае малако. *Налі сабе карэц пыстыялкі ды паеш.* Чав. *Я раніцай зьеў толькі стакан пыстыялкі.* Касц. *Іван-балван пастаялку балтаў ды ня выбалтаў. Карова чорная, а пастаялка белая.* Паршына Гор.

ПА′СУШ *ж.*, ПА′СУШНІК *м.* Засохлая на корані трава (звыч. пасля зімы). *Набрала пасушы для патсьцілкі карові.* Кульшычы Слаўг. *Вясной каровы добра ядуць пасушнік.* Ветрынка Быx.

ПАТРУ′ХА *ж.* Труха ад сена і канюшыны. *Вазьмі патрухі і патсьцялі ў хлеве.* Галоўчын Бял.

ПАТРЭП′Е *н.* Адыходы пры трапанні льну. *Спраду патрэп'е і шшыю мяшок які.* Сялец Быx.

ПАЎПРУ′ГА *ж.* Пояс, папруга. *Паўпруга пераціснула жывот, дужа наеўся многа.* Ветрынка Быx.

ПАЎПРЫ′ЦА *аг. перан.* Упарты чалавек. *Во паўпріца нейкыя, ўсё штоп пы яе было.* Елавец Хоц.

ПАХА′ЦЬ *незак.* Баранаваць. *Добра аруць і пашуць цяперацька трактары.* Свяцілавічы Бял.

ПАХЛАПНІ′ *мн.* Лапці, сплеценыя з вяровак. *У гэтых пахлапнях харашо будзіць у лясу.* Рэкта Гор. *Раньшы з лык плялі лапці, пыхлапні кряпчэй, ну нікрасіва. Бацька ругаў зы лапці, што ны кыўзялі разьбіла. Прасіла, штоп сплёў мне пыхлапні.* Бярозкі Хоц.

ПАЦМЕ′НКІ *мн.* Басаножкі. *Якія ў цябе прыгожыя пацьменкі. Дзе й ты іх купіла, скажы мне.* Дзікае Глуск.

ПАЦЫРКА'ЦЬ *зак.* Падаіць. *Пайду пацыркаю карову.* Кашалёўка Касц.

ПАЧАРЭПАЦЬ *зак.* Пачэрпаць. *Ну, хоць яшчэ лошкі дзьве пычарэпый цёплыга варіва, ты ш саўсім мала еў яго сяньні.* Рымінка Чав.

ПА'ЧАСКІ *мн.* Пачоскі. *У нас пачаскі тады, калі лён чэшуць на шчоццы.* Сялец Бых.

ПАЧОПКА *ж.* Невялічкая вяровачка, якая прывязваецца замест дужкі вядра. *Пачопка пырвалыся, і вядро шчабоўхнула ў калодзіш.* Заполле Шкл.

ПАЧОПКІ *мн.* Вяроўкі ў калысцы. *Прівяжы кряпчэй пачопкі, а то нябыта атарвецца люлька.* Бярозкі Хоц.

ПАЧЫ'НА *ж.* Вясло. *Пачына ляжала ў лоццы, а мы яе іскалі.* Горкі Чэрык.

ПЕ'ВЕНЬ *м. перан. іран.* Надзьмуты, пыхлівы чалавек. *Носіцца етый певінь па дзярэўні, а чаго — ні слова нікому.* Заходы Шкл.

ПЕ'КЧЫ *незак.* Пячы. *Напекла бліноў цэлы стол і яшчэ нада пекчы.* Мокрае Бых.

ПЕ'ЛІНА, ПЕЛЯНА' *ж.* Прыпол. *Прынісла поўную пеліну яблык.* Сідаравічы Маг. *Сып гарох у пеліну.* Рымінка Чав. *У пеляну нарвалі травы кролікам.* Нядашава Маг.

ПЕ'ЛЬКА *ж.* Ключыца. *Дачка чаго йта такая худая, што аш пелькі тырчаць.* Сідаравічы Маг.

ПЕ'ЛЬКІ *мн.* Грудзі. *Закрывай сваe пелькі, бясстыдніца!* Рэкта Гор.

ПЕНЬ *м. перан. зневаж.* Тупы, някемлівы чалавек. *Пень етый ніяк ні навучыцца.* Радзівонаўка Гор.

ПЕРАБІ'РА *аг.* Жывёла, якая дрэнна есць корм, перабірае яго. *Карова мыя пірабіра, ні ўсякыя сена есьць.* Каўшова Мсц.

ПЕРАБІРА'НКА *ж.* Саматканая посцілка з рознымі ўзорамі. *Тыя разы засьцілалі перабіранку толькі ў сьвяты.* Дзікае Глуск.

ПЕ'РАВЕЗЕНЬ *м.* Перавясла. *На перівізьні высачэйшыга жні, дык тады лаўчэй візаць снапы.* Бярозкі Хоц.

ПЕРАВОД *м. зб.* Бярвенне, якое кладзецца ў апошнім вянку зруба (над бэлькамі). *Перавот ставіцца для патшыўкі, каб было красівей.* Чачэвічы Бых.

ПЕРАДЗЕ'ЛЫВАЦЬ *незак.* Пераворваць (бульбя-

нішча). *Трэба яшчэ перадзелываць бульбу.* Каменка Крыч.

ПЕРАДЗЕ′ЦЦА *зак.* Пераадзецца. *Нада шчас жа пірядзецца, а то прастынем.* Вусце Чэрык.

ПЕРАДОЎКА *ж.* Частка вужышча, якая служыць для замацавання рубля ў возе. *Пірадоўку выцігні там.* Заполле Шкл.

ПЕРАКАВЫ′Й *прым.* Папярочны. *Вядзі каня па перакавых лехах, а то патрэш усё.* Галоўчын Бял.

ПЕРАПЕ′ЧКА *ж.* 1. Хлеб з пшанічнай мукі. *Сяньні я пірапечак напікла, госьці мо прыедуць заўтра к нам.* Заброддзе Бых. 2. Праснак, які пячэцца з хлебнага цеста. *Мама, сьпячы пірапечку.* Рэкта Гор. *Сёньні я пікла пірапечкі.* Паршына Гор.

ПЕРАПІВОНІЦЬ *зак.* Пабіць. *Уцякай скарэй, а то як дагоніць, дык добра перапівоніць за яблыкі.* Сялец Гор.

ПЕРАРЭЗ *м.* Паўбочачка. *А я сёльта толькі адзін пірярес усяго ымачыла гуркоў.* Рымінка Чав.

ПЕРАСА′ДНІК *м.* Палісаднік. *Нада колічкаў прігатовіць для пірісадніка.* Рудня Слаўг.

ПЕРАХЛЯ′БІСТЫЙ *прым.* Худы, з вельмі ўпалымі бакамі (пра жывёл). *Етый конь нейкій ужо дужа пірыхлябістый, нада яго здаць.* Заполле Шкл.

ПЕРАШЫ′ЎКА *ж.* Перагародка ў хаце. *Нідаўна ў хаці зьдзелылі піряшыўку, стала культурней.* Вепрын Чэрык.

ПЕРАЯ′ЛАВІЦЬ *зак.* Пабыць аблогай адзін пасяўны сезон (пра поле). *Не аралі, што ня родзіць, і пакінулі, каб пераялавіла.* Сялец Бых.

ПЕ′СТЫНЬ *ж.* Верхняя частка асады дзвярэй. *Пестынь чаго йта пірікасілыся.* Кульшычы Слаўг.

ПЕЧАНЬКОВЫЙ *прым.* Ліверны. *Начыніла пічаньковых каўбас і баюся, ці будуць мае есьці.* Цяцерын Кругл.

ПЕЧАЯ′ *ж.* Пякотка. *Увесь дзень мне пічыя пікла.* Сідаравічы Маг.

ПІ′КАР *м.* Від дзіцячай гульні (накшталт рускіх гарадкоў). *Пыгуляем у пікара заўтра, а сяньні пыгуляем у чыжыка.* Каўшова Мсц.

ПІ′ЛНА *прысл.* Абавязкова. *Сёньня пілна трэба ганяць бульбу.* Мацееўшчына Маг.

ПІРАЖКІ′ *мн. перан.* Спаржа. *У апцекі прінімаюць*

*пірашкі, дык нашы дзеці з раньня да вечыра сідзяць у жыці.* Заполле Шкл.

ПІСКЛЁНАК *м.* Кураня. *Табе ежы патрэбна, як таму піскленку.* Скураты Кругл. *Учора ў мяне прапаў адзін пісклёнак.* Ветрынка Быx. *Пісклёнык — ета маленькій цыплёнык.* Паршына Гор. *Піскляты хаваюцца — к сырому надворью.* Паршына Гор. *Сёліта піскляты мае ўсе прыпалі.* Каўшова Мсц.

ПІ'ШЧЫКІ *мн.* Кончыкі пальцаў. *Ня грабі сваімі пішчыкамі пяску.* Сухары Маг.

ПЛЕЦЬ *ж.* 1. Плётка, пляцёнка. 2. Лесвіца з вяроўкі. *А як жа! Ёсць і плець у міня.* Вусце Чэрык.

ПЛЕ'ШНІЦА *ж.* Вялікая суконная хустка (з махрамі і ў клетку). *Як апкрыісься плешніцуй, дык ні марос, ні вецір ні страшный.* Рымінка Чав.

ПЛІ'СІЦА *ж.* Птушка пліска. *Над ручаём, у корнях альхі, я знайшоў гняздо плісіцы, такоя акуратненькая.* Забычанне Касц.

ПЛОЦЬ *ж.* Плотка. *Плоці многа наскочыла на хлеп.* Зацяцерка Кругл.

ПЛЯНДЗІ'ВЫЙ *прым.* Надакучлівы. *Етый чалавек дужа пляньдзівый.* Сухары Маг.

ПЛЯТУ'Н *м. асудж.* Пляткар, хлус. *Мыкар такей ужо плятун, пляцець і пляцець абы-што.* Радзівонаўка Гор.

ПЛЯХОТКА *ж.* Пялёнка. *Збегай на речку, пляхоткі памый.* Бярозкі Хоц.

ПЛЯЦЁНКА *ж.* Вялікая бутэлька, аплеценая лазой. *Набраў поўную пляцёнку газы ў запас.* Касц.

ПЛЯЧНЫ'Й *прым.* Прызначаны для плячэй. *Платок плячный ляжыць тамацька ў шафі.* Вусце Чэрык.

ПОВЫСЦЬ *ж.* Воўна. *Я купіла сабе повысьці, спраду і сьвіцер зьвяжу.* Цяцерын Кругл.

ПОДАЛ *м.* Падол. *Падымі вышы подал, а то замочысься.* Рэкта Гор. *Хадзіла на луг за травой і вымачыла ўвесь подал.* Вепрын Чэрык. *Атрубіўся мой подыл, нада пыдрубіць, а то хаджу і трасу расьсям.* Цяцерын Кругл. *Подыл трэсак ныізбірай ны растопу.* Ляхаўшчына Чав. *Маліцца, маліцца, пакуль у подыл зваліцца.* Шаламы Слаўг.

ПОДМАЗ *м.* Подмазка (для падмазвання скаварады). *Подмыс кот сьцягнуў.* Ляхаўшчына Чав.

ПОДРУБ *м.* Ніжнія вянкі ў зрубе. *Тут нада новый подруб дывацъ вянцы на два.* Заполле Шкл.

ПОКАТ *м.* Франтон з бярвення. *Покыт разьбіваюць, а ты стаіш.* Заполле Шкл.

ПОЛІЖАНЬ *м.* Палеглая збажына. *У етым годзе вельмі многа поліжню, бо ўсё ўремя йшлі дажджы.* Журбінская Буда Касц.

ПОМАШЧ *ж.* Дапамога. *Ат цябе, дачушка, нам ніякай помышчы німа.* Кавалёўка Клім.

ПОРСКІЙ *прым.* Хуткі. *Які ты дужа порскій, мой сынок.* Заполле Шкл.

ПОСТАЎКА *ж.* Надточаная частка падола (з іншага матэрыялу). *Іс-пыт плацьця постыўка відна.* Тратны Вугал Клім.

ПОХАД *м.* Месца над асеццю. *Похад — дзе знаходзіцца печ, складзеная с камня, і яе топяць, кап высушыць збожжа.* Давыдавічы Бых.

ПОШАСЬ *ж.* Пошасць. *У нас цяпер ходзіць пошась нейкай страшнай грыпы.* Дзікае Глуск.

ПРАЖМО *н.* Падсмажанае на агні калоссе недаспелага жыта. *Люблю хадзіць у полі: мы там часта робім пряжьмо.* Журбінская Буда Касц.

ПРАЖОНКА *ж.* Смажанае сала. *Нада ш, пряжонка саўсім згарэла.* Бярозкі Хоц.

ПРАЗДРАЎЛЯ'ЦЬ *незак.* Віншаваць. *Прыздраў сястру с празьнікум, абізацільна прыздраў.* Кавалёўка Клім.

ПРАЗЕ'ЛЛЕ: НА ПРАЗЕ'ЛЛЕ. Толькі для лякарства. *Купі мёду на празельле.* Дзікае Глуск.

ПРАЛУПІ'ЦЦА *зак. пагардл.* Паглядзець уважліва. *Калі ня бачыш, дык пралупіся.* Паташы Гор.

ПРАМЫ' ЧАЛАВЕ'К *спалуч.* Чалавек, які гаворыць толькі праўду. *Наш брыгадзір — чалавек прамы і добры.* Сялец Бых.

ПРАРЭЗКА *ж.* Пятліца. *Кручок закінеш у пяцельку, а гузік у прярезку плотна.* Вусце Чэрык.

ПРАСЕ'СЦЬ, ПРАШЭСЦЬ *ж.* Саматканы кавалак палатна (прыкладна 30 см). *Мама, я ататку прасесьці зь дзьве і пайду на гарот.* Бабровічы Маг. *Яна ататкала прашэсць дый кінула.* Горкі Чэрык.

ПРА'СЛІЦА *ж.* Прасніца. *Раньша маладая дзеўка сядзела за прасьліцай і прала.* Паташы Гор. *Січас прасьліца на хаце: ні прадзём.* Еўдакімавічы Шкл.

ПРАСНУ'ШКА *ж.* Праснак. *Сёньня ў мяне ўдалісь пряснушкі.* Старынка Мсц.

ПРАСЦЕ'РА *ж.* Прасціна. *Памый сваю хаця прасьцеру, а ні мяне вучыць.* Дзікае Глуск.

ПРАСЦІ'ЦЬ *зак.* Даравaць. *Прасьці ты мне, сяструха, я ні хацела цябе абідзіць.* Кавалёўка Клім.

ПРА'ЧАК *м.* Пучок (ільну). *Трэба сяньні спрасьці хоць прачак лёну.* Лазовіца Клім.

ПРАЧЫХА'ЦЦА *незак.* Прачынацца. *Спрасоньня ні прачыхаіцца, а сьмяецца сама сабе.* Зацяцерка Кругл.

ПРОРУБКА *ж.* Палонка. *Мы ваду бралі ў прорупцы.* Еўдакімавічы Шкл.

ПРОСЕЎ *м.* Пропуск, зроблены пры сяўбе. *Што ты просевы робіш, ні бачыш ці што?* Заходы Шкл.

ПРОСЦІНЬ *ж.* Прасціна. *Я ўжо сёлета пяць просьціняў прыдбала.* Давыдавічы Бых.

ПРОЦВІНЬ *м.* Самаробная патэльня; бляха. *На процьвіні сушым яблыкі.* Галоўчын Бял.

ПРУД *м.* Млын. *Павізьлі ву прут, дай ні змалолі.* Загор'е Бых.

ПРУЖЫ'НКА *ж.* 1. Ручная прылада для рыхлення зямлі. *Калі няма пружынкі, дык можна кульцівірываць дранкачом.* Цяцерын Кругл. 2. Спружыноўка. *Тут нада пружынкай пыработыць, а трактар увязьнець.* Заполле Шкл.

ПРУ'ЦІКІ *мн.* Вязальныя пруткі. *Дай пруцікаў спотку зьдзелаць.* Бабровічы Маг. *Пруцікі стояць усяго два рублі.* Мацееўшчына Маг.

ПРЫВОЙ *м.* Месцазнаходжанне. *У піхтура прывой ны пяску.* Вепрын Чэрык.

ПРЫ'ВЯЗКА *ж.* Тонкая жэрдка, якой прымацоўваецца салома да лат пры крыцці саламянай страхі. *У нас асталіся толька прывяскі, а так ўсё пад дачу пайшло.* Цяцерын Кругл. *Паехаў хазяін у лес, кап прывесьці прывязак, а лясьнік назат яго вярнуў.* Сялец Бых.

ПРЫД *м.* Выраз у ніжняй частцы бочкі ці цэбра, у які ўстаўляюць дно. *Дзелаюць бочку, затым выразаюць дно і ўстаўляюць у прыт.* Вусце Чэрык.

ПРЫДА'НСТВА *н.* Пасаг. *Родный бацька даець дзяўчыні на другое жыцельства прíданства.* Вусце Чэрык.

ПРЫДЗЕ'ЛАК, ПРЫДЗЕ'Л, ПРЫРУ'Б *м.* Прыбудова да хаты. *Дзядзька прыстроіў прыдзелак.* Цяцерын

Кругл. *Летам дык я ў прідзелі сплю, у хаці жарка.* Бярозкі Хоц. *К хаці прырубілі прыруп.* Ветрынка Бых.

ПРЫКІ'ДКА *ж.* Частка ўзаранага поля ад мяжы. *Ён яшчэ ні зрабіў прыкіткі і начаў аддыхаць. Ці ш ета работнік?* Цяцерын Кругл.

ПРЫ'КЛАДЫ *мн.* Надмагільная пліта. *Нехта прыклады сьняў на дзедывай магілцы.* Заполле Шкл.

ПРЫКЛЕ'ТНІК *м.* Памост да клеці. *Васіль прыклетнік ладзіць, нада выбраць муку.* Цвёрдаў Бых.

ПРЫКОПАК *м.* Невялікая капа, складзеная асобна ці каля вялікай капы. *«Ты ўсё забраў на вос?»— «Не, астаўся яшчэ прікопык».* Журбінская Буда Касц.

ПРЫ'НІК *м.* Драўляны выступ каля печы замест ляжанкі. *Ты зьдзелаў прінік такій вускій, што ні легч, ні сесьць на яго.* Давыдавічы Бых.

ПРЫПА'ДКІ *мн.* Эпілепсія. *Што ці ня прыпаткі хвацілі, што ты так разыйшоўся?* Заполле Шкл.

ПРЫ'СКАКАМ *прысл.* Прыхваткам. *Прыскакам гарот палю.* Каўшова Мсц.

ПРЫСТРАЧНЫ'Я ПЕРАДЫ' *спалуч.* Новыя галоўкі, прышытыя да старых халяў. *У цябе чабаты сталі як новыя, хоць і с прістрачнымі пірідамі.* Бярозкі Хоц.

ПРЫСЦЯЖНЫ'Й *прым.* Прыпрэжаны (пра каня). *Прісьцяжнэй конь ні бягіць пы дарогі, а рьвецца ўбок.* Бярозкі Хоц.

ПРЫСТРОМ *м.* Прымак. *Прыстром прышоў касіць — вот дзіва.* Цяцерын Кругл.

ПРЫТУ'КАЦЬ *зак.* Прымусіць. *Ды яго ж колым ні прытукыіш што-небудзь зьдзелыць.* Вялікі Бор Касц.

ПРЫЦАНДА'ЛЛЕ *н.* Прылады. *Збірай сваё прыцындальля і ўматавай атсюля.* Шаламы Слаўг.

ПРЫЦЕ'НІНА *ж.* Кулеш. *Пріценіна с кілбасамі дужа ш смашныя.* Каменка Крыч.

ПРЫЧАПУРЫ'ЦЦА *зак.* Прывесці сябе ў парадак, падхарашыцца. *Ты п хоць прычыпурыўся трошку й ні хадзіў мазыный.* Мілаславічы Клім.

ПРЫЯ'ЦЬ *незак.* Спрыяць. *Усякыму дзелу нада пріяць.* Шаламы Слаўг.

ПРЭМІРОЎКА *ж.* Прэмія. *Зіна ны прымíроўку стыраецца, дык ёй нада сьпяшыць.* Заполле Шкл.

ПРЭРЫХ *м.* Прарэх, парванае месца ў вопратцы. *Вот лянцяйка і няраха! С прэрыхамі ходзіць па вёсцы.* Цяцерын Кругл.

ПСІХОВАНЫЙ *прым.* Псіхічны. *Во ўжо хто псіховыный, ні разу нічога ні спрасіць, ні скызаць.* Елавец Хоц.

ПУ'ГАЎКА *ж.* Гузік. *Зышпількні каўнер на пугаўку.* Цяцерын Кругл.

ПУЗА'Ч *м. груб.* Пузан. *Вунь які пузач пайшоў. Аткуля ён зьявіўся?* Нядашава Маг. *Ці ты зь етым пузачом справісься адзін?* Заполле Шкл.

ПУЗЫРОК *м.* Шкло ў лямпе. *Во гылывой чуць пузырёк ні пабіла.* Бярозкі Хоц.

ПУ'КАЦЬ *незак.* Падаць. *У саду штовечыря пукаюць яблыкі.* Сухары Маг.

ПУ'ПСІК *м. перан.* Што-н. маленькае, падобнае на шарык. *Сёліта гуркоў німа, адны пупсікі.* Каўшова Мсц.

ПУСТАДУ'МАК *м.* Чалавек, які робіць што-н. неабдуманае. *І нада ж было пустадумку ісьці туды і дайжа выступаць.* Каўшова Мсц.

ПУСТАТА', ПУСТЫ'НЯ, ПУ'СТАШ, ПУСТЭЛЬГА *ж.* Неўрадлівае поле. *Не ўрадзіла поле, значыць, пустата.* Заходы Шкл. *Ету пустыню нада больша ўгнойваць.* Галоўчын Бял. *У калхозі ў нас такіх пустэльгаў было многа, а як стаў саўгоз, дык ніводнай ня найдзіш.* Цяцерын Кругл. *На етый пустышы нікалі нічога ні было.* Ляхаўшчына Чав.

ПУ'СЯ *аг.* Дрэнны чалавек. *Етыму пусі ўсё ні так, вечна ён чым-та нідаволін.* Елавец Хоц.

ПУ'ЦІЦЬ *незак.* Прыводзіць у парадак. *Усё пуціла, пуціла і пайшла на вечарынку.* Заазер'е Бял.

ПШАНОВЫ *прым.* Прасяны. *Раней, бывала, любіла пшановую кашу, цяпера адвярнула нешта.* Заходы Шкл.

ПЫ'ЛЮШ *выкл.* Вокліч, якім адганяюць курэй. *Пылюш! Пайшлі, акыянныя!* Звянчатка Клім.

ПЫЛЯ'ТЫ *мн.* Кураняты. *Пыляты ў выгародзі, прісматрі за імі.* Каменка Крыч.

ПЭКАЦЬ *незак.* Дрэнна чытаць. *Ня ўмееш чытаць, толькі пэкаеш.* Сухары Маг.

ПЭРКЫЛЬ *м.* Паркаль. *Пэркыль па 80 капеік, бабы, ідзіця бярыця.* Ляхаўшчына Чав.

ПЯДЗЬ *ж.* 1. *уст.* Чатыры вяршкі (каля 18—20 см). 2. Пядзя, адлегласць паміж канцамі расстаўленых вя-

лікага і ўказальнага пальцаў рукі. *Мне многа ня трэба, толькі нескалькі пядзяў.* Вусце Чэрык.

ПЯКОЛАК *м.* 1. Выступ на печы. *Не сядзі на пяколку. Злась с пяколку, йдзі на работу!* Паршына Гор. *Як быў хлопіц малый, дык ды пяколку патсаджывылі, а цяпера ўжо сам ны пяколык лазіць.* Каўшова Мсц. *Пыдай мне сьпічкі, тамыцька ны пяколку ліжаць.* Хоц. *Глядзі, там мыла на пяколку ляжыць.* Цяцерын Кругл. *Дзеўкі, мыла сваё можаце лажыць на пяколак.* Галоўчын Бял. *Сьпічкі на пяколак трэба лажыць.* Сялец Бых. *Пыглядзі маіх сподык ны пяколку.* Рымінка Чав. 2. Прыпечак. *Раньша на пяколку сядзелі толька дзеці.* Паташы Гор. *Кыганок гаріць ны пяколку, яго болі нідзе ні ставюць таго, што ён дужа капціць.* Бярозкі Хоц. *Чулкі пыклалі ў пяколык?* Чав.

ПЯРВІНА′ *ж.* Аблога, цаліна. *На пярвіне нічога ўсходы былі, паглядзім, якій уражай будзець.* Цяцерын Кругл.

ПЯРСТЫ′ *мн.* Выступы ў бярвенні сцяны, якія ўваходзяць у паз вушака. *Адабраць пярсты нада, калі ставіш лутку.* Заходы Шкл.

ПЯРША′К *м.* Першы рой з вулля. *У міня ёсьць трі піршакі з етыга года.* Вусце Чэрык.

ПЯСКІ′Ж *м.* Рыба пячкур. *Сяньні і Васіль на вудачку нылавіў многа піскіжой.* Елавец Хоц.

ПЯТА′ *ж.* 1. Пята. 2. Ніжняя частка калоды, дзе жывуць пчолы. *На піце ўся калода стаіць.* Вусце Чэрык.

ПЯТЛЁВАНЫЙ *прым.* З пшанічнай мукі. *Хлеб у мяне сяньні пятлёваный, пікла с пятлёўкі.* Ляхаўшчына Чав.

ПЯТЛЁЎКА *ж.* Пытляваная мука. *Пятлёўку ў мыгазіні купілі.* Ляхаўшчына Чав.

ПЯТНІ′К *м.* Перакладзіна, верхні вушак. *Хлапец такій высокій, аж галавой за пятнік чапляець.* Заходы Шкл.

ПЯ′ТРЫ *мн.* Курасадня. *Куры ўжо на пятры селі, а ты яшчэ ні абедыў.* Сідаравічы Маг.

ПЯХТУ′Р *м.* Рыба пячкур. *Ны піхтура шчука бярэць, акуні такжа.* Вепрын Чэрык.

ПЯХЦЕ′Р *м.* 1. Сятчаты мяшок. *Мой хлопяц прінёс цэлы пяхцер аўсянай саломы.* Еськаўка Гор. *Іван, дай мне пяхцера, а то заўтры рана паеду ў горат.* Галоўчын Бял. *Мой пырасёнак раздуўся, стаў, як твой жоўты*

*пяхцер.* Тратны Вугал Клім. 2. *перан.* Непаваротлівы чалавек. *Ніпаваротлівый, як пяхцер. Эх ты, пяхцер, пяхцер!* Паршына Гор.

ПЯЧКУ'Р *м.* Пячнік. *У нас тут січас харошых пічкуроў ні найдзіш.* Заполле Шкл.

ПЯЧКУРЫ'ЦЦА *незак.* Жыраваць. *Гусі другім чым пічкуряцца, а тады травой.* Шаламы Слаўг.

ПЯЧОНКА *ж.* Пячэнне. *Трэба купіць дзецям пячонак.* Сідаравічы Маг.

ПЯЧОРЫ *мн.* Норы ў абрыве пад берагам. *У нас у пячорах хлопцы ракаў ловюць.* Заходы Шкл.

ПЯШЧОРА *ж.* Пячора. *У нашым лесі ёсць вялікая пяшчора.* Сялец Бых.

## Р

РАГІЗА' *ж. перан.* Керагаз. *Выключы ты ету рагізу, няхай ні дыміць.* Скураты Кругл.

РАДАБОДДЗЕ *н.*, РАДАБОЗІНА *ж.* Рэдка сатканая, грубая тканіна. *Выткыла нейкыга рыдабодзьдзя, хоць мяшкі будуць.* Кашалёўка Касц. *С такой радабозіны нічога ты ні сшыяш.* Чырвоная Слабада Бых.

РАДЗІ'МЕЦ *м.* Дзіцячая хвароба (ужываецца як лаянкавае слова). *Радзімец цябе вазьмі, калі ня слухаіш.* Лазовіца Клім.

РА'ДУХА *ж.* Вясёлка. *Радуха бярець ваду — на пагоду.* Палыкавічы Маг.

РАЗВАДУ'ХА *ж.* Жанчына, разведзеная з мужам. *Глянь-ка: ідзе развадуха — і такая вясёлая.* Цяцерын Кругл.

РАЗВЁРЗАЦЬ *зак.* Раскідаць, размазаць. *Разьвёрзылі ўсю бульбу ны масту, што прайсьці нільзя.* Заполле Шкл.

РАЗГОН *м.* Акучнік. *Сёліта чатыры разы абворваў сваю бульбу разгонам.* Еськаўка Гор.

РАЗЕ'Ц *м.* Прылада, якой капаюць торф. *Проста біда: свайго рiзца німа й ныдаела ў людзей прасіць.* Рудня Слаўг.

РАЗЖЭНЯ *м.* Мужчына, які развёўся з жонкай. *Ай! Сколька ў наша ўремя ражжэнь стала многа.* Высокае Клім. *Во ражжэня, жонку кінуў, а цяперя ны танцы бегыіць.* Елавец Хоц. *Ета ж нада, тыкая харошыя дзяўчына, а зы разжэню пышла.* Вялікі Бор Касц.

РАЗЛУСКА′ЦЬ *зак.* Раскусіць (арэх). *Рызлускай мне, дзетычка, арех, а то мае зубы слабыя.* Высокае Клім.

РАЗМАЗЕ′НЦЫЯ *ж.* Непарадак. *У етай хаці паўнейшыя размазенцыя.* Сялец Гор.

РАЗМУЗДЫ′КАВАЦЬ *незак. іран.* Размаўляць. *Пайдзём ужо, хваціць табе ўжо зь ім рызмуздыкывыць.* Елавец Хоц.

РАЗНАВОКІЙ *прым.* Такі, які мае рознакаляровыя вочы. *У нашай дзяреўні быў адзін разнавокій маліц.* Заходы Шкл.

РАЗНІ′ЦА *ж.* Сячкарня. *Дзе ета наша разьніца? Нада саломы насеч.* Журбінская Буда Касц.

РАЗРАЗНІ′ЦЬ *зак.* Аддзяліць, раздзяліць. *Пашлі вон: усе рызразьнілі мне ніткі.* Кашалёўка Касц.

РАЗУМЕ′Ц *м.* Хітрэц, разумнік. *Які ш ты разумец! Аддай табе, а што сабе?* Заполле Шкл.

РАЗУ′ХА *ж.* Асака. *Я там трохі рязухі накасіў, нада будзець паехаць кагда-нібудзь і зыбраць.* Вусце Чэрык.

РАЗЯ′ПА *аг.* Разява. *Дзе тваe вочы былі, разяпа, каршун ціплёнка сьпёр, а ты стаіш, разінуўшы рот!* Вялікі Бор Касц.

РА′КАЎКА *ж.* Ракаўстойлівая бульба. *У нас цяпера ў калхозі адну ракаўку сеюць.* Заполле Шкл.

РАЛЕ′ЙНЫЙ *прым.* Гужавы. *Ну, йдзі ж, Віктар, ралейныя хамуты бяры.* Заполле Шкл.

РАЛЛЁ *н.* Ралля. *Конь пайшоў сьпярша цераз ральлё, а потым стаў.* Заходы Шкл.

РАМАНЫ′ *мн.* Рамонкі. *Як дружна зацьвілі раманы.* Ветрынка Бых.

РАМОВІК *м.* Вулей. *У мяне шэсьць рамовікаў вужо есь.* Вусце Чэрык.

РАНДЭЛАК *м.* Каструля. *Цэлы рандэлак бульбы перакуліў, ах, нягоднік!* Скураты Кругл.

РА′НКІ: НА РА′НКІ. На ранні выпас. *На ранкі кароў пагналі, а ты толькі прыйшоў з гуляў.* Зацяцерка Кругл.

РАСАМА′КА *ж.* Непрычэсаная, неахайная жанчына. *Гэта расамака пойдзець таксама з намі ў клуб?* Горкі Маг.

РАСКАРЧОЎКА *ж.* Поле на месцы расчышчанага лесу. *Сёліта на раскарчоўцы быў харошый уражай.* Цяцерын Кругл.

РАСКА′ТЫ *мн.* Калёсы для перавозкі бярвенняў. *Мы па дровы езьдзім і на раскатах.* Заходы Шкл.

РАСКІ′ДВАЦЬ *незак.* Растрасаць, разбіваць (пра гной). *Пойдзім, дочка, раскідывыць гной ны гародзі.* Высокае Клім.

РАСКЛУМА′ЧЫЦЬ *зак.* Растлумачыць. *Расклумач ты мне, кумачка, як блігацыі праверыць.* Раманаў Красн.

РАСПАТВОРЫЦЬ *зак.* Раззлаваць, раз'юшыць; раздурыць, распесціць. *Распатворыў ты яго, што й ладу зь ім німашанька.* Чырвоная Слабада Бых.

РАСПА′ХВАЦЬ *незак.* Разворваць (бульбу). *Рыспашы-ка ты мне быразны трі бульбы, сваток.* Высокае Клім.

РАСПА′ШНІК *м.* Акучнік. *У нас нікаторыя рыспашнікам бульбу гыняюць.* Цяцерын Кругл.

РАСПЛУТА′ЦЦА *зак.* Разлегчыся, расцягнуцца (на печы). *Дужа ш ты нешта расплутаўся?* (пра ката). Цяцерын Кругл.

РАСПУЗЫРЫ′ЦЦА *зак.* Растаўсцець. *Во ета да! Як жа Лёнька Манькін распузырыўся.* Елавец Хоц.

РАСПУ′СТА *аг.* Распешчанае дзіця *Бацькі талковыя, а сын расьце распустаю.* Заходы Шкл.

РА′ССЕ *н.* Старое адзенне. *Пуўшчапіў ны сябе расься дый ходзіць, як жыбряк.* Тратны Вугал Клім. *Лена, вазьмі ўсё рясься ў кладоўкі і здай у зыгытавіцільный ларёк, хоць забылыць купіш.* Бярозкі Хоц.

РАССУСОЛЬВАЦЬ *незак.* Расказваць вельмі доўга аб нечым. *Як станіць рассусолівать, дак цэлы час.* Чырвоная Слабада Бых.

РАСТА′НЬКІ *мн.* Перакрыжаванне некалькіх вуліц, дарог. *Бабы сыбраліся на растаньках ды сьплетнічаюць.* Чырвоная Слабада Бых. *На рыстаньках сустрэнімся, пат тым жа клёнікам.* Вялікі Бор Касц.

РАСТАРОП *м.* Разводдзе. *Растароп вясной бываіць бальшой-бальшой.* Вусце Чэрык.

РАШОТКА *ж.* Грыб рашэтнік. *Рашоткі — нейкія грыбы, а якія ні знаю, яны як казлы ці што?* Цяцерын Кругл.

РАШПОР *м.* Падоўжаная бэлька, якая падтрымлівае папярэчныя. *Рашпоры робіць цяпер ужо мала хто.* Сялец Бых.

РАШЧЫ'НА *ж.* Рошчына. *Рашчыну я пакідаю ў дзешцы, каб луччы кіс хлеп.* Цяцерын Кругл.

РАЯЎНЯ' *ж.* Раёўня. *Ціперя раёвінь мала хто й дзелыіць.* Вусце Чэрык.

РВАННЁ *н.* Парванае адзенне. *Пывыкідай ты ета рваньнё, яно аджыло свой век.* Ляхаўшчына Чав.

РОІЛА *н.* Беспарадак. *Нешта ў цябе ў хаці сяньня ўсё роілым, йдзе што пупала выляіцца.* Рымінка Чав.

РОСЬ *ж.* Дробны дождждык. *Нейкая рось сяньні йдзець увесь дзень.* Заходы Шкл.

РОХЛЯ *аг. груб.* Неахайны чалавек. *У етай рохлі і ў дварэ гразна.* Заходы Шкл.

РОШВА *ж.* Прошва. *У етай скацерці вуская рошва.* Заходы Шкл.

РУБЯ'К *м.* Старая вопратка. *Пашыў сірак, а знасіўся — стаў рубяк.* Паршына Гор.

РУДА' *ж.* Гразь. *Ці слепа вада, што сцякае руда?* Лазовіца Клім.

РУКА'ЦЦА *незак.* Вітацца поціскам рукі. *Рукайся са ўсімі! Чаго стаіш, бытта стоўп.* Рэкта Гор.

РУЛІ' *мн.* Страва, прыгатаваная з накрышанага хлеба ў падсоленую (з алеем і цыбуляй) ваду. *Рулёў надзелалі і наеліся да горла.* Цяцерын Кругл.

РУ'НУЦЦА *зак.* Упасці (ад знямогі). *Мама, дай хоць рулікаў, а то рунуся.* Дзікае Глуск.

РУТАЎЁ *н.* Дзяржанне ў рыдлёўцы. *У маёй рыдлёўкі рутаўё зламалася, дык я ломік усадзіў.* Паташы Гор.

РУЧА'ЙКА *ж.* Жменя льну. *У нас вясной лічаць сорак ручаік.* Еўдакімавічы Шкл.

РУ'Я *аг.* Няўклюда. *Ты толькі пыглядзі, якой ты руій ходзіш.* Вялікі Бор Касц.

РЫ'ЗА *ж. перан.* Старая, падраная вопратка. *Нейкая рыза на плячах, а яшчэ багацьцем хваліцца.* Чапляёўка Гор.

РЫ'ЎНА *прысл.* Шчыра. *Што ты так ріўна ўзяўся за работу?* Раманаў Красн.

РЫШТАНЮ'ГА *аг.* Грубіян, неслух, задзіра. *Рыштанюга нейкыя расьцець, а ні дзеўка.* Радзівонаўка Гор.

РЭЗНІК *м.* Коржык з прэснага цеста, парэзанага на кавалачкі. *Еш резьнікі з мылаком.* Чырвоная Паляна Чав.

РЭЗЧЫК *м.* Сталярская прылада выразаць што-н. круглае, фігурнае і г. д. *Трэ ў суседа рэшчык забраць,*

*буду дзелаць бочку.* Ворліна Кліч. *Рэшчыкам выразаюць дно.* Кляшчоўка Глуск.

РЭЗЬ *ж.* Сечка. *Ці нарезуў ты резі карові?* Рымінка Чав.

## С

САВОК *м.* Прылада для збірання смецця. *Вазьмі савок за печкыю і сьмяцьцё ўзгарні.* Немерка Гор.

САДЖА'ЛЬНІЦА *ж.* Жанчына, якая садзіць бульбу. *Вышла на поле сорак саджальніц, раз-два й пасадзілі.* Галоўчын Бял.

САДЗІ'ЛКА *ж.* Цадзілка. *Дзе б ета марлі купіць ны садзілку, а то старыя саўсім пыжаўцела.* Высокае Клім.

САДКУ'ЛЬ *прысл.* Адкуль. *А вы саткуль будзяце?* Кароўчына Гор.

САЖЭНЬ *м.* 1. Сажань. 2. Двухметровая драўляная мерка ў форме разнятага цыркуля для абмервання зямельных участкаў. *У нас сажэнюм поля меряюць.* Вусце Чэрык.

САКА' *ж.* Асака. *Пайду сакі накашу трохі на пасьцілку.* Раманаў Красн.

САКАТА'ЦЬ *незак. перан.* Смяяцца. *Во сакоча дзеўчына, дык сакоча.* Смолкі Касц.

САМАПІ'СКА *ж.* Аўтаручка. *Ні дувай яму пісаць сымапіскай, ён і так плоха пішыць.* Рымінка Чав.

САМАПРА'ЛКА, САНАПРА'ДКА *ж.* Калаўротак. *Дзе ета наша самапрялка закінулысь?* Еўдакімавічы Шкл. *Мы яшчэ цяперацькі на санапряццы ніткі прадом.* Сялец Бых. *Сёліта лён харошы, а мыя сыныпрятка нійспраўная.* Тратны Вугал Клім.

СА'МА РАЗ *прысл.* Якраз, як след. *Шапка мне сама рас падыходзіць.* Паташы Гор.

САМАРОБКА *ж.* Папяроса, зробленая ўручную. *У нас адзін стары робіць такія ўдалыя самаропкі, як хвабрычныя.* Сіманавічы Глуск.

САМАТКА'НКА *ж.* Спадніца, пашытая з саматканага палатна. *Свайго зьдзелія спадніца была — сымытканка, із льну.* Батунь Маг.

САМДЗЕ'ЛІ *прысл.* Сапраўды, на самай справе. *Ніна, няўжо самдзелі ты кінула ў школу хадзіць?* Давыдавічы Бых.

САПСЕ'ЦЬ *зак. груб.* Састарэць. *Наш сабака саўсім*

*сапсей: толькі ляжыць і нават мух абагнаць лянуецца.* Бярозаўка Глуск.

САПУНІ'ЦЦА *зак.* Зажурыцца. *Як памянулі пра бацьку, дык яна сапунілася і ціханька сядзела.* Заазер'е Бял.

САРАКВА'ША *ж.* Кіслае малако. *Дзеці вельмі любяць саракваиу.* Мацееўшчына Маг.

САРАМОЦЦЕ *н.* Сорам, ганьба. *Паехаў зь ім, толькі сарамоцьця ныбраўся.* Малы Асавец Маг.

САСКЛЯПА'ЦЬ *зак. іран.* Зрабіць, збудаваць. *У етым годзі нібальшэнькі хлявушок саскляпаю.* Боркі Кір.

САСМЯРДЗЕ'ЦЦА *зак.* Пратухнуць. *Галовы з рыбы — яны ш сасьмірдзяцца, калі не пасаліць іх.* Зацяцерка Кругл.

САСОЛКА *ж.* Лядзяш. *Наш дзіцёнак насасаўся сасолык і доўга прабалеў.* Вепрын Чэрык. *Кінь ты гэту сусолку: кашляць будзіш.* Заполле Шкл.

САЎЛЫ'ГА *аг.* Грубы чалавек. *Во які ш ты саўлыга?* Зацяцерка Кругл.

САЎСІ'М *прысл.* Зусім. *Саўсім адбіўся ад рук малы.* Саматэвічы Касц. *Я саўсім забылыся, што ў мяне сяньні хлеб у печы йшчэ сядзіць.* Рымінка Чав.

САХА'Р *м.* Сахор. *У цябе есь сыхар? Мне треба сена ўлыдкываць.* Бахань Слаўг.

САЦЦЮ'ДА *прысл.* Адсюль. *Сыдзі сацьцюда, я ні магу ны цябе посьлі етай заварюшкі дайжа глядзець.* Елавец Хоц.

САЧАВІ'ЦА *ж.* Чачавіца. *У нашай брыгадзі гектары з два сачывіцы пасеялі.* Вепрын Чэрык.

САША' *ж.* Шаша. *Чаго йта наш сусет раніцою бягом пабех на сашу.* Машанакі Маг.

САЯ'Н *м.* 1. Шырокая спадніца ў зборку, зробленая з фабрычнай тканіны і вышытая ўнізе. *Етый мой сыян зыхывайся йшчэ з дзявочых гадоў.* Чырвоная Паляна Чав. 2. Спадніца, зробленая з зялёнай або сіняй суконнай пражы. *Ніна, надзівай сягоння на йгрышча зялёны саян.* Давыдавічы Быx.

СВАЯ'КІННЯ *ж.* Сястра жонкі. *Ідзець сваякіньня ля магільніка і дужа баіцца.* Бярозкі Хоц.

СВЕ'ТАЧ *м.* Замацавальнік лучыны. *Крычыць мне: «Ні дзяржы ў руках лучыну, на ета ш светыч ёсь!»* Рымінка Чав.

СВІНА'РНІЦА *ж.* Свінарка. *Мая сваха ўжо даўно працуе ў калгасе сьвінарніцай.* Зеляньковa Кругл.

СВІ'НКІ *мн.* Ядомыя грыбы, свінухі. *Сьвінкі чыстыя, ні чарвівыя, прама самі просяцца ў рот.* Боркі Кір.

СВІННУ'Х *м.* Рыжая трава (звычайна на ўзгорках). *Касіў сьвіннух, дык дужа замарыўся.* Тратны Вугал Клім.

СВІНУШОК *м.* Маленькі хлеўчык для свіней. *Трэба сьвінушок вычысьціць, бо гною ўжо многа набралася.* Ветрынка Бых.

СВІНЮ'ШНІК *м.* Свінарнік. *Ксеньня ўжо шмат год работыіць ны сьвінюшніку.* Елавец Хоц.

СВЯЖЫНА' *ж.* Свежаніна. *Сяньні сьвяжыны пад'ядзім.* Чырвоная Слабада Бых.

СЕАДНО *прысл.* Усё роўна; усё адно. *Сіадно ты ў хаці зыстанесься, ні думай, што плач паможаць.* Сухары Маг. *Сіадно будзіш пірядзелываць.* Вялікі Бор Касц.

СЕ'ВЕРКА *ж.* Халодны вецер, сівер. *Ня йдзі з мокрымі рукамі на двор, а то севірка апхваціць.* Заходы Шкл. *Ох, і северка дзьмець, аж да касьцей праймаець.* Бярозкі Хоц.

СЕ'ДЗЕНЬ *м.* Дзіця, якое доўга не можа хадзіць. *У нашай Лісаветы Міка даўно ня ходзіць, седзінь нейкій.* Зацяцерка Кругл.

СЕ'МЕЧКІ *мн.* Зярняты (семя) сланечніка. *Сёлета ўражайны год на семячкі.* Цяцерын Кругл. *У галовах многа семячак.* Букіна Кір. *А якія ж у цябе крупныя семячкі! Дзе ж ты такія браў?* Вепрын Чэрык. *Колькі ў цябе семячак многа наспела!* Вусце Чэрык.

СЕ'МІНКА, СЯМЯ'НКА *ж.* Бульба для пасеву, насенка. *Ета яны семінку выбіраюць, а буйную будуць прадаваць.* Заполле Шкл. *Сімянку падрыхтавалі для пасеву?* Вусце Чэрык.

СЕМНА'ЦЦАТКА *ж.* 1. Семнаццацігадовая дзяўчына. 2. *перан.* Спрытная жанчына. *Етая сямнаццатка ўсюды пасьпея, хоць і гадоў ужо многа.* Кляшчоўка Глуск.

СЕМЯНО *н. зб.* Зерне, пакінутае на насенне. *Семяно трэба берагчы.* Сялец Бых.

СЕРАЎНО *прысл.* Усё роўна. *Можыш дайжа і ні ўпрашываць мяне, сіраўно я нікуды ні пайду.* Вепрын Чэрык. *Сіраўно, як ты ні старайся, а мяне ні дагоніш.* Боркі Кір.

СЕ'РКА *ж.* 1. Сера. 2. Частка запалкі з серай. *Серкі мокрыя нейкія ў гэтых сьпічках.* Заполле Шкл.

СЕ'ЎКІ *мн.* Высеўкі. *Сеўкі мы сьвіньням даём.* Вусце Чэрык.

СЕ'ЎБІТ, СЯЎБІ'Т *м.* Сейбіт. *З твайго мальца ўжо харошый сеўбіт будзець.* Ляхаўшчына Чав. *У плахога сяўбіта бываіць многа ўзрэхаў.* Цяцерын Кругл.

СЁЛЕТАК *м.* Аднагадовае жарабя. *Добры конь з етага сёлітка палучыцца.* Ямнае Быx.

СЁРБАЛА *аг. іран.* Чалавек, які гучна есць, сёрбае. *Сёрбалы, што вы сёрбаяця на ўсю хату?* Чырвоная Слабада Быx.

СІВУ'ЛЯ *ж. іран.* Дарослая дзяўчына, якая паводзіць сябе, як малое дзіця. *Тыкая сівуля, а ў цацкі гуляіць.* Чырвоная Слабада Быx.

СІЛІПА'ЦЬ *незак. іран.* Прагна есці. *Выгаладаўся, дык сіліпаеш на ўвесь рот.* Цяхцін Бял.

СІЛЛЁ *н.* Сіло. *Я дык у саду ля кожнай яблынькі сільлё пыставіў.* Заполле Шкл.

СІЛЯ'ЦЬ *незак.* Чэрпаць. *Сіляла ваду й зывалілась у крыніцу.* Саматэвічы Касц.

СІНІ'ЦА *ж.* Лучына з пасінелай драўніны. *Забяры сваю сініцу — ні гарыць яна.* Дзікае Глуск.

СІНЮ'ГА *ж.* Сыраежка з сіняватым адценнем. *Пасля даждджу пачалі расьці сінюгі ўсюды.* Ветрынка Быx.

СІНЯ'ЎКІ *мн.* Ядомыя грыбы. *Ганна ў лесе бачыла сіняўкі, нада схадзіць пызьбіраць.* Заходы Шкл.

СІРА'К *м.* Світка з саматканага сукна. *Пашыў сірак, а знасіўся — стаў рубяк.* Паршына Гор. *Ныпрянь сіряк сяньні, а то кыла кароў зьмёрзьніш за дзень.* Рымінка Чав.

СІРУНОК, СЯРОН *м.* Шарпак, шарон. *Ты сірунком і атскачы к ёй.* Ляхаўшчына Чав. *Сяньні можна хадзіць па сярёну напрамік.* Вусце Чэрык. *Па сярону дайшоў да самыга лесу.* Кашалёўка Касц. *Усю дарогу йшлі па сіруну.* Заходы Шкл.

СІ'ТНІК *м.* Сітніца. *Дзе ты брала сітнік?* Грыбная Слабада Кір.

СІЧА'С, СЧАС *прысл.* Зараз. *Ну ідзі, я січас пріду.* Бярозкі Хоц. *Не крічыця! Січас іду!* Вусце Чэрык. *Шчас вучыцяль к нам прыдзець.* Магілёў.

СКА'БКА *ж.* Стрэмка. *Хутчэй выцігні скапку з рукі — баліць вочань!* Рэкта Гор.

СКАБЛЁНКІ *мн.* Бульбяныя лупіны. *Калі бульба каросьлівая, дык дужа многа бываіць скаблёнак.* Цяцерын Кругл.

СКАБЛІ'ЦЬ *незак.* Чысціць (бульбу). *Скаблі бульбу на вячэру, а я зарас прыйду.* Заходы Шкл.

СКАВАРОДНІК, СКВАРОДНІК, СКАВАРОДЗІН м., СКАВАРОДНІЦА *ж.* Тоўсты блін з хлебнага цеста. *Мар'я, сьпячы там скавароднік, а то хлеба мала будзя.* Давыдавічы Бых. *Дай мне сквародніка.* Мокрае Бых. *Мама, сяньні скывароднікаў сьпячы.* Заполле Шкл. *Скавародзін вужо спечын даўно, выняй іго сь печы.* Загор'е Бых. *Сягоньня добрая скавародніца вышла.* Цяцерын Кругл.

СКА'ГА *ж.* Бульбакапалка. *Амаль усю бульбу скагамі пакапалі.* Вепрын Чэрык. *Во яшчэ адна скага прыйшла.* Вусце Чэрык.

СКАЛАЦЯ'НКА, СКАЛОЦІНА, СКАЛОЦЬВІНА *ж.* Маслёнка. *Я люблю есьць скалацянку.* Чырвоная Паляна Чав. *Скалоціну паядзім з бульбай, і добра.* Галоўчын Бял. *Скалоцьвіну мы сьвіньням даём.* Бярозкі Хоц.

СКА'ЛКА *ж.* Кропля тлушчу ў вадкай страве. *Бес скалак смаку ня пытай.* Ветрынка Бых.

СКАПА'Ч, СКАПЫ'Ш *м.* Крук для скідвання гною з воза. *Калі скапача няма, дык вілкамі гной скідаем.* Цяцерын Кругл. *Скапач нада купіць.* Сялец Бых. *Гразда дрэнныі скапачы ты зрабіў.* Чырвоная Слабада Бых. *Ай, скапыш зламаўся!* Заходы Шкл.

СКА'ПЕЦ *м.* Бурт. *Бульбу закапалі ў скапец.* Галынец Маг.

СКАПУ'РЫЦЦА *зак.* Занядужаць. *Нешта я скапурыўся, ні магу выйсьці дайжа на вуліцу.* Заполле Шкл.

СКАРАВАДА' *ж.* Скаварада. *Ета ш трэба так загаварыцца, што чуць скаравада ні згарэла.* Хвойніца Кір.

СКАРАДЗІ'ЦЬ *незак.* Баранаваць. Мікіта паехаў *бульбу скарадзіць.* Заходы Шкл.

СКАРАДЗЬБА' *ж.* Баранаванне. *Біс скарадзьбы нам ні абайцісь.* Ляхаўшчына Чав.

СКАРАДЗЬБІ'Т *м.* Чалавек, які барануе. *Зьвярнуўся мой скарадзьбіт позна ўвечары.* Сялец Бых.

СКАРАСПЕ'ЛКА *ж.* Гатунак ранняй бульбы. *Я дык сёліта насеіла скурасьпелкі.* Заполле Шкл.

СКАРОМІНА *ж.* Скаромніна. *Вядзецца яшчэ ў хаце скароміна, лучча ні нада.* Абідавічы Бых.

СКА'ЦЕРКА, СКА'ЦЕРЦЬ, СКА'ЦЕРСЦЬ *ж.* Абрус. *У мяне многа скацерак.* Дзедава Бых. *Скацірկі жалка, вымажыцца.* Заполле Шкл. *Глядзі, якія яна скаціркі красівыя разьвесіла сушыць.* Ігліца Бял. *Скацірьць добра вышытыя на стале.* Губіншчына Чэрык. *Скацірьсьць можна самой выткаць красівую.* Вусце Чэрык.

СКАЧОК *м.* Насякомае конік. *На нашым лугу ні бачыў ні аднаго скачка.* Зацяцерка Кругл.

СКВАЗНЯ'К, СКЛАЗНЯ'К *м.* Скразняк. *Ні сядзі на скваэьняку.* Цяцерын Кругл. *У домі вокны павыбітыя, склазьняк, а я там бяліла — вот і забалела.* Вепрын Чэрык.

СКВА'ПІН *прым.* Сквапны. *Ты думаеш, я так сквапін ны гульню, як ты.* Рымінка Чав.

СКІПА'ЦЬ *незак.* Шчапаць. *Ідзі скіпай паттопу, а ня бі лынды.* Заполле Шкл.

СКІ'РТА *ж.* Сціртa. *За дзень намалацілі вялікую скірту саломы.* Ігліца Бял.

СКЛЯЗНЁНАК *м. іран.* Нованароджанае недаразвітае дзіця. *Нарадзіла нейкага склязьнёнка.* Паташы Гор.

СКНА'РЫЦА *ж.* Скнарлівая жанчына. *Хіба дасьць што тая скнарыца?* Сілічы Касц.

СКНЫ'ГА *аг.* Малое хваравітае дзіця. *Надаела мне з етай скныгай у бальніцу вазіцца.* Старая Добасна Кір.

СКОБЛЯ *аг. перан.* Неспакойны, непаседлівы чалавек. *А етыя скобля дак нійдзе сабе места ні найдзіць.* Радзівонаўка Гор.

СКОРАНЕЧКА *прысл.* Хуценька. *Скорынічка, сынок, зьбегай дамоў і скажы маці, хай у магазін сходзіць.* Цяхцін Бял.

СКРОНЬ *ж.* Калена. *Пасадзі дзіця на скроні.* Каменка Крыч.

СКРЫЛІ', СКРЫЛЬКІ' *мн.* Смажаная бульба. *Скрылі былі дужа смачныя.* Галынец Маг. *Сяньні к абеду адных скрылькоў цугунок пыставіла — і ўсё.* Рымінка Чав.

СКРЫЛЬ *м. перан. іран.* Сквапны чалавек. *У яго зімой сьнегу ня возьмеш, ета ж ныстыяшчый скрыль.* Капані Чав.

СКРЫ'НКА *ж.* 1. Скрынка. 2. Зруб калодзежа. *Новую скрынку зрабілі, дык і выда чыстыя.* Стары Дзедзін Клім.

СКРЫСЕ'ННЯ *н.* Нядзеля. *Скарэй бы скрысеньня, ныдаела работаць пыд дажджом.* Устаннае Слаўг.

СКРЭБЦІ *незак.* Часаць (лён). *Пасля тропкі лён скрабуць на грабёнцы.* Сялец Быx.

СЛАБУ'Н *м.* Слабы чалавек. *Гэткі ты слабун, а яшчэ мераесься сілай!* Кароўчына Гор.

СЛЕ'ПКА *ж.* Невялікая газоўка. *Запалі сьлепку, сьвету сяньні ня будзець.* Галынец Маг.

СЛЁЗКА *ж.* Хатняя кветка. *Мая слёска такая прыгожая.* Абідавічы Быx.

СЛОН *м.* Услон. *Ён сядзеў на слоне й расказваў пра сваё жыцьцё.* Заазер'е Бял.

СЛОНЕЦ *м.* Доўгая невялікая лаўка. *Ты сядай на слонцы.* Мацееўшчына Маг. *Садзіся хоць на слоніц.* Жаліжжа Красн. *Васёк, зьляціш с слонца.* Каменка Крыч.

СЛЮ'НЯ *ж.* Сліна. *Нешта ў мяне сяньні сьлюня цячэць і цячэць.* Цяхцін Бял.

СЛЯНЕ'Ц *м.* Невялікая рыбка. *Іншы раз у нашай рэццы трапляецца сьлянец.* Зацяцерка Кругл.

СМАЖОНІКІ *мн.* Смажаная бульба. *Я вельмі люблю смажонікі.* Сілічы Касц.

СМАЛЮ'ГА *ж.* Пацук. *Тут завялася ні адна смалюга.* Скураты Кругл.

СМАЛЯ'К *м.* Кавалак смалістага дрэва. *Пыкладу смыляк пад дровы, дык ураз зыгарыцца.* Заполле Шкл.

СМЕ'ТНІШЧА *н.* Сметнік. *Можа, етый твой нож на сьметнішча выкінулі — тут німа.* Заполле Шкл.

СМЕХАТУ'Н *м.* Чалавек, які можа насмяшыць. *З етым сьміхатуном весіла ўсягды.* Заходы Шкл.

СМОЛКА *ж. перан.* Малако, якое дае карова перад цяленнем. *С смолкі можна й малодзіва зварыць.* Кляшчоўка Глуск.

СМОРАД *м.* Смурод. *Надзелыла ты цэлую хату сморыду, наверна, рана юшку зачыніла ў печы.* Лудчыцы Быx.

СМЫ'КАЦЬ *незак.* Прасці. *Будзем кудзельку смыкаць.* Зацяцерка Кругл.

СМЯЛЯ'К *м.* Смелы чалавек. *Сьмяляк ты на словах, а ні на самым дзелі.* Сялец Быx.

СМЯТА'ННІК *м. перан.* Чалавек са слабым здароўем. *Што зь ім бароцца, са сьмятаньнікам етым.* Сілічы Касц.

СМЯЦЦЁ *н.* Смецце. *Сьмяцьцё сабяры ў фартух.* Цяцерын Кругл.

СНА'ДНІ *прысл.* Добра. *Снадні табе, як у цябе ёсць матка.* Давыдавічы Бых.

СОЎКАЦЦА *незак.* Ісці па глыбокаму снегу правальваючыся. *Чаго ты так соўкыйісься, ступай астарожняй.* Заполле Шкл.

СОЎКАЯ ДАРОГА *спалуч.* Дарога, занесеная снегам. *Цяшка езьдзіць па соўкай дарозе.* Заходы Шкл.

СПАННІ'ЦА *ж.* Спадніца. *Надзень сваю новую спаньніцу — у госьці ш ідзём.* Дзедава Бых.

СПА'РЫШКА *ж.* Двайны колас, спарыш. *Раней як найдуць спарышку, то зразу нясуць карові ці айцэ.* Заполле Шкл.

СПЛЯСНУ'ЦЦА *зак.* Распачаць бойку. *Сплясьнуліcь хлопцы — ледзь разнялі іх.* Заполле Шкл.

СПОДАК *м. перан.* Юшка (у печы). *Штосьці ўгарна, наверна, закрылі сподак.* Капані Чав.

СПОДКА *ж.* Вязаная рукавіца. *Звяжы Мішу спокі.* Мацееўшчына Маг. *Мама навучыла мяне вязаць споткі і пальчаткі.* Машанакі Маг.

СПОДНІК *м.* Жаночая ніжняя спадніца. *Забяры мой там споднік на плоці.* Дзікае Глуск.

СПРЭГЧЫ *зак.* Пражыць, смажыць. *Сяньні ны вячэрю спрягу грібоў.* Рымінка Чав.

СПЫ'ТЫВАЦЬ *незак.* Каштаваць, смакаваць. *Спытывай суп, можа солі ні хватаіць.* Боркі Кір.

СРОСТВА *н.* Сваякі. *На памінкі ўсё сроства сышлося.* Ветрынка Бых.

ССЫ'ПНІК *м.* Драўляная бочка, у якую ссыпаюць збожжа. *У нас цяпер няма такога ссыпніка, мы нічога зь зернавых ня сеем.* Галоўчын Бял.

СТА'ВЕНЧЫК *м.* Пасуда для малака. *Пастаў ставенчык у суднік.* Барысаўка Клім.

СТАЖОК *м. перан.* Зімовая шапка. *У мяне ёсць добрый стажок, але ні нашу, ні модный січас.* Мацееўшчына Маг.

СТАЛЕ'ТНІК *м.* Альяс. *Еты стулетнік у мяне ўжо восьмы гот.* Тажылавічы Бабр.

СТАНАВІ'ЦЬ *незак.* Будаваць. *Ужо на тэй гот нада новую хату станавіць.* Кашалёўка Касц.

СТАНКЛІ'ДА *аг. іран.* Высокі хударлявы чалавек. *Вунь зноў пайшла станкліда.* Лазовіца Кам.

СТАНОК *м.* Асноўная частка кашулі, плацця і г. д. *Станок укараціла, і плацьце парвалася.* Сялец Быx.

СТАПАТНЯ'К *м.* Рыдлёўка. *Кыля жырюла стыяў стыпытняк, такей крепкій.* Кульшычы Слаўг.

СТАТУ'Й *м. перан. зневаж.* Дурань. *Куды ета наш статуй зьбех с самыга раньня?* Радзівонаўка Гор.

СТАЎБЭШНІК *м.* Электраманцёр. *У нас працавала цэлая брыгада стаўбэшнікаў.* Скураты Кругл.

СТА'ЎЧЫК *м.* Кубел (для сала і мяса). *Вазьмі сала ў стаўчыку ды зноў палажы крышку.* Абідавічы Быx.

СТАЦЦО *н.* Здарэнне. *Ці стаццо, думаю, што ета такоя, кажыцца, клала грошы тут, а тут цап-цап.* Заходы Шкл.

СТАЯ'К *м.* Грубка. *Я ні раблю стаякоў пры печы, а простую печ.* Заходы Шкл.

СТОЛІК *м.* Кухонная шафка. *Ложкі ложым у столік.* Цяцерын Кругл.

СТОЎБ *м.* Слуп. *Дакуль ты будзяш стаяць, як стоўп?* Скураты Кругл.

СТОЯЛКА *ж.* Стойка. *Пасадзі хлопца ў стоялку, а сам сюда йдзі.* Цяцерын Кругл.

СТРА'МНА *прысл.* Сорамна. *Як табе не страмна так гаварыць?* Машанакі Маг.

СТРА'МНІЦА *ж.* Бессаромная жанчына ці дзяўчына. *Куды ты ідзеш, страмніца? Хоць вочы прамый.* Рэкта Гор.

СТРАХАПУ'ДЛІВЫ *прым.* Баязлівы. *Твой Васіль дужа страхапудлівы стаў.* Заазер'е Бял.

СТРА'ЦЕЛЬНА *прысл.* Старанна. *Мая дзяўчына ўжо страцільна вымыла бялізну.* Скураты Кругл.

СТРА'ШКА *прысл.* Страшна. *Ішла я ўчора пад вечар ціраз лес, у балоціні ваўкі як завыюць — стала мне страшка.* Лудчыцы Быx.

СТРУ'ШАНКА, ТРУ'ШАНКА *ж.* Салома, змешаная з сенам, трасянка. *Дала карові струшанкі, а пасьля запаркі дам.* Кароўчына Гор. *Трушанкі дала, пасьля дам паранкі — ніхай есьць на здароўе.* Вялікі Бор Касц.

СТРЫГАНЁНАК *м.* Сваяк. *Сяньні ўсе, хто пріехаў, пызнакомілісь з маім стрыганёнкам.* Вялікі Бор Касц.

СТРЫГНА'ТКА *ж.* Аўсянка (птушка). *Зімой у пуні бывае многа стрыгнатак, прылятаюць паесці.* Стаі Кругл.

СТРЫГУНЕ'Ц *м.* Стрыгунок. *Прывяжы ты свайго стругунца.* Машанакі Маг.

СТУ'ДЗЕНІНА *ж.*, СТУ'ДЗІНЬ *м.*, СТУ'ДЗІНЫ *мн.* Квашаніна. *Студзеніну разьлілі ў талеркі, каб застыла.* Стаі Кругл. *Добры студзінь зварыла з свініны.* Ляхаўшчына Чав. *Іванька, як прыдзеш са школы, еш студзіны.* Цяхцін Бял. *Такі добры сьцюдзінь атрымаўся ў мяне з куріных ножык.* Шаламы Слаўг. *Сьцюдзінь харашо дзелаць восіньню і зімой.* Вусце Чэрык.

СТУДЗЁНА, СЦЮДЗЁНА *прысл.* Холадна. *У прошлым годзі зімой было так студзёна.* Барсукі Бых. *Сяньні дзюжа сьцюдзёна на вуліцы, сядзі луччы на печы.* Жаліжжа Красн.

СТУКА'Н *м.* Занадта высокі чалавек. *Вунь пайшоў нейкій чалавек, яйбо сапраўдный стукан.* Капані Чав.

СТУПА'К *м.* Ступня. *Баліць нага ў ступаку.* Букіна Кір.

СТУП'КА *ж. перан.* Чарніліца. *Я купіла сабе новую ступку, а іна ўзіла ды пабілыся.* Капані Чав.

СТЫ'ЛІЦА, СТЫНЬ *ж.* Холад. *Стыліца на двары, на вуліцу ня выйці.* Чырвоная Слабада Быx. *Стынь нейкыя хвытайіць за плечы сяньні, наверна, юшку забылісь зачыніць.* Рымінка Чав.

СУ'БАР *ж.* Адходы зерня. *Субарі завёз на куріную ферму ажно пяць вазоў.* Шаламы Слаўг.

СУГАМОННЕ *н.* Спакой. *Няма табе ніколі сугамоньня.* Скураты Кругл.

СУ'ДНІК *м.* Скрыня для захоўвання прадуктаў. *Суднік мой разгніўся, новый нада дзелыць.* Заброддзе Быx. *Вынісі гырлач у суднік.* Рэкта Гор.

СУ'ДНЯ *ж.* Скрыня для прадуктаў. *Судню ні зачынілі, дык кот усі гырлачы пубярнуў.* Тратны Вугал Клім.

СУ'ДЫ *мн.* Два вядры. *Не драмі, а прынясі хоць адны суды вады.* Рэкта Гор.

СУДЫ' *прысл.* Сюды. *Хадзі суды, чаго ты там стаіш.* Елавец Хоц.

СУКА'ЛА *н.* 1. Прылада для сукання нітак. 2. Маток ссуканых нітак. *Усё сукала мышы зьелі, каб на іх дохлая.* Чырвоная Слабада Быx.

СУ'КАРАЦЬ *ж.* Малады бярэзнік для звязвання калоў у агароджы. *Навазілі сукырыці, будзем гарод гырадзіць.* Шаламы Слаўг.

СУКРЫ'СТЫ *прым.* Кучаравы. *У Івана такія сукрыстыя валасы.* Скураты Круш.

СУЛДЫ'ЖКА *ж.* Частка рукі ад пляча да локця. *Тонкія ў яго сулдышкі, мускулаў ня відно.* Заходы Шкл.

СУЛІ'ЦЬ *незак.* Прапаноўваць. *Суліў дзісятку, дык я ні прыдала.* Цітаўка Клім.

СУЛУПОН *м.* Гаварун. *Дзе Лена жывець, там жыў старэй сулупон, усё язык на зубы — і лапоча.* Шаламы Слаўг.

СУМЛЯВА'ЦЦА *незак.* Сумнявацца. *Я й сам пачаў сумлявацца.* Заазер'е Бял.

СУНОЖКА *ж.* Ножка (стала, услона). *Згніла суношка стала, дык ён і зываліўся.* Рымінка Чав.

СУ'ПАРАТ *м.* Упарты чалавек. *Ах ты, супарат такей, ідзі дахаты!* Кашалёўка Касц.

СУ'ПРАДКІ *м.* Зборы вясковых жанчын і дзяўчат у зімовыя вечары, вячоркі. *Усе сыбраліся ў Ганны на супрякі.* Малыя Амхінічы Чав. *Пайшлі ўсе ў супріткі.* Стары Дзедзін Клім. *У супряткі сыбралісь было йсьці, мычак забылася ўзяць.* Ясенка Красн.

СУПШЫ'НА *ж.* Шыпшына. *Аб кусты супшыны паабдзіралі сабе ногі.* Раманаў Красн.

СУРАДОЙ *м.* Сырадой. *А ў нас яна толькі сурадой п'е.* Давыдавічы Бых.

СУРДОЛЛЕ *аг.* Нядобры чалавек. *Ну й сурдольля етый Грышка.* Давыдавічы Бых.

СУРОВЫ *прым.* Нявыбелены (пра палатно). *Суровыга пылытна магу даць, мне ні жалка.* Ляхаўшчына Чав.

СУРУПОНЯ *ж.* Кіслае малако. *У нас ны сталє стаіць пыстыянна сурупоня, мы і п'ём яе, й с хлебам ядзім.* Кульшычы Слаўг.

СУ'РЫЯ *н.*, СУ'Р'Я *ж. зб.* Смецце. *Нада скора будзіць кылы хаты сурія ўбраць.* Елавец Хоц. *У хаці сур'я, ны дваре сур'я кучымі ляжыць — ну й хызяіва!* Шаламы Слаўг. *Ета сур'я астылася, выкінь яе на двор.* Бярозкі Хоц.

СУСТОЙ *м.* Смятана. *Кот увесь сустой зьлізаў — чорт бы яго падраў.* Малы Асавец Маг.

СУХАВЕ'Я *ж.* Летняя начная маланка без грому. *Сяньні цэлую ноч сухавея бліскыла.* Бярозкі Хоц.

СУХАМЯ'ЦІЦА *ж.* Сухамятка. *Ён жа вучыцца там і жыве, мусіць, на сухумяціцы.* Шаламы Слаўг.

СУХАПА′РАМ *прысл.* Недарэчна. *Ён загінуў сухапарам — вот дурак.* Чырвоная Паляна Чав.

СУХАРОК *м.* Падгарэлая бульбіна. *Мае дзеці аж ганяюцца за сухаркамі.* Заполле Шкл.

СУХАРЭБРЫЙ *прым.* Вельмі худы. *Такі ўжэ сухарэбрый мой меншы — ні знаю, чым яго й карміць.* Кляшчоўка Глуск.

СУ′ХЛІК *м.* Лядзяш. *Дзеці зьбівалі са стрэх сухлікі, а потым смакталі.* Заходы Шкл.

СУХМЕ′ЛЬНЯ *ж.* Ёўня. *Пакладзі снапы ў сухмельню, а я патом абаб'ю.* Вялікія Амхінічы Чав.

СУ′ШКІ *мн.* Смажаная бульба. *Сушкі дужа смачныя сяньні былі ў нас.* Бабровічы Маг.

СХОД *м.* Апошняя фаза месяца. *Можа сходым што й зьменіцца.* Мхінічы Красн.

СЦЕ′НКА *ж.* Сцежка, пратоптаная паміж двароў. *На сьценцы карову пасець шчэ яна.* Заполле Шкл.

СЦЯННЫ′Й *прым.* Насценны. *Сьцянныя часы спорціліся.* Сялец Бых.

СЦЕНЬ *м.* Цень. *С касьцей, з машчэй злую сьцень выбіраю* (з замовы). Заполле Шкл.

СЦІ′ПЛЫЙ *прым.* Гаспадарлівы. *Атмалку Сьцёпка наш сьціплый быў: рабіць стараіцца, ні то што іншы цяп-ляп, абы-як.* Новая Добасна Кір.

СЦЯКЛЯ′НКА, СЦЯКЛІ′НА *ж.* Лямпавае шкло. *Пачысьці-ка ты ўжо сьціклянку, а то нявідна нічога.* Рымінка Чав. *Лопнула сьцякліна, наверна, узяліся карасіннаю рукою.* Сухары Маг.

СЦЯРЭЖЧ *незак.* Вартаваць. *Мой цяпера сторажам работаіць — кароў сьцярэшч нада кожный дзень.* Заполле Шкл.

СЫБОТА *ж.* Субота. *У сыботу ўжо й сам гаспадар прыедзе.* Цяхцін Бял.

СЫЙЦІ′ЦЦА *зак.* 1. Сысціся. 2. Пажаніцца. *Нашага Івана дочка сыйшлася с Пітраковым сынам — вот ета пара!* Боркі Кір.

СЫЛАПАЙ *м.* Балбатун. *У етага сылапая ніўто не затрымаецца на языку.* Заполле Шкл.

СЫ′РАВАТКА, СЫ′РВАТКА, СЫ′ЎРЫТКА *ж.* Сыроватка. *Праснакі я пяку на содзе і на сыравацы.* Цяцерын Кругл. *На сырвацы харашо бліны печ.* Галоўчын Бял. *Ладык нада спеч на сыўрыцы.* Ляхаўшчына Чав.

СЫРАВЕ′ЖКА *ж.* Сыраежка. *Сыравежкі водзяцца і цяперя ў нашым лесі.* Вусце Чэрык.

СЫРАКВА′ШНІК *м.* Сырнік. *Сяньні такея сырыквашнікі смашныя — адно аб'ядзеньня.* Немерка Гор.

СЫРАМЯ′ЦІНА *м.* Прывязка з сырой скуры. *Тут еты рамушок ня выдзіржыць. Нада пыпрасіць кусок сырымяціны.* Заполле Шкл.

СЯЛЬНІ′К *м.* Сяннік. *Салома перацёрлыся ў сяльніку, трэба новай напхаць.* Тажылавічы Бабр.

СЯНІ′НА *ж.* Адна сухая травіна. *Падавала сена, ды сяніна ў вока ўлезла.* Чырвоная Слабада Бых.

СЯ′ННІ, СЯ′ННЯ *прысл.* Сёння. *Нешта сяньні мне, свацьця, ніздаровіцца.* Палянінавічы Бых. *Сяньня будзем сушыць сена, ні адыхоцься нікуды.* Бабровічы Маг.

СЯННІ′ЦА *ж.* Будынак для сена. *У етым гаду накасілі многа сена, наклалі поўную сяньніцу, карова будзець давольна.* Зоры Чэрык.

СЯРБА′ЦЬ *незак.* Сёрбаць. *Сірбай бульбу, а то зараз будзе ўся.* Губіншчына Чэрык.

СЯСТРУ′ЛЯ *ж. іран.* Сястра. *Сяструля ўсё бедніцца да стогнець, а дзьве зьберкнішкі маець.* Александрыя Шкл.

СЯСТРУ′ШКА *ж.* Дваюрадная сястра. *Ета сяструшка мыя прыхадзіла ка мне ў госці з мужыком.* Заполле Шкл.

СЯЧОНКА *ж.* Ячменныя крупы. *Сячонка ў нас ужо кынчаіцца, нада схадзіць яшчэ купіць.* Елавец Хоц.

## Т

ТАГА′Н *м.* Трыножка. *Нагрэўся тыган, ні чыпай, рукі аппякеш.* Бярозкі Хоц.

ТА′ІЧКА *ж.* Сяброўка. *Я, таічка, сяньні саўсім зыбалела, а то схадзіла п сыма ў сельсавет зы спраўкуй.* Рымінка Чав.

ТАЛКАВІ′ТА *прысл.* Толкам, да толку. *Чамусьці ён сяньні гываріць тылкавіта.* Рымінка Чав.

ТА′МА, ТА′МАКА *прысл.* Там. *Тама я ўжо й нічога ні даведылыся пра сына.* Чав. *Тамака было зусім дрэнна.* Забалоцце Бял.

ТА′МБЫРКА, ТА′НБЫРКА *ж.* Прылада для вязання. *На, бярі тамбырку ды зьвяжы кружава ў скацірку.* Шаламы Слаўг.

ТА'НКА *ж.* Танк. *Па вуліцы праехала ні адна танка.* Грыбава Слабада Кір.

ТАРБЭШНІК *м. уст.* Бедны, гаротны чалавек, жабрак. *Тарбэшнік етый ніяк з лапцей ня вылазіў.* Радзівонаўка Гор.

ТАСАВА'ЦЬ *незак. перан.* Штурхаць. *Тусувай, тусувай, пакуль маліц ні зыплакаў.* Кашалёўка Касц.

ТАТУ'ЛЯ *м. ласк.* Тата. *Татуля, ідзі вячэраць.* Цяцерын Кругл.

ТА'ТУСЬ, ТА'ТУСЬКА *м.* Хросны бацька. *Пайду к татусю, там зь Віцькам пагуляю.* Цяцерын Кругл. *Зыбалеў мой татуська, нада атведаць.* Заходы Шкл.

ТАЎКА'ЧЫКІ *мн. зб.* Палявы хвошч. *Ні знаю, што й дзелыць, уся ўсядзьба пырысла туўкачыкамі.* Высокае Клім.

ТАЎКУ'ШКА *ж.,* ТАЎКА'ЧЫК *м.* Таўкач. *Падай таўкушку, нада бульбу талоч. Пыраска, дай тыўкачык масла зьбіць.* Бярозкі Хоц. *Калі няма таўкушкі, дык проста лошкай таўчом.* Галоўчын Бял.

ТАЎСЦЕ'ННЫЙ *прым.* Вельмі тоўсты. *Відзіш, якей дзядзька таўсьценный пайшоў, січас цябе забярець, калі плакаць будзеш.* Елавец Хоц.

ТАЎЧОНКА, ТАЎЧАНІ'ЦА *ж.* Каша з бульбы і прасяных круп; тоўчаная бульба. *Таўчонка зусім застыла і ня лезла ў горла.* Капані Чав. *Так хочацца ўжо таўчонкі скарэй паесьці.* Халопенічы Глуск. *Мы сяньні гатовілі тыўчаніцу.* Ліпаўка Касц.

ТКАННЁ *н.* Агульная назва ўсяго тканага. *Калі я йшла замуш, я брала ў прыданае многа свайго тканьня.* Заходы Шкл.

ТОКА *часц.* Толькі. *Тока вас адных ні было на сходцы, а так усі былі.* Рымінка Чав.

ТОЛАПЕНЬ *аг.* Дурань. *Толапень ты! Чаму ня вучысься? Чаго школу кінуў? Скора і ў пастухі бяз дзесяці класаў ня возьмуць.* Заполле Шкл.

ТОЛЕЧКІ *прысл.* Толькі што. *Ён толячкі прышоў.* Забалоцце Бял. *Толечкі купіў штаны, і ўжо яны пырваліся.* Вялікі Бор Касц. *Толечкі закончыла работу.* Нічыпаравічы Шкл. *Я толічкі прішла аттуль і большы ні сыбіраюсь нікуды йіціць.* Елавец Хоц.

ТОРЧМА *прысл.* Стырчма. *Торчма ляцела с той гары.* Мілаславічы Клім.

ТРАБЛО *аг. пагардл.* Тоўсты непаваротлівы чала-

век. *Ат'еўся ны казённых харчах, траблом еткім стаў.* Вялікі Бор Касц.

ТРА'ПАШНІК *м.* Чалавек, які збірае анучы. *Раней трапашнік к нам часта езьдзіў.* Заходы Шкл.

ТРАПКА'Ч *м.* Ануча, якой бяруць чыгуны. *А я трапкачом, трапкачом атхвастала яго, дайжа сажай вымазала.* Боркі Кір.

ТРАПЫ'ШЫЦЬ *незак.* Вастрыць (касу). *Нада трапышыць касу часьцей.* Галоўчын Бял.

ТРАСКОЎНІК *м.* Месца каля хаты, дзе сякуць дровы. *Курыца кудахчыла ны траскоўніку, чаго, думаю, яна там крычыць. Пышла, а там яйцо ляжыць.* Цвёрдаў Бых.

ТРАСУ'ХА *ж.* Гноераскідальнік. *Цяпера гной трасухамі трасуць — харашо!* Лежнеўка Маг.

ТРАЎЛІ'ВЫЙ *прым.* Зараслы пустазеллем, травой. *У цябе ячмяні нейкія дужа траўлівыя.* Заполле Шкл.

ТРАХМОЦЦЕ *н.* Парванае адзенне. *Не трасі трахмоцьцям, а йдзі купі чалавечаскую адзёжу.* Скураты Кругл.

ТРА'ХНУЦЬ *зак. перан.* Раптоўна пабегчы, ірвануцца. *Каровы напалі на ваўчыны след і як трахнуць уцякаць са стада.* Лудчыцы Бых.

ТРАЦЦЯ'К *м.* Трохгадовы конь. *Хоць і трыцьцяк, а цягнець слаба.* Палыкавічы Маг.

ТРАШЧОТКА *аг. перан.* Чалавек, які вельмі хутка гаворыць. *Затрашчыць трашчотка, толькі пасьпявай слухаць.* Сялец Бых.

ТРУБІ'ЦЬ *незак. перан.* Многа есці. *Ты трубіш хлеп, як карова. І вапшчэ цябе лепш адзяваць, чым карміць.* Грыбава Слабада Кір.

ТРУСКІ'Й *прым.* Выбіты (пра дарогу). *Натта ўжэ дарога труская стала.* Чырвоная Слабада Бых.

ТРУСЛЯ'К *м.* Баязлівец. *Пычаму такей трусьляк ты, пычаму так баісься?* Елавец Хоц.

ТРУШЫ'ЦЬ *незак.* Памалу кідаць. *Што ты ёй трушыш? Ці столькі ёй нада?* Заполле Шкл.

ТРЫБУХАВА'ТЫЙ *прым.* З вялікім жыватом. *Гестый мушчына такей ужэ трыбухуватый, ажно глядзець няможна.* Мілаславічы Клім.

ТРЫБУХА'Н *м.* Чалавек з вялікім жыватом. *Як яблыкі пасьпелі, дык і Марьін трібухан пріехыў.* Радзівонаўка Гор.

ТРЫБУХІ′ *мн. зб.* Вантробы. *Там ня столькі сала было, сколькі трыбухоў.* Цяцерын Кругл.

ТРЫД *м.* Баязлівец. *Ты ня ведыіш, якій ён тріт. Первый выдыў нас.* Капані Чав.

ТРЫ′ЗНІК *м.* Лунацік. *Быў у нашым сяле трызьнік, памёр ён.* Сялец Бых.

ТРЫНДЫ′ЧЫЦЬ *незак.* Многа гаварыць. *Валя дак ужэ трындычыць столькі, колькі і ня треба. Вох і язык!* Сялец Гор.

ТРЫ′ПУЦЕНЬ *м.* Трыпутнік. *Вазьмі трыпуцінь і прылажы рану, кроў пірістаніць тады йці.* Заполле Шкл.

ТРЫРОЖКІ *мн.* Вілы на тры рагі. *Пайду вазьму трырошкі, памагу табе сена скласьці.* Рэкта Бых.

ТРЫСОМНІК *м.* Месца, дзе сякуць дровы. *Бацька адразу пайшоў тады на трысомнік узяць тапор.* Боркі Кір.

ТРЫСЦІ′ЦЬ *незак.* 1. Трасціць. 2. *перан.* Біць, разбіваць. *Учора Якім трысьціў усё ў хаці.* Бялынкавічы Касц.

ТРЭПЛЯ *ж.* Пустая гаворка. *Твыя трепля ўсім абрідла, памаўчы лучча.* Мхінічы Красн.

ТУДОЙ *прысл.* Туды; там. *Пойдзем тудой, тудой прамей.* Скураты Кругл.

ТУНЯ′ШКА *ж.* Гнілое дрэва. *Туняшка етая нікаму ні нада, забярі ат'етуля яе.* Мілаславічы Клім.

ТУРКУ′ЛЬ *м.* Клунак. *Такей туркуль пацянула, а на работу бальная.* Мілаславічы Клім.

ТУРЛЮ′ДЗІЦЬ *незак.* Гаварыць лухту. *Турлюдзіць, што дзіцёнык, слухыць німа чаго.* Мхінічы Красн.

ТУРПЫ′ЛЬ *м.* Кругляк, невялікі кавалак тоўстага бервяна. *Во з етыга турпыля будзіць харошыя калодычка сесьць.* Рымінка Чав. *Бярозавый турпыль, а ледзьве пышчыпаў.* Касц.

ТУ′ТАЦЬКІ *прысл.* Тут. *Тутыцькі пасеім лён, а тамыцькі — пшаніцу.* Заброддзе Бых.

ТУ-ТУ-ТУ! *гукаперайм.* Падзыўныя словы для курэй. *Куды пайшлі? Ту-ту-ту! Ідзіця сюды.* Машанакі Маг.

ТУ′ХНУЦЬ *незак. перан. груб.* Спаць. *Падымайся, харош тухнуць!* Новая Добасна Кір.

ТУ′ШЧЫЦЦА *незак.* Засмучацца ў час наступлення

хваробы. *Мой маліц штосьці тушчыцца гэтыя дні.* Паташы Гор.

ТЫЛІ'КАЦЬ *незак.* Спяваць без слоў. *Ні тылікай ты! І так тошна, а шчэ й ты.* Смолькі Қасц.

ТЫЛІЛІ'КАЦЬ *незак. іран.* Іграць на гармоніку. *Цэлый дзень тылілікаў, ні даваў спакою.* Кляшчоўка Глуск.

ТЫЛЛЁ *н.* Вострая частка брытвы. *Тыльё зытупілась, нада чым-та навастрыць.* Цяцерын Кругл.

ТЫН *м.* Унутраны зруб калодзежа. *Там, унізі калодзіжа, саўсім рызваліўся тын.* Стары Дзедзін Клім.

ТЫНІ'НА *ж.* Забалочанае месца на полі ці ў лесе. *На полі січас тыніны пыпыдаюцца ретка.* Мілаславічы Клім.

ТЫНЬ *ж.* Месца на рацэ або возеры, якое зарасло трысцём. *Чарот усігда расьцець на тыні.* Еўдакімавічы Шкл.

ТЫ'РСА *ж.* Пілавінне. *Тырса засыпала вочы.* Қасц.

ТЭПАЛА *аг.* Неспакойны, непаседлівы чалавек. *Сядзь, тэпыла, спакойна пысядзі, а то бегыіш бязь дзела, пылыдурак.* Радзівонаўка Гор.

## У

УБАЁДАЦЦА *зак.* Змарыцца. *Сяньні за дзень так убаёдыўся, што няхота з месца зьдзьвінуцца.* Янаўка Мсц.

У БАРАЗНУ' *спалуч.* У ворыва (садзіць бульбу). *Бульбу ў нас ля сядзібы содзяць у баразну.* Цяцерын Кругл.

УБЛЮ'ДАЦЦА *зак.* Стаміцца. *Сёньня ўсе за дзень ублюдаліся.* Сялец Гор.

УБОІНА *аг. груб.* Упарты чалавек. *Усё ш паехаў, убоіна, як ні адгаварвала яго.* Сялец Бых.

УВІ'ЛЬВАЦЬ *незак.* Пазбягаць (работы). *А Васіль ні глядзіць, што сім'я быльшая, сіраўно стыраецца ат работы ўвілівыць.* Кавалёўка Клім.

УВЯЗА'ЦЬ ҚУДЗЕ'ЛЮ *спалуч.* Замацаваць кудзелю на прасніцы. *Спачатку харашо ўвяжуць кудзелю, а тады начынаюць прасьці.* Цяцерын Кругл.

У'ВЯЗКА *ж.* Прывязка. *Была бяда з увяскамі — часта рваліся.* Дзедава Бых.

УВЯРЦЕ'ЦЬ *зак.* Ухутаць. *Як увярцела галаву но-*

*вай хусткай, дак усім так панаравілася.* Кляшчоўка Глуск.

У ГАЛАВА'Х *спалуч.* Дзе кладуць падушку (пра месца ў ложку). Процілеглае яму — у нагах. *У галавах падушку пакладзі, а ў нагах — шупку, кап цяплей спалася.* Заходы Шкл.

УГАЛЁП *прысл.* Галопам. *Коні памчаліся ўгалёп і воз абярнуўся.* Лазовіца Клім.

УГАМАВА'ЦЦА *зак.* Супакоіцца. *Чэраз некаторый час яна ўгамавалася і заснула.* Сялец Гор.

УГА'ЦЬ *незак.* Ілгаць, маніць. *А ўсё-такі ён здорава навучыўся ўгаць, хоць і малы шчэ.* Капані Чав.

УГЕ'ЛЬНІК *м.* Чырвоны кут у вясковай хаце. *Бабуля завесіла ўгельнік гардзінамі.* Лудчыцы Бых.

УГРУНЁМ *прысл.* Шпарка (бегчы). *Пабяжыш, маё дзетка, угрунём, кап сабака ні дагнаў.* Нядашава Маг.

УДВОРУ *прысл.* Дамоў. *Маці з сынам пайшлі ўдвору, а мне ні хочацца зь імі.* Паташы Гор.

УЖЫВА'ЦЬ *незак.* Харчавацца, спажываць. *Яны вельмі добра ўжываюць.* Ветрынка Бых.

УЗА'ПАР *прысл.* Запар. *Трі разы ўзапырь схадзіла ў лес, а ўсё ш такі пірінісла ўсю ныжатую траву.* Рымінка Чав.

УЗВА'ЛЛЕ *н.* Узгорыстае месца (на лугах). *Йдзі вынясі траву на ўзвальле. Тама йна быстра прасохніць.* Забычанне Касц.

УЗГРЭБЦІСЯ *зак.* Падняцца ўверх з вялікай цяжкасцю. *Ледзь узгрэблася на гару: так с серцам плоха.* Смолькі Касц.

УЗНОЎ *прысл.* Зноў, ізноў. *Толькі прыехаў і ўзноў трэба ехаць назад.* Цяхцін Бял.

У ЗЫ'КІ ПАЙСЦІ' *спалуч.* Пачаць гізаваць (пра жывёлу). *Цялёнак вырваўся і пайшоў у зыкі па вуліцы.* Журбінская Буда Касц.

УКЛА'СЦІСЯ *зак.* Замарыцца. *Вось уклаўся я сяньні на бульбе.* Саматэвічы Касц.

УКЛОН *м.* Пакат. *Некалі на етым уклоні манастырь стаяў, тут манахі жылі.* Буйнічы Маг.

УКЛЮ'НУЦЬ *зак.* Дзеўбануць. *Певень у галаву ўклюнуў мальцу, і знак астаўся.* Грыбава Слабада Кір.

УКЛЯЯ' *ж.* Рыба верхаводка. *Уклія — ета тая самая камса, толька рачная.* Вусце Чэрык.

УКРА'ДКІ *прысл.* Крадком, употайкі. *Доўга ня ве-*

*дай, што жонка купляла ўсё ўкраткі й пасылила сваім.* Глуск.

УКРОП *м.* Вар, кіпень. *Пастаў укроп на загнеце, хай астыне.* Каменка Крыч. *Пыдай мне ўкропу.* Бярозкі Хоц. *Зрабі ўкропу памыць пасуду.* Звянчатка Клім.

УКЭХАЦЦА *зак.* Закахацца. *А Валодзя ў Сьвету здорава, наверна, укэхаўся.* Елавец Хоц.

УЛІЦАВА'ЦЬ *зак.* Пазнаць па абліччу. *Глядзела, глядзела й ніяк ні ўліцувала, чый ета маліц.* Рымінка Чав.

УЛОННЕ *н.* Калена. *Вазьмі дзіцёнка на ўлоньня.* Шаламы Слаўг.

УЛУПІ'ЦЬ *зак. перан.* Прыкласці значныя намаганні. *Бязь дзьвюх месіцаў я сем гадоў улупіў у старой арміі.* Цяцерын Кругл.

УЛУ'ТКА *ж.* Шуфляда (у акне). *У міня ўлуткі йшчэ саўсім як новыя.* Вусце Чэрык.

УЛЯКНУ'ЦЦА *зак.* Спалохацца. *Ой, як я сяньні ўлякнулася!* Чавусы.

УМЕ'СЦЕ *прысл.* Разам. *А чаго б вам умесьці ня зьезьдзіць у горыт.* Вялікі Бор Касц.

УМОРА *аг.* Вясёлы чалавек; штукар. *Мішка ш такей умора, вечна расказываіць што-нібудзь смешныя.* Елавец Хоц.

УНАЎЯ' *н.* Растрата, убытак. *Вучу сына, а пользы з яго ня будзець, ён загоніць мяне толькі ва ўнаўя.* Чырвоная Паляна Чав.

УПАНАРА'ВІЦЬ *зак.* Упадабаць, палюбіць. *Упанаравіў сабе дзеўку, дак і бяры.* Кляшчоўка Глуск.

УПЕ'РАК *прысл.* Упоперак. *Лёх уперак пасьцелі й сьпіць.* Букіна Кір.

УПІ'РЛІВЫЙ *прым.* Упарты. *Ну й упірлівый жа ты, мой сынок!* Устаннае Слаўг.

УПІ'РЫ *мн.* Упартасць. *Праз твае ўпіры ўсё жыцьцё разладжваецца.* Рэкта Бых.

УПЛЁТКА *ж.* Стужка, якая ўплятаецца ў касу. *Сяньні купіла новыя ўплёткі.* Бярозкі Хоц.

УПЛЁТЫВАЦЬ *незак.* Прагна есці. *Во хто ўплётываіць нішчымную бульбу!* Янаўка Асіп.

УПЛІКНУ'ЦЬ *зак.* Ударыць, сцебануць. *Уплікнуў, як лянівaму каню, дубцом, дык зрабіў усе ўрокі адразу.* Забалоцце Бял.

УПЯЧЫ'СЯ *зак.* Надаесці; уесціся ў косці. *Ну, і ўпяклася ш мне гэтая справа!* Клетнае Глуск.

УРАЗУВОР *прысл.* Уроскідку (араць). *Я дак сёліта пыхаў свой участык уразувор.* Высокае Клім.

УРА'ННІ *прысл.* Рана, раніцай. *Заўтра ўраньні бяльлё пажлукціць нада.* Заполле Шкл.

УРАСКІ'ДКУ, УРОСКІДЗЬ *прысл.* Уроскідку (араць). *Нада, наверна, ета поля пыхаць ураскітку.* Высокае Клім. *Уроскіць пыпыхаў усё.* Мілаславічы Клім.

УРУ'НЬ *ж.* Рунь. *Якая дружная ўрунь у етым гаду.* Ясенка Красн.

УСКАПАНІ'ЧЫЦЬ *зак.* Ускапаць матыкай, капаніцай. *Ускапанічыла ўсяго адну гратку.* Забалоцце Бял.

УСКЛА'Д *прысл.* Гуртам. *Бульбу ўсігда ўсклад сеюць.* Заходы Шкл.

УСЛОНЕЦ *м.* Зэдлік. *Лукаш, зьдзелай-ка ты ўслонец.* Давыдавічы Бых. *Услоніц злымаўся.* Гадылёва Бых.

УСТАРНАВА'ЦЦА *зак.* Усхапіцца. *Што ты ўстарнываўся ні сьвет ні заря.* Раманаў Красн.

УСХОДНЯЯ ЗОРКА *спалуч.* Зорка, якая з'яўляецца перад узыходам сонца. *Усходняя зорка ўзышла ўжо.* Цяцерын Кругл.

УСЯГДЫ' *прысл.* Заўсёды. *Я ўсягды ўспамінаю яго з удзячнасьцю.* Абідавічы Бых.

УСЯ'ДЗЬБА *ж.* 1. Сядзіба. *Папробуй з бабскай галавой усядзьбу дагледзіць.* Рудня Слаўг. 2. Прысядзібны ўчастак. *У яго ўсядзьба невялікая, дваццаць сотак.* Журбінская Буда Касц.

УТАПІ'ЦЦА *зак.* Угарэцца. *Пакуль утапіліся дровы, дык я й спазьнілася.* Заброддзе Бых.

УХАДЗІ'ЦЦА *зак.* 1. Ухадзіцца (з гаспадаркай). 2. *перан.* Памерці. *Чуць ні ўхадзілася баба ад бегу.* Зацяцерка Кругл.

УХВА'Т *м.* Злодзей, хапун. *Той, большы, вельма ўхват, ужо й санячкі ўхапіў.* Александрыя Шкл.

УЦІРА'ЛЬНІК, УЦІРА'ННІК *м.* Ручнік. *Вунь вісіць уціральнік.* Устаннае Слаўг. *Уціраньнікі січас ня тчом, а пакупаем.* Высокае Клім.

УЦЭЛА *прысл.* Без дарогі. *Уцэла лезе ў сьнех.* Чырвоная Слабада Бых.

УЧКУ'Р *м.* Тонкая вяровачка з пянькі. *Падвяжы ўчкуром свае штаны, ніхай ні зьязджаюць.* Дзікае Глуск.

УЧОРЫСІ *прысл.* Учора. *Учорысі столікі многа сьнегу выпыла.* Елавец Хоц.

УШПІЛІ'ЦЬ *зак.* Даць лупцоўку. *Ні вучыцца — нада ўшпіліць, як ляніваму каню.* Забалоцце Бял.

УШЧУ'КНУЦЬ *зак.* Супакоіцца, сціхнуць. *Ён каліўку ўшчукнуў, ідзі ўпруўляйся.* Вялікі Бор Касц.

## Ф

ФІМІ'ЧАСКІЙ, ФІМІ'ЧНЫЙ *прым.* Хімічны. *У крамі я купіў фімічаскій аловак.* Стаі Кругл. *Маша, купі мне фімічный кырындаш.* Раманаў Красн.

ФІРУ'РГ *м.* Хірург. *Рагоўскі — харошый фірурх.* Елавец Хоц.

ФУЛІГА'Н *м.* Хуліган. *Етый маліц такей вялікій фуліган, наверна, будзець.* Горкі Чэрык.

## Х

ХАДЗЯ'ІН *м.* Гаспадар. *Хадзяін дома — вазіў малоць на мельніцу, але ні змалоў: было многа завозу.* Еськаўка Гор.

ХАДЫ'ЛКА *ж.* Прылада, пры дапамозе якой дзіця вучыцца хадзіць. *Пастаў яго к хадылцы. Ён ужо два часы ходзіць за хадылкай.* Цяцерын Кругл.

ХАЛАДА'ЙКА *ж.* Верхняя вопратка. *У мяне ўся халадайка сіняя.* Сялец Бых.

ХАЛАМІ'ДА *ж.* Доўгае верхняе адзенне, хламіда. *Хоць бы хыламіду якую купіў к зіме!* Шаламы Слаўг.

ХАЛОДНІЦА *ж.* Халадзец. *К свадзьбе халодніцы наварылі многа-многа.* Заходы Шкл.

ХАПА'Й, ХАПАЁК *м.* Верхняя мужчынская і жаночая вопратка з саматканага сукна. *Хапай у мяне вышаў нічаво. Глянь-ка, а ў етый хапаёк новый паявіўся.* Вусце Чэрык.

ХАРАХОРЫЦЦА *незак.* Прыхарошвацца. *І сколькі ўрэмя ты будзеш сёньня хырахорыцца?* Сялец Гор.

ХАТУ'ЛЬ *м.* 1. Клунак. 2. Рэчавы мяшок. *Хатуль на плечы й пайшоў.* Рэкта Гор. *Пакладзі мне хлеба ў хатуль.* Рэкта Гор.

ХА'ЎКАЦЬ *незак.* Пазяхаць. *Дакуль хаўкаць будзеця, бярыцеся за работу скарэй.* Чапляёўка Гор.

ХАХОРЫЦЦА *незак.* Задавацца. *Чаго ты яшчэ хахорысься, йшла п, калі бяруць замуж.* Паташы Гор.

ХВУ'ТАР *м.* Хутар. *Сяньні пасуць кароў на быўшым хвутыры.* Высокае Клім.

ХЕ'ЎРА *ж. перан.* Жанчына, якая мае шмат дзяцей. *Пайшла хеўра з сваймі дзяцьмі на працу.* Сялец Гор.

ХІТРАВА'НЕЦ. Хітрун, абманшчык. *Малы, а хітраванец.* Сялец Бых.

ХЛЮ'ПАЦЬ *незак.* 1. Шлёпаць. 2. *перан.* Плакаць. *Ты скора ўжо хлюпыць пірістаніш?* Елавец Хоц.

ХНЫ'КАЛА *аг.* Чалавек, які ўвесь час скардзіцца на жыццё, не верыць у будучае. Сялец Бых.

ХОРМА *ж.* Форма. *Вы на скоўрыдых хлеб пічыцё, а мы дык у хормах.* Рымінка Чав.

ХОЎКІ *мн.* Хованкі. *Пайдзём у хоўкі пагуляем.* Давыдавічы Бых.

ХРА'ПАЦЬ *незак.* Хрусцець. *Сахыр етый буйнэй, ны зубах хряпыя.* Рудня Слаўг.

ХРАСТЫ' *мн.,* ХРЭШЧЫК *м.* Бабка, малая ўкладка снапоў у полі. *Храсты так доўга ляжалі, што й зярно прарасло.* Заазер'е Бял. *Ты, дзетачка, кладзі снапы хрэшчыкам.* Ігліца Бял.

ХРОСНІК *м. уст.* Хросны бацька. *Хросьнік — ета хто хрысьціў.* Александрыя Шкл.

ХРУ'ПНУЦЬ *зак.* Зламацца нечакана, раптоўна. *Хрупнуў у роце зуб і ні магу есьць.* Александрыя Шкл.

ХРЫБЕ'ТНІЦА *ж.* Хрыбетнік. *Так ударылася, што чуць хрыбетніцу ні пылымала.* Заходы Шкл.

ХРЫСТ *м.* Перакрыжаванне (дарог). *Машыны спыніліся на хрысьце.* Заполле Шкл. *На самым хрысьце дзеўка з машыны зьлязцела.* Заходы Шкл.

ХУНДА'МЕНТ, ХВЫНДА'МІТ *м.* Фундамент. *Спачатку ставяць штандары, а потым хундамент заводзяць.* Заходы Шкл. *Сенька, пасоп-ка хвындаміт заліць.* Немерка Гор.

ХУ'РА *ж.* Фура. *Дроў насеклі цэлую хуру, усё ж мыя цёшча лыскавей будзя.* Шаламы Слаўг.

ХЭЙДАР *м.* Зборня. *У етым хэйдары ты што-небудзь знойдзіш для сябе?* Кульшычы Слаўг.

# Ц

ЦАЛКІ′ *мн.* Бульба, звараная цэлай. *Вынісь етыя цалкі, сыбаку аддай. Цалкі гарачыя, ешце, дзеткі.* Заполле Шкл. *Мама, навары-ка сяньні цалкоў.* Высокае Клім. *Ылажы сабе ў міску цалкоў і садзіся есьць.* Елавец Хоц.

ЦАПКІ′ *мн.* Жэрдкі ў ёўні, на якія кладуць лён ці снапы для сушкі. *Лён на цапкі кладзі.* Сялец Бых. *Без цапок пры сушцы нільзя абайцісь.* Цяцерын Кругл. *Бывала, на двары дошч ідзе, а ў ёўні суха, снапы на цапках сохнуць сабе.* Цвёрдаў Бых.

ЦАПОК *м.* 1. Кій. *Етая бабуля ходзіць толькі с цапком.* Кавалёўка Клім. 2. Лыжная палка. *Мне большы ныравюцца бамбуковыя цапкі.* Кавалёўка Клім. 3. Невялікая роўная палачка, на якой пераносяць што-н. *Нясі цапок, скарей карові несьць нада.* Рымінка Чав.

ЦЕ-ЦЕ-ЦЕ, ЦЕЖ-ЦЕЖ *выкл.* Воклік, якім падзываюць гусей. *Цеш-цеш-цеш, куды пашлі ны гарод!* Бярозкі Хоц.

ЦЕ′ЖКА *ж. ласк.* Гусь. *Олечка! Вунь пашлі цежкі.* Ясенка Красн.

ЦЕ′ЛЬНЫЙ *прым.* Ніжні, споднi. *Нада зьмяняць цельныя штаны часта, здаравей будзя.* Цяцерын Кругл.

ЦЕ′ПЕРСЬ, ЦЕ′ПЕРСЯ *прысл.* Даўно. *Цеперьсь ён пайшоў на млын.* Мокрае Касц.

ЦЕРАССЯДЗЁЛКА *ж.* Церассядзёлак. *Эй, друх, цірасьсядзёлку папраў, саўсім зьехала.* Боркі Кір.

ЦЕ′СЛІВЫЙ *прым.* Ацеслівы. *Цесьлівый хлеп, хоць конікаў ляпі.* Заходы Шкл.

ЦЕСЬ-ЦЕСЬ-ЦЕСЬ *выкл.* Воклік, якім падзываюць кароў. *Цесь-цесь-цесь! Ідзіця скарей сюды!* Жаліжжа Красн.

ЦЕЦІВА′, ЦІЦЬВА′ *ж.* Бацвінне. *Сьвіньні дужа хырашо ядуць ціціву.* Высокае Клім. *Пайду нажну ціцьвы і прынясу трошку карові.* Елавец Хоц.

ЦЁХЦЯ *ж.* Цяжкая ў хадзе, поўная жанчына. *С такой цёхцій далёка ні зайдзіш.* Радзівонаўка Гор.

ЦІПЛЯ′ТЫ *мн.* Кураняты. *Ідзі пыкармі ціплят, а то яны цэлый дзень някармленыя бегыюць.* Елавец Хоц.

ЦОДА *ж.* Сода. *Ні забуць, прівязі цоды ў другі раз з горада.* Стаі Кругл.

ЦУБА′РКА, ЦЭБЕР *м.* 1. Драўлянае вядро. 2. Вочап

з вядром. *Зычарпні ты мне ў цубарку вады.* Кавалёўка Клім. *Як пойдзеш зы вадой, дык глядзі, штоп цэбір ні атырваўся.* Елавец Хоц.

ЦУГЛЯ'НКА *ж.* Вяровачная аброць з жалезнымі цуглямі. *Прынясі цуглянку і зацугляй каня.* Скураты Кругл.

ЦУГУ'Н, ЦЫГУ'Н *м.* Чыгун. *Цугуны пакуль пацігаю, за раньня ўтамлюся.* Боркі Клім. *Маці купіла новы цыгун.* Стаі Кругл. *Бульбу вазьмі там у цыгуне.* Вялікія Бялевічы Маг.

ЦУРГАНЫ' *мн.* Цура. *Як толькі грошы выйдуць, дык елі адны цурганы.* Вялікі Бор Касц.

ЦЫГАНЁНАК *м.* 1. Цыганскае дзіця. 2. Чалавек са смуглай скурай ці чорнымі валасамі. *Па кім ён такей цыганёнык удаўся?* Радзівонаўка Гор.

ЦЫРУ'БАЛЛЕ *н.* Абмалочаныя сцяблы. *Аткідвай цырубальля дальшы.* Галоўчын Бял.

ЦЬПІЛА' *ж.* Чапяла. *Цьпіла саўсём нягодная стала.* Стайкі Маг.

ЦЮЛЬКІ' *мн.* Ссохлыя і гнілыя дрэвы. *Сяньні я хадзіў цюлькі секчы.* Загор'е Бых.

ЦЮ'ХЦЯ *аг. зневаж.* Лянівы, непаваротлівы чалавек. *Атправіла я етыга цюхцю зы малаком, дык ён яго ўсё разьліў.* Радзівонаўка Гор.

ЦЯГ *м.* Ланцуг або вяроўка, якімі прывязваюць карову. *Луччы сам сяць, а то навяжу, як карову, на цяг.* Цвёрдаў Бых.

ЦЯ'ГІ *мн.* Вяроўкі для ўціскання рубля на возе. *Цягі пырваліcь, дык вось хочаш ні хочаш, а піракладывай.* Семукачы Маг.

ЦЯ'МІЦЬ *незак. перан.* Праваліцца. *Кап ты цяміла, такая кароўка!* Давыдавічы Бых.

ЦЯРОБКІ *мн.* Поле на месцы расчышчанага лесу, расцяроб. *Бывала, раньшы ўстаніш рана й пайшоў ны цярёпкі пы грібах.* Вепрын Чэрык.

ЦЯСЮ'! *выкл.* Воклік, якім праганяюць кароў са шкоды. *Цясю адсюль!* Заполле Шкл.

ЦЯ'ЎКАЛА *аг.* 1. Сабака. 2. *перан. зневаж.* Чалавек, які гаворыць вельмі павольна. *Цяўкала, кажы як трэба.* Заходы Шкл.

# Ч

ЧАБАТЫ′ *м.* Боты. *Чыбаты сабе купіў керзывыя, ды бальшэя.* Бярозкі Хоц.

ЧАКА′ *ж.* Загваздка ў калёсы. *Чака вылецела с кола, так доўга шукалі, аш сьцямнела.* Чырвоная Слабада Бых.

ЧАЛЕ′ШНІК *м.* Качарэжнік. *Пастаў чапялу ў чалешнік, а сама адыдзіся ат печы.* Чырвоная Слабада Бых.

ЧАПЁЛКІ *мн.* Дзве звязаныя тонкія дошчачкі, якія служаць для таго, каб не блыталіся ніткі асновы. *Пыдай-ка чапёлкі сюды.* Мілаславічы Клім.

ЧА′ПЛІК *м.* Вочап. *Чаплік нейкій цяжолый зьдзелылі.* Высокае Клім.

ЧАПУРЫ′ЦЦА *незак.* Прыбірацца, прыхарошвацца. *Хопіць чапурыцца табе, пара йсьці!* Тажылавічы Бабр.

ЧАПЯЛІ′ШНІК *м.* Чапяльнік. *Ну й зрабіў чыпялішнік!* Журбінская Буда Касц.

ЧАРАПА′НКА *ж. груб.* Галава. *Учора мой Грішка дзе-та чыріпанку пабіў.* Бярозкі Хоц.

ЧАРАСЯ′К, ЧАРАСЯКОМ *прысл.* Напрасткі. *Пайшлі мы чырысяк, прама пашлі, чырысяком.* Зацяцерка Кругл.

ЧАРОН *м.*, ЧАРЭНА *ж.* Верхняя гарызантальная частка печы. *Другі раз тэк нытаплю печ, што нільзя ліжаць на чарёні.* Шаламы Слаўг. *Чарэна гарачая, патсьцялі пасьцілку, а то сьпячэсься.* Малы Асавец Маг.

ЧАРЭПАЦЬ *незак.* Чэрпаць. *Черепый-ка ты мне, дзетычка, ваду скарей, а то ўжо сілы німа цярьпець.* Высокае Клім.

ЧОРНЫ ПОЛ *спалуч.* Падлога, зверху якой будзе пакладзена яшчэ адна. *Ведаюць у нас у вёсцы, што такое чорны пол, але не робяць яго.* Сялец Бых.

ЧОХ *м.* Чханне. *Застыла, а цяпер будзіш вазіцца з чохым.* Мілаславічы Клім.

ЧУМА′ БАЛОТНАЯ *спалуч. перан. груб.* Дрэнны чалавек. *Глядзі, а то наробіць спраў етая чума балотная.* Сялец Гор.

ЧУ′НІ *мн.* 1. Тапачкі з тоўстых ільняных нітак. *Двору трэба надзець чуні на ногі.* Чырвоная Паляна Чав. 2. Самаробныя гумавыя галёшы. *У грязныя надвор'я восіньню і вясной лучча носюцьца чуні.* Нядашава Маг.

ЧУХМЕ'НЬ *м.* Світка, якая апранаецца на кажух. *Свой чухмень я прыдаў.* Мілаславічы Клім.

ЧУХНА' *ж.* Футра. *Адзень чухну, стала холадна.* Мілаславічы Клім.

ЧЫКІРДА' *ж.* Чахарда. *У чыкірду гуляюць мальцы.* Вялікі Бор Касц.

ЧЫКОХА *ж. зневаж.* Лежабока. *Ужэ зноў чыкоха залезла на печ.* Кляшчоўка Глуск.

ЧЫ'ЛЫЙ *прым.* Незнаёмы. *Чылый чалавек з намі пад'яжджаў да станцыі.* Боркі Кір.

ЧЫНДЫ'КАЦЬ *незак.* Іграць, рыпаць (на гармоніку). *Хтосьці чындыкаў ны гармоніку.* Паташы Гор.

ЧЫХЛЯ'К *м.* Споднява кашуля. *З бяльлёвага палатна шылі чыхлякі сабе.* Батунь Маг.

ЧЭП *м.* 1. Зашчапка, завала. *Схадзі, дочка, закрый дзверы на чэп.* Елавец Хоц. 2. Частка клямкі. *Замок на прабой і на чэп вешаюць.* Заходы Шкл.

ЧЭРАВА *ж. іран.* Жывот. *Я й учора ні вячэріла, забалела маё чэріва* (частушка). Шаламы Слаўг.

## Ш

ШАВАЛІ'ЦЦА *незак.* 1. Варушыцца. *Хваціць табе ўжо тут шываліцца.* Елавец Хоц. 2. *перан.* З'явіцца, узнікнуць. *У душы Ганны шывальнулась сумненьня.* Вялікі Бор Касц.

ШАДЗЯНЫ'Й *прым.* Труслівы, нервовы. *Сямёнавыя дзеці дужа шадзяныя.* Заазер'е Бял.

ША'ЙКА *ж.* Цэбар з двума вушкамі. *У шайцы цэлый год салёныя агуркі.* Мокрае Касц.

ША'ЙНІК *м.* Таўкач, мешалка. *Вазьмі шайнік і пытаўкі картошку, а то мне січас некалі.* Елавец Хоц.

ШАЛУПЕ'ЙКІ, ШАЛУ'ПКІ *мн.* Лупіны, лушпайкі. *Я ўсе шалупейкі аддаю карові.* Сялец Бых. *Склююць бульбіну етыя куры, шалупкі толькі астануцца.* Хвойніца Кір.

ШАЛУХА', ШАЛУПА' *ж.* 1. Лупіны з бульбы. *Ня рэш так бульбу, бачыш, шалухі колькі нарабіла.* Цяцерын Бял. *Шалуху тады аддаём скаціні.* Ветрынка Бых. 2. Шалупайка. *Аблупіў яйцо, дык надзелаў шалухі ў хаці.* Заходы Шкл. *У пячуркі столькі шалупы назьбіралася, ідзі выкінь яе курам.* Галоўчын Бял.

ША'МНУЦЬ *зак. іран.* Уцячы, даць цягу. *Дакуліка так шамнула, што толькі пяткі ліскыталі.* Вялікі Бор Касц.

ША'НЕЧКА *ж.* Невялікая торба, сумка. *Падай мне шанечку, я круп насыплю прасяных.* Тажылавічы Бабр.

ШАРОЙКА *ж.* Непаседа. *Во, шаройка, ды сядзі ўжэ ты спакойна.* Елавец Хоц.

ШАРПІ'НКА *ж.* Спадніца з ільну, вытканая ўручную. *Шарпінку я січас ні надзію.* Свяцілавічы Бял.

ШАРШОК *м.* Капеж, ніз саламянай страхі. *Я яшчэ й шаршок ня зьдзелаў.* Цяцерын Кругл.

ШАСНА'ЦЦАТКА *ж.* 1. Шаснаццацігадовая дзяўчына. 2. *перан. іран.* Немаладая жанчына, якая не была замужам. *Ну ж і натанцаваўся з нашай шаснаццаткай.* Ворліна Кліч.

ШАТА'ЙЛА *аг.* Бадзяга, валацуга. *Шытайла етый хоць бы жонцы памох пы хызяйству, дык ходзіць бязь дзела.* Радзівонаўка Гор.

ША'ТКІЙ *прым.* Няўстойлівы, гатовы ў любую хвіліну паваліцца. *Сарай дужа ўжо шаткій, аш страшна хадзіць лі яго.* Заполле Шкл.

ШАТКОЎКА *ж.* Шаткоўня. *Шыткоўка — там тры нажы, на іх становіцца скрынка. У шыткоўку ложыш капусту і тады шахаеш, ну й капуста так шаткуецца.* Цяцерын Кругл.

ША'ТЫ *мн. перан.* Уладкаваныя пакоі, палац. *У Мані цэлыя шаты, а ня дом.* Чырвоная Слабада Бых.

ША'ЎКАЦЬ *незак.* Гаварыць ціха, шаптаць. *Радзіва ат марта месяца ні гаворыць, а толькі шаўкыіць.* Вялікі Бор Касц.

ШВАРКОЛКА *ж.* Мянташка. *Заціралыся дзе-йта ў траве шварколка, а каса затупілась.* Жаліжжа Красн.

ШВА'РХАЦЬ *незак.* Шоргаць. *Чаго швархаіш тольіка кычаном у шаткоўлі?* Зацяцерка Кругл.

ШВЕД *м.* Жук-караед. *Усю сасну швет пабіў.* Забычанне Касц.

ШВОРКА, ШМОРКА *ж.* 1. Мотуз ці стужка, якой зацягваецца каўнер у кашулі. Заходы Шкл. 2. Повад. *Карову вялі на шворцы.* Боркі Кір. 3. Тонкая вяроўка. *Найдзі мне шморку якую-небуць пірівізаць чымыдан.* Вялікі Бор Касц.

ШВЭРГАЦЬ, ШВЭРКАЦЬ *незак. іран.* 1. Шкрабаць, шоргаць. *Ні швэргай нагамі.* Бароўка Маг. 2. *перан.* Га-

варыць неразборліва, невыразна. *Ні швэркай тут абычаго нам.* Боркі Кір.

ШКАП *м.* Шафа. *Тваё пальто вісіць у шкапі.* Зеляніца Кір.

ШКАПЕ'Ц *м.* Бурт. *Ты сягоньня йдзеш апкапываць шкапцы?* Заполле Шкл.

ШКА'ПІК, ШКА'ПЧЫК *м.* Шафа, куды ставяць посуд. *Пастаў гарлач у шкапік.* Давыдавічы Бых. *Такія шкапчыкі ў нас ва ўсіх ёсьць. А ў вас німа такіх шкапчыкаў?* Цяцерын Кругл. *Нядаўна паклеіла пасудны шкапчык белаю бумагаю.* Сялец Бых.

ШКУМА'ЦІЦЬ *незак.* Рваць. *Толькі й зная шкумаціць адзёжу.* Высокае Клім.

ШКУ'ЦЦЕ *н.* 1. Рыззё. 2. Нямытая бялізна. *Шкуцьця намачыла — заўтра на рэчку, а мо на копань працьпайду.* Заброддзе Бых.

ШКУЦЯ'ЛКА, ШКУЦЯ'НКА *ж.* Тканая з істужак паношанага адзення посцілка. *Шкуцялак сабе наткала, ніхай будуць.* Цяцерын Кругл. *Шкуцянка добрая вышла, дайжа ўкрывацца можна.* Бабровічы Маг.

ШЛАПА'К *аг.* Неахайны чалавек. *Ну й шлапакі! Усе ногі абляпалі.* Кляшчоўка Глуск.

ШЛОМАЦЬ *незак. іран.* Таптацца. *Як пачнець із раньня шломыць, дык пакою цэлый дзень ёй німа.* Вялікі Бор Касц.

ШЛУ'ННЕ *м.* Вантробы, унутранасці. *Забалела ў яго шлуньня, наверна?* Елавец Хоц. *Я ўжо зь ім усё шлуньня пырвала.* Вялікі Бор Касц.

ШЛЯГАНУ'ЦЬ *зак.* Ударыць пугай, сцебануць. *Валік, а, Валік! Дай пугі шлігануць.* Шаламы Слаўг.

ШОСА *ж.* Шаша. *Ранічкай пабягу на шосу.* Дзікае Глуск.

ШПАКУ'ЛЫ *мн.* Акуляры. *У маіх шпакулах сьцякло выскачыла.* Боркі Кір.

ШПАР *м.* Паз. *Шпары я добрыя падзелыў у дзьвірах.* Боркі Кір.

ШПАРОЎКА *ж.* Працэс выемкі паза. *Так цяшка шпаройку рабіць у гэтым браўне.* Сялец Бых.

ШПОКНУЦЬ *зак. перан.* Ударыць. *Зараз як шпокну, дык будзяш ведаць.* Чырвоная Слабада Бых.

ШПУ'ГА *ж.* Шпонка. *У дзверы засталося толька шпугі загнаць.* Заходы Шкл.

ШТАНІ'НА *ж.* Калашына. *Дзе йта ты сваю штаніну пупырвай?* Бярозкі Хоц.

ШТОЛЬ *займ.* Што, нешта, што-н. *Штоль ты нашоў там?* Шаламы Слаўг. *Пайду штоль куплю ў магазін.* Нядашава Маг.

ШУ'ПЕЛЬ *м.*, ШУ'ФЛЯ *ж.* Шуфель. *Падай мне шупяль.* Галоўчын Бял. *Мячык твой ля шуфлі ляжыць.* Вусце Чэрык. *Пайду ў магазін куплю новую шухлю.* Высокае Клім.

ШУ'ПІК *м.* Моцнае вялікоднае яйка (для гульні). *Дзеці толькі й зналі, што гулялі ў біткі, выберуць шупік і пайшлі.* Цвёрдаў Бых.

ШУР-ШУР-ШУР, ШУ'РА-ШУ'РА-ШУ'РА, ШУ'РКІ-ШУ'РКІ-ШУ'РКІ, ШУТ-ШУТ-ШУТ, ШУ'ТА-ШУ'ТА-ШУ'ТА, ШУ'ТУ-ШУ'ТУ *выкл.* Воклік, якім падзываюць авечак. *Шура-шура-шура! Айдзіця двору!* Ніканавічы Бых. *Шуту-шуту-шуту! Куды пайшлі, безгаловыя?* Машанакі Маг.

ШУХАВЕ'Й *м. перан.* Пусты, ветраны чалавек. *Шухавей етый нічога па-люцку ня зьдзелыіць.* Радзівонаўка Гор.

ШЧАВЕ'ЛЬ *м.* 1. Шчаўе. 2. Страва са шчаўя. *На 'бет шчаўлю зварыла.* Чырвоная Слабада Бых.

ШЧАВОК *м.* Пстрычка. *Шчаўка рас пяць табе ў лоп нада.* Заполле Шкл.

ШЧАКАТА'ЦЬ, ШЧАКАЦІ'ЦЬ *незак.* Казытаць. *Ён прывык шчакатаць і ніяк ні атвыкнець.* Машанакі Маг. *Шчыкаціць яму ўжо ныдаела, дык біць пачаў.* Жаліжжа Красн.

ШЧАКЕ'Т, ШЧАКЛЕ'Т *м.* Штыкетнік. *Ета вы сабе новый шчакет пыставілі?* Елавец Хоц. *Увесь шчаклет машына пылымала.* Шаламы Слаўг.

ШЧАПА' *ж.* Дранка. *Пецька паехаў сяньні й зы шчапой, будзім крышу пірікрываць.* Елавец Хоц.

ШЧОГЛА *ж.* Сошка калодзежнага жураўля. *Шчогла саўсім пахілілася.* Скураты Кругл.

ШЧОП *злуч.* Каб. *Шчоп ты была добрая, дык сваркі ня было п.* Нічыпаравічы Шкл.

ШЧОТАЧКА *ж.* Падложаная частка падолу (з іншага матэрыялу). *І дзе п ето папасьці чаго на шчотачку? Нада падлажыць спадніцу.* Кляшчоўка Глуск.

ШЧУПАКОЎКА *ж.* Вуда для лоўлі шчупакоў. *Шчупакоўка ўлезла прама ў нагу.* Ветрынка Бых.

ШЧУ'ПАЦЬ *незак. перан.* Выбіраць з-пад карча, не вырываючы бульбоўніку (пра бульбу). *Пайду пашчупаю к заўтріму мыладую бульбу.* Высокае Клім.

ШЧЫ'ГАЛАДКА *ж.* Шчыкалатка. *Мікола ўгрус па самыя шчыгалаткі.* Чачэвічы Бых.

ШЧЫКАТУ'РЫЦЦА *незак. перан. іран.* Пудрыцца. *Ну, дзіўчаткі, й так доўга ш шчыкутурылісь вы сёньня!* Сялец Бых.

ШЧЫПЦІ'ННІК *м.* Шыпшыннік. *Пад вакном вырас шчыпціньнік, такей красівый.* Старынка Мсц.

ШЧЫПЧЫ'НА *ж.* Шыпшына. *У палісадніку расла шчыпчына, усігда шчыпалась.* Сухары Маг.

ШЧЭБЕЛЬ *м.* Шчэбень. *На сашу навязлі шчэблю.* Сялец Бых.

ШЧЭЛЯПІ *мн.* Сківіцы. *Адна як разявіла рот, дык устаўныя шчэляпі й выскачылі.* Хвойніца Кір.

ШЧЭПАЦЬ *м.* Колькасць чаго-н., якую можна ўзяць трыма складзенымі пальцамі (вялікім, указальным і сярэднім). *Зярно к зярну — шчэпаць, а шчэпаць к шчэпцю — кулак, а кулак к кулаку — прігыршчы, а прігыршчы к прігыршчам — хунт, а хунт к хунту — пуд.* Шаламы Слаўг.

ШЫБА'ЦЬ *незак.* Палаць, ярка гарэць. *Вельмі ж дровы шыбаюць.* Чырвоная Слабада Бых.

ШЫ'БКІЙ *прым.* Хуткі, шпаркі. *Дужа шыпкій наш Панас.* Чырвоная Слабада Бых.

ШЫБУНЯ'ЦЬ *незак.* Гаварыць. *Дзе гэта так моцна шыбуняюць?* Цяцерын Кругл.

ШЫГЫ'ЛЛЕ *н. зб.* Ігліца. *На шыгыльля ў лесі нагу скалоў.* Вялікі Бор Касц.

ШЫПУ'ШКА *ж.* Кончык пальца. *Ой, сьпекла ўцюгом шыпушку.* Чачэвічы Быif.

## Ю

ЮРА'К, ЮРОК *м.* Прылада, пры дапамозе якой дзве ніткі з двух клубкоў звіваюцца ў адну. *Федзя, зьбегай да цёткі, папрасі юрок.* Забычанне Касц. *Дзядзька, зьдзелай мне юрок, а то ўсе рукі парезала, матаючы пряжу.* Давыдавічы Бых. *Юрак некуды закінуўся, нечым ніткі змытаць.* Еськаўка Гор.

ЮС! *выкл.* Воклік, якім адганяюць свіней. *Юс! Каб вас воўк — усі грады парылі.* Заполле Шкл.

# Я

Я'БЛЫК *м. перан.* Кадык. *Вось як вазьму за яблык, дык будзеш ведаць!* Заходы Шкл.

Я'ВАР *м.* Аер. *Явыр каровы хырашо ядуць.* Ліпаўка Касц.

Я'ГАДКА *ж. перан.* Скула. *Ужо старуха, а красныя ікая, ягыткі так і цьвітуць, глядзі, што кроў ш шчок пырсьніць.* Арцёмаўка Клім.

Я'ГЛІЦЬ *незак.* Дурыць (галаву). *Чаго ягліш, спаць треба.* Чав.

Я'ГРАСТ, Я'ГРУС *м.* Агрэст. *Сёліта яграст добры ўрадзіўся.* Ветрынка Бых. *Нарві ягрусу.* Паршына Гор.

Я'ДРАНЫЙ *прым.* Буйны, урадлівы. *Там жыта ядрыныя — саломіну ні піряревзаць.* Шаламы Слаўг.

Я'ЗІКІ *мн. пагардл.* Вочы. *Не пралупіў яшчэ свае язікі ад сну, а ўжо давай паесьць.* Нядашава Маг.

Я'ЛАВІНА *ж.* Аблога. *Ялавіны шчас нідзе ні застаецца, усё распрацавалі трактарамі.* Сялец Бых.

Я'ЛАВІЦА *ж.* Ялавічына. *На базарі прадаюць харошую ялавіцу.* Вусце Чэрык.

ЯЛЕ'НЕЦ *м.* Ядловец. *Яленец ужо зацьвіў у лесі.* Боркі Кір.

Я'МАЧКА *ж.* Вочка ў бульбе. *Калі ямачак няма, то бульба не прарасце.* Цяцерын Кругл.

Я'МКА *ж.* Пячурка. *Палажы запалкі ў ямку.* Мацееўшчына Маг.

ЯР *м.* Ярына. *Яр ужо пачынаіць сьпець.* Заполле Шкл.

ЯРМЯ'К *м.* Армяк. *Напряні ярьмяк і будзіць цяплей.* Вусце Чэрык.

Я'РУШКА *ж.* Яравая пшаніца. *Ужо ярушку нада жаць, а йшчэ жыта стаіць — ну й пагода!* Галоўчын Бял.

Я'СІК *м.* 1. Яслі (у хляве). *Сена ў ясіку астанецца, дык я ўжо на пасьціл кладу.* Боркі Кір. 2. Невялікая падушка. *Прыгожы ясік на дзівані ляжыць.* Чырвоная Слабада Бых.

Я'ЧАННІК *м.* Зжатае ячменнае поле. *Пусьці карову пасьціся на ячаньнік.* Тошчыца Бых.

Я'ЧНІЦА *ж.* Ячменная салома. *Вунь калгасьнікі складаюць у сьціртy ячніцу.* Александрыя Шкл.

8. Зак. 870

## ПРЫКАЗКІ, ПРЫМАЎКІ, ФРАЗЕАЛАГІЗМЫ

Абманіў мяне, як чорт добрую душу.
Абпарыўшыся малаком, і на воду студзім.
Ад дошкі да дошкі, а ў сярэдзіне ні крошкі.
Ад енага сэрца з'еш хрэну з перцам.
Адзін з агнём, другі з полымем.
Адзін не людзін.
Адзін чорт, дый той умазаўся.
Адказ, як шыла.
Ад крупені дзеці паглупелі, а як не стала круп, і сам тат стаў глуп.
Адкуль вецер, адтуль і балачына.
Адкуль туча, адтуль і дождж.
Ад ліха ціха, дый дабра не чуваць.
Ад напасці не прапасці.
Адна рада харашо, а дзве луччы.
Адтуль гарачо, адсюль балячо.
Ад цяплосці не баляць косці.
Айдзе добра, там памагачоў многа.
Айдзе з малаком каша, там міласць наша, айдзе ж пуга з вузлом, туды вас з гузном.
Айдзе крыві ні ложкі, там праўды ні крошкі.
Айдзе куца, там і рвецца.
Алтарысты і арганісты не ўсе на рукі чысты.
Ануха даражэй кажуха.
Астаткі з хаткі.
Ат! Ці ляжы, ці не ляжы — прапіў бацька лемяшы.
Ачнуўся Малах — аж скула ў галавах.

Багатага за варотамі страчаюць, а ад беднага дзверы запіраюць.
Баглайка ніколі не будзець хазяйка.
Балазе таму жыць, чыя бабка ўмее варажыць.

Баламутка на ўсякія штукі хутка.
Барыся, барыся, а сам беражыся.
Бацька мой, еш хлеб свой.
Бач, якей пан дараваты: сам ракаў паеў, а старцам усю юшку аддаў.
Бельмы па ложкі — не відзяць ні крошкі.
Бітаму сабаку кія не паказывай.
Благія вочы — благая й рука.
Бліжа сарочка к целу, чымсьці кабат.
Блюдзі палцінку пра злую гадзінку.
Бродня, ды не штодня.
Броў калясом і сапель пад насом.
Будзець і на жыглівую крапіву мароз.
Будзеш мець плеш — не будзеш хадзіць пеш.
Будзь раней слухачом, а патом апавядачом.
Бусенькі-бусенькі — абое галюсенькі.
Былі грошыкі, ды прамышкалі.
Было ліха, дый пагоршыла.
Быў бы каваль, а каваліха будзець.
Быў бы сабака, а кіёк знойдзецца.
Быў квас, ды не было вас; а як сталі квасіны, то й вас чэрці ўзнасілі.
Быў конь, ды з'ездзіўся.

**В**ажыш на рыбу — важ і на кошку.
Валі на сівога: ён усё звязе.
Варвары ночы адарвалі.
Век жывём — век вучымся.
Век зжыць, а вума не нажыць.
Век зжыць — не лукошка сшыць.
Віта вітаці, ды няма чаго даці.
Во калі разарэнне: ні табакі, ні карэння.
Вот табе і спіткі, і з'еткі.
Воўк гадаваны і непрыяцель яднаны — усё роўна.
Воўк і лічанае бярэць.
Воўк не сабакі баіцца — звягі яго.
Воўчая доля расцець скора.
Вужын не нужан: толькі сыт быў.
Выскачыў карпечка з запечка.
Выскачыў на вулку — ды і хап за булку.
Вы — чэрці зводныя, а мы — брацці родныя.
Вядзі каня на аброці, а злодзея на ланцугу.
Вялікае дзіва, што карова чорна, а малако сіва.

Гаварыў бы каток, ды язык караток.
Галоднаму асцюлькі не колюцца.
Гараваўшы, караваўшы і ўмёр не скаштаваўшы.
Гаў — ды і зубы сцяў.
Гладка, як кадка.
Глядзіш, як мыш з дражджэй.
Глянуў, як капейку даў.
Госць выпіць рад, калі хазяін дасць.
Госць не госць, а калатні ёсць.
Госць, як нявольнік, ляжа, хоць і ў пярыну паложаць.
Гоенай раны не трэба дражніць.
Грошы пашлі на раскошы.
Губы тоўсты, ды кішкі тонкі.

Дабром бацькавым хваліцца, а сваё з рук валіцца.
Давай каню аброку — прыедзеш к сроку.
Дай бог нашаму цяляці ваўка паймаці.
Дай божа з маладосці гладаць косці, а пад старасць есці мякаць.
Дай божа ў добры час сказаць, а ў дурны памаўчаць.
Дай мой мех з макам, ды няхай ідзе з такам.
Дай не ўбогаму, а патрэбнаму.
Далёка ад пуза да вока.
Дам хлеба — скокні да неба.
Даў яму перцу з імберцу.
Два мядзведзі ў адной бярлозе не месцяцца.
Двор не каза — не збяжыць.
Дзевачка, спі, а дзельца помні.
Дзе любяць, не ўчашчывай, а дзе не любяць, і нагой не ступай.
Дзе недагляд, там усягды наклад.
Дзіравы мех чорт панёс на дзіравы мост.
Дзіцятка (дзевачка) спіць, а долька расцець.
Дзяды не відалі бяды.
Добрага сабаку на ланцугу трымаюць.
Добра й не еўшы легчы, але пад'еўшы лепш.
Добра пяеш — хадзі ў хату.
Добрая слава ляжыць, а дурная па свету бяжыць.
Доля прымацкая — доля сабацкая.
Дуецць на ўсе застаўкі.
Дурань не вужака — не ўкусіць.
Дурань не дабачыць, а разумны прабачыць.
Дурная галава не лысее, не сівее.

Дурная тая дамова, дзе вала бадзе карова.
Дурной танцоўцы і хвартух завада.
Дурны паспех людзям на смех.
Душа ў чалавека рагатая, без пары не выйдзець.

Ждаў, ждаў ды жданкі паеў.
Жонка сына раджаець — рэдзькі бажаець.
Жонка твая семянніца: што год, то ўдод.
Жонка ці звонка, дзеткі ці гудуць?
Жуда бядзе не помач.
Жыве проці ліха на ўзгорачку.
Жыве ў віру на калу.
Жыве цётка за дзядзькаю.
Жывём — не гаруем, хлеб не купуем, а з рынку кормімся.
Жынка кох, а хазяін вох.

За баляваннем бывае галаданне.
Забелена, ды есць не велена.
Завёў мяне, як чорт добрую душу.
Завідніку пірог, а жаласніку ражон.
Завочнага купца пугаю сцябаюць.
За кукіш пірага не купіш.
За морам цялушка палушка, ды руб перавозу.
За пакушку б'юць у макушку.
За пераборы лапці ды боры.
Заплакаў і цурбалкі пусціў.
За спасіба пірага не купіш.
Затым сляпы плачыць, што сцежкі не бачыць.
Заўтра аб етай пары.
За цара Саса было досыць хлеба й мяса.
За чужымі блінамі сваіх бацькоў памінаець.
Зваліўшыся з высакосці, часам паламаеш косці.
Звыш лба вочы не ходзяць.
З вялікага глагалення няма спасення.
Згразіў: пусціў рака ў ваду.
Здраду прымаюць, здрадніка вешаюць.
Змоладу банкетавалі, а пад старасць старцамі сталі.
Знаемся ўдому — знаймася і ў людзях.
Знае пра тое купец ды мама.
Знаешся, як свіння на перцу.
Знайда ўсё знаходзіць — і тапор за лаўкаю.
Знаюцца між сабою, як лысыя коні.

Знаю, што ты з раю, ды як завуць, не знаю.
З харошай кушачкі — харошыя й птушачкі.
З шчасцем і ў грыбы ходзяць.
Зямелька нас корміць, а сама есць не просіць.
Зяць любіць узяць.

Ідзе рубяць, а куды цуркі ляцяць.
І за лучынку найдзеш прычынку.
І з звярмі звыкаюцца, не толькі з людзьмі.
І каліўкі бацькіны падабраў.
І мой бацька такі маўся, і я ў яго ўдаўся.
І пірагом не заманіш.

Каб ды еслі б, дык і на неба ўзлезлі б.
Каго люблю, таго й чублю.
Каза не дарам воўку скачаць.
Калі б знаццё, што ў кумы піццё, і сам пайшоў бы, і дзетачак павёў бы.
Калі вядзецца, дык і на шчэпку прадзецца.
Калі друг, дык і любачка.
Калі заб'еш бабра, не будзеш мець дабра.
Калі запяе ўдод, тады сей боб.
Калі не нажнём, дык назбіраем.
Калі не паўчэн, дык праўчэн.
Калі няўрод, дык і неўмалот.
Калі пыл на баране, то й хлеб на гумне.
Калі свайго хлеба край, дык і пад еллю рай.
Калі станеш трэсца, дык і хлеб болі есца.
Калі суніца красна, не сей аўса напрасна.
Калі ўмалотна, дык і завозна.
Калі худ, не лезь на кут.
Каля вады ходзячы намочышся.
Каля рота мычыцца, ды ў рот не пападаець.
Камедыя, хто не ведае, а хто ведае, таму няма нічога смешнага.
Каму здалося, а на мне збылося.
Каму няймецца, таму ўсё ілжэцца.
Канае, а зелле хапае.
Карова па ўдою не лічыцца.
Каўнер шырокі, а пяты голы.
Кашэль тугі, а к яму прылучыўся другі.
Каюся, каюся, ды за тое ж хватаюся.
Каянне позна ходзіць.

Квіта, пане Мікіта.
Кінуў слоўцам, як перцам.
Кожны чорт на сваё кола ваду цягнець.
Кошку лашчыш, а яна когці выпушчае.
Кошцы жартушкі, а мышцы смерць.
Куды конь з капытом, туды й рак з кляшнёй.
Куды людзі, туды й я.
Кукіш даў у кішэні.
Кулік чайку ўзяў за чубайку.
Купіць купіў бы, ды купіла няма.
Курачка па зернятку збіраець — і сыта бываець.
Курыца сакочыць — несціся хочыць.

Ладзь яму, як ліхой скуле.
Лазовыя дровы хоць і крыва ляжаць, ды ярка гараць.
Ласкавае цялятка дзвюх матак ссе.
Летам ножкай, а зімой ручкай.
Лецечка не ўлежна, ды ўежна.
Луччы быць зухлівым, чымся баязлівым.
Луччы з добрым згубіць, чымся з дурным найціць.
Луччы ў дзеўках сівець, чымся замужам паршывець.
Любага госця частуюць вясной мядком, а восенню малачком.
Любіш быць узяхам, любі быць і аддахам.

Магарычы мае на грошы твае.
Мае барышы, ды твае грашы.
Маладога гудзі, ды ў дварэ блюдзі.
Маланка ззяе, ззяе — дый блісне.
Малое, ды бальшому завада.
Малыя дзеці — малы клопат, бальшыя дзеці — бальшы клопат.
Марац аткусе палец.
Марка ды Варка — няхай будзе парка.
Матка дзяцей пушыць, а мачыха сушыць.
Матка не цялятка: за злотку не купіш.
Маўчанне не пушыць, ды ўвесь гнеў тушыць.
Маўчы ды дыш — скажуць людзі, што спіш.
Мая кішка не паўтара мяшка.
Мой хвор мужычок, ды красны, як бурачок, а я здарова, ды жоўта, як маркова.
Мякка сцелеш, ды мулка спаць.

**На** белай зямлі сабакі касцяць, а на чорнай — пшаніцу расцяць.
На бязлюддзі й поп чалавек.
Навучыўся на цень брахаць.
Надаела дзела — спацькі захацела.
Надвор'е нечага ганіць.
На жданага госця многа трэба.
На Іллю перапечак наллю.
Найшоў тапор за лаўкаю.
На кожны гук не адгукайся.
На лета другая мета.
На лета, ды не гэта.
Намерся, ды не ўдар.
На пастаці няма чаго стаяці.
На пахілае дзерава й козы скачуць.
На Русі пчолы па гусі, носяць мёд рэзвінамі.
Насміхаецца вольна, ды не калечыць больна.
Настрашыў мех, дык і торба страшна.
На тое каваль кляшчы куець, штоб рук не папеч.
На то і вуланчыкі, штоб запіраць чуланчыкі.
На тым свеце расквітаемся .
На ўсякі чох не наздароўкаешся.
На хаценне ёсць цярпенне.
На ціхага бог нанясець, а быстры сам набяжыць.
Начная зязюлька дзянную перакукуе.
На чужы раток не накінеш платок.
На яду мастак, а на работу вахляк.
Не баіцца ківа — пабаіцца кія.
Не божае каранне, а сваё дураванне.
Не бойся звяглівага, а бойся куслівага.
Не бойся, калі я смел.
Не будзь ні горкі, ні сладкі: будзеш горкі — праплюююць, будзеш сладкі — праглынуць.
Не бяры чужога — не бойся нікога.
Не вер нікому — і ніхто не здрадзіць.
Не гадаў, не жадаў, а само ў рот уляцела.
Не даўшы слова — крапісь, а даўшы — дзяржысь.
Не запрогшы, не кажы «Но!»
Не кайся рана жаняся й рана ўставася.
Не кпі са кпа, часам і кеп цябе адкпіць.
Не можаш памагчы, дык лепей (луччы) памаўчы.
Не падмасліўшы — не паедзеш.
Не труш бабіных груш, а свае трасі ды бабе нясі.

Не туды чырка хвастом кіруець.
Не ўрадзіў мак — прабудзем і так.
Не ўся сарока бела.
Нечага песціцца, калі ёсць дзе змесціцца.
Нешта ты зрахманіўся, як воўк у яме.
Ні азу ў глазу.
Ні пеха, ні меха.
Ні трэц, ні мнец, ні ў дуду ігрэц.
Ніўка, ніўка, аддай маю сілку.
Ні хуху, ні духу.
Новае сітца на колечку навісіцца.
Нюхай, ды не рухай.
Нужда бядзе не помач.
Няма той крамкі, штоб прадаваліся мамкі.
Няма той хаткі, штоб не было звадкі.
Няхай заўтрака чакае.
Няхай луччы наша перайдзець.
Няхай нашы конікі брыкаюць.
Няхай той серадзіць, што на неба глядзіць.

**П**авер босы ходзіць.
Павіннай галавы й меч не ймець.
Пагадзі радзіць, дай па бабу схадзіць.
Падаіў Лыску ды міску.
Падлі, матка, баршчу, а я хлеба пайшчу.
Паднёс вышы нябёс.
Па добрым кусе я й вады нап'юся.
Падступіцесь пабліжа, пакланіцесь паніжа.
Пад чорным лесам спаткаўся чорт з бесам.
Пажывём долей, пабачым болей.
Пазыка — тая ж страта.
Пазыкі ходзяць у лыкі.
Пазычае, хто свайго не мае.
Пазычаны хлеб еш, дый глядзі на яго.
Пазычка хараша, ды аддаваць трудна.
Пайшоў пасол, дый упаў у расол.
Пайшоў Пятрок без парток.
Пайшоўшы ў драку, не жалей хахла.
Пакаецца пасля смерці.
Пакажы сам пуць, як гарэлку п'юць.
Пакорнай галавы й меч не бярэ.
Пакуль тыя барышы, у бабы не стала й душы.

Палажылі Саўку на голую лаўку.
Палепшала бацьку к смерці.
Палічы зубы ў сваім роце.
Памагай, божа, ды й ты не ляніся, нябожа.
Паміж дзвярэй пальца не шчамі.
Паміж людзей і ён чалавек.
Панская ласка да парогу.
Панскі слуга сагнуўся, як дуга.
Паны б'юцца, а ў мужыкоў хахлы трасуцца.
Пан як пан, ды паняты хоць уцякай з хаты.
Параных не бачылі, а мерзлых часта.
Пасканнінка збірае аллянінку.
Пасланца не сцінаюць, не вешаюць.
Паследні нырэц — купанню канец.
Пасля кашы хоць кулак у зашый.
Пашлі пасланца дурнога, а за ім другога.
Пашукаем указу, штоб напіцца па другому разу.
Пей (пой) хоць трэсні, а есць не прасі.
Перабірацца з куста на куст.
Перад папом Хвёдарам расхадзіўся ходарам.
Перад смерцю не надышашся.
Пераеў сыць — захацелася піць.
Пераксці свой нос, штоб вялікі рос.
Пійце, жылы, пакуль жывы.
Пісаў бы пісака, ды пісала нямака.
Пісьменнаму і кніжкі ў рукі.
Поп жыве з алтара, а пісар — з каламара.
Поўна, роўна і кверху дном.
Пра адны дрожджы гаворыць трожджы.
Пра воўка памоўка, а воўк з-пад налуску.
Праглынутага не выплюнеш.
Праплакала бабка ўвесь лес, а па ёй — ані бес.
Праўда груба, ды богу люба.
Проста з моста тарчком галавою.
Процiў вады не сплывешся.
Процiў ліха на ўзгорачку.
Процiў упарства можна найсці лякарства.
Прочкі дзелаюць без сарочкі.
Прыбяруся я мяхом — стыдна будзець жаніхом.
Прывычка не атопак: з нагі не скінеш.
Прыйшла свіння да каня, ды шэрсць не такая.
Прыйшлі калядкі — бліны ды ладкі.
Прыйшло махам і пойдзець прахам.

Прыйшлось Іванцу к аднаму канцу.
Прыйшоў не званы — ідзе не гнаны.
Прымак — той жа батрак.
Прыходзіцца шыльца к більцу.
Прыцапісь к багатаму, а ён адкупіцца.
Прышыў кабыле хвост, а ў яе свой ёсць.
Птушачка й мушачкамі сыта.
Птушачка па бубцы сабіраець і сыта бываець.
Пусціўся Мікіта на валакіту.
Пушка-жыгушка, аджыві жывушку.
Пушны хлеб не голад.
Пяшочкам з мяшочкам.

Рад дурань, што пірог вялік.
Радзіў як радзіў, абы б не падгадзіў.
Разважыў, як размазаў.
Раздзеляць чэрці па чвэрці.
Ранняя птушачка крошкі падбіраець, а позняя вочкі праціраець.
Расці хлапца, ды не жалей дубца.
Ратаваны з вады конь і лужы баіцца.
Рыжага ды крывога бойся, як пса злога.

Сабака брэшаць, а конь ідзець.
Сабака касмат — яму ж цёпла, мужык багат — яму ж добра.
Сабачы век зжыў.
Сабраліся тучкі ў кучкі.
Сава не родзіць сакала, а такога, як сама.
Саломенны муж луччы залатога сына.
Сама сябе жняя б'е, калі не чыста жне.
Сам з кокаць, а барада з локаць.
Сарока шчыкатала, гасцей казала.
Свае чэрці пагрызуцца, дый паміраццa.
Сварка — дзелу папраўка.
Свая сярмяжка не цяжка.
Свая хатка, як родная матка.
Святы пакою, луччы з табою.
Свяці, пляшывы, — боты пашыю.
Сем седакоў на воз — абы конь вёз.
Сёння гулі, заўтра гулі — будзеш хадзіць без кашулі.
Сівізна — у бараду, а чорт — у рабро.
Скасавурыўся, як чорт на пана.

Скаціна не моўна — нічога не скажа.
Скоры паспех людзям на смех.
Служба — тужба.
Смачна было, ды блізка дно.
Смачны кусок найдзець куток.
Смяецца, каму няймецца.
Старожа луччы варожа.
Сто коп у машну хоп.
Страва любіць заправу.
Страляй сароку, варону — даб'ешся да яснага саколу.
Стрымалы з голаду не пухне.
Суджанага і канём не аб'едзеш.
Схіліўшы хвост ды пад мост.
Сядзіць, як сыч, і з носу капціць.
Сячы, дождж, на дзедаў плеш, а нам на кулеш.

**Т**ады баба варажыць стала, калі хлеба не стала.
Тады дзеўка стала пышна, як замуж выйшла.
Тады дзеўка схамянулася, як у пузе страпянулася.
Тады маю, калі ў руках трымаю.
Такі-сякі, сухі, не мазаны.
Так лёгка, як лапці плесць.
Так-сяк накасяк, абы не па-людску.
Так удалося, што баба забіла лося.
Там сядзіць, айдзе й совы не кугакаюць.
Там харашо, дзе нас няма.
Таннае мяса сабакі ядуць.
Татава хата ўсім багата.
Тая, што хвастом матае.
То не бракоўка, калі дзеўка чорна, толькі б была яна праворна.
То не пір, калі прынукі няма.
Трапілась чарвяку на вяку.
Тым жа салам ды па тым жа ранам.
Ты мяне вызваль, а я цябе выўчу.

**У** адной бярлозе два мядзведзі не жывуць.
Увайшлі з кагалам — і бацька з жыгалам.
У вас адпелі, а ў нас ад'елі.
У голад намруцца, а ў вайну наўгуцца.
Угору пайшоў, аж вяроўкі трашчаць.
Удалося, як той Салосе.
Уданы, як запраданы.

Удаўся на прыказкі, як сабачая шкура на прывязкі.
У дварэ не ўежна, дык улежна.
Узяў дзіця за руку — матку за сэрца.
Узяў кабалу на сваю галаву.
Узяў чорт кароўку — няхай бярэць і вяроўку.
У крыніцы сцюдзёная вадзіца.
Уміpae не стары, а паспелы.
У Нясвіжы людзі хіжы: салому таўкуць — бліны пякуць, сена смажаць — бліны мажуць.
У плісіцы тры тысячы.
Упрасіўся злыдня на тры дня, а ў год не выжывеш.
Урадзіўся сівец — жыту канец.
У сваім краю, як у раю.
Усе ласы на чужыя прыпасы.
Усе мае зборы — лапці ды аборы.
Усе падкі на рэчы сладкі.
У скваппага горла вялікае.
У старцах жыць, ды з перцам есць.
У старэцкім целе ды панская душа.
У тры тапары дровы сякуць — аднаго рака пякуць.
Ухадзі, голы, а то абдзяруць.
У яго столькі дамоў, колькі ў зайца калоў.
У яго шыла голіць.

Хадзіў бы ў злоце, ды дзірка ў роце.
Хазяйства вадзіць — не разінуўшы рот хадзіць.
Халву ў палу, а гугель за пазуху.
Харашо іграеш, ды не падцінаеш.
Харошы зацей — усяму парадак.
Хлеба не стала — баба плакаць стала.
Ходзіш, як ашмянскі шляхціц: адну калошу выпусціўшы, а другую абуўшы.
Хоць бяздворны, ды ўсюды праворны.
Хоць вох, ды ўдвох.
Хоць гразь пляскаць, абы сваё сыскаць.
Хоць за пянюшка, калі няма жанішка.
Хоць не багаты, ды зухаваты.
Хоць няўзрачна, ды прыдачна.
Хоць у латаным, абы не ў хватаным.
Хто вінен, аддаць павінен.
Хто да каго, а поп да Кацькі.
Хто захоча, няхай скоча.
Хто кажа на глум, а ты бяры на вум.

Хто круціцца, той жыць вучыцца.
Хто мала мае, той ні аб чым не дбае.
Хто не мае, той не дбае.
Хто перабірае, той перамярае.
Хто позна ходзіць — сам сабе шкодзіць.
Хто топіцца, і за брытву хопіцца.
Хто ўмачыў, той і высушыць.

**Ц**ельца маладзіцца — скулачка садзіцца.
Цешыўся старац, што перажыў марац, ажно і ў маю панеслі яго да гаю.
Ці Лявон, ці не Лявон, а з роду не вон.
Ці ўсё спажыць, што ў чужой клеці ляжыць.
Цягаў воўк авец, цяпер і воўка пацягнулі.

**Ч**аго б та плакаў сляпы, калі б бачыў сляды.
Часам с квасам, а парою з вадою.
Чорт панёс на дзіравы мост.
Чорт чорта пазнаў дый на піва пазваў.
Чорт чорту апавядаўся: адзін міргнуў — другі дагадаўся.
Чужая доля пад бок коле.
Чужая хата — чужы кут.
Чужое дабро бярэ за рабро.
Чужое не свеце й не грэе.
Чужыя грошы — аскома.
Чуў звон, ды не знае, дзе ён.
Чым галей, тым смялей.
Чэравы харашы, а падчароўкі луччы.
Чэшуцца конь з канём, вол з валом, а свіння з вуглом.

**Ш**алёная муха ўкусіла за вуха.
Шануй адзежу ў дварэ, а яна цябе — у людзях.
Што блюдзём, то людзём.
Што будзе, то будзе, а Грышка на куце не будзе.
Што вінен, аддаць павінен.
Што вобак, то прыяцель.
Што вясною ножкаю топ, то зімою ручкаю хоп.
Што год, то прыплод.
Што доля прызначыць, таго ніхто не перайначыць.
Што нам да таго, хто парадзіў каго.
Што на той чэсці, калі нечага есці.
Што рок, то й прарок.

Што страўка, то й папраўка.
Што ў лесе родзіцца, у дварэ згодзіцца.
Шугаючы расшугаеш, а сабіраючы сабярэш.
Шчасце пераходзячы жывець.

Эй, воўча, сядзі моўча.

**Я** быў бы рад радзёшанек, калі б у другі раз быў маладзёшанек.
Я, Васіль, на работу не сіл, а як клёцкі ў малаку, за чатырох валаку.
Язык у роце — меле што хоце.
Якавы мы самі, такія й нашы сані.
Якая матка, такое дзіцятка (цялятка).
Якая ні ёсць вара, еш не перагавара.
Якая прыправа, такая й страва.
Якая сілка, такая й скібка.
Якая яда, такая й хада.
Як брусніца краснабока, дык наспіць парабак вока.
Як гукнецца, так і адгукнецца.
Як жбан сарвецца, дык і разаб'ецца.
Як заруне, дык пралуне.
Які бы той быў крук, штоб выпусціў з рук.
Які ні госць, а ўсё ж клопату досць.
Які павідач, такое яго й павіданне.
Які сакавік, такі й красавік.
Як паў, дык і прапаў.
Як пойдзе ліха з рання, то аж да змяркання.
Як прыйшло махам, так і пайшло прахам.
Я ксціцца — не спіцца, я й варочацца — есць хочацца, а як куснуў, дык і заснуў.
Як уляжацца, песня будзець.
Яна табе праціўна, як старцу грыўна.

# ЗМЕСТ

Прадмова . . . . . . . . . . . . . . . . . . 3
Умоўныя скарачэнні . . . . . . . . . . . . . 5
Слоўнік . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 7
Прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы . . . . . . . . . . 114

**МАТЕРИАЛЫ К ОБЛАСТНОМУ СЛОВАРЮ МОГИЛЕВЩИНЫ**

Издательство «Наука и техника»
На белорусском языке

Рэдактар *А. М. Садоўская*. Мастак *А. М. Пятроў*. Мастацкі рэдактар *В. А. Жахавец*. Тэхнічны рэдактар *В. І. Кручонак*. Карэктар *М. А. Вячорка*

ІБ № 1727

Здадзена ў набор 05.05.81. Падпісана ў друк 16.07.81. АТ 18169. Фармат 84×108[1]/32. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Друк. арк. 4,0. Ум. друк. арк. 6,72. Ум. фарб.-адб. 21,11 тыс. Уч.-выд. арк. 6,65. Тыраж 3000 экз. Заказ № 870. Цана 45 к. Выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук БССР і Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68. Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка». 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68.